Ст. Тамашэвічу

Private copy
For private circulation only



ЛІТАРАТУРНА - ГРАМАДЗКІ
ЧАСАПІС

№ I

1947

"КРЫНІЦА"

# А Д  Р Э Д А К Ц Ы І .

Сакавік - ці ёсьць сяньня ў нас другое такое слова, у якое мова й гісторыя ўлажылі гэтулькі глыбокага й хвалюючага зьместу?

Сакавік - першы весьнік вясны, які адчыняе залатымі ключамі зямлю, будзіць із даўгога зімовага сну ейныя жыцьцятворчыя сокі, гоніць іх высака ў смагай стомленыя кляны й бярозы, выпушчае ўсюды бруіцца й крынічыць із глыбінных нетраў шпаркія токі жыцьця, росту й красаваньня. Як паэтычна-трапна, заправўды сакавіта, ахрысьціла ў нашай мове гэты месяц пранікліваяя народная мудрасьць!

І Сакавік - воляю Кону - таксама першы весьнік магутнага нацыянальна-гістарычнага ўзруху, які імпэтна ўзагнаў на ўзьверх адвечныя крыніцы незамёрлых і несьсякальных жыцьцёвых сокаў творчаздольнай і дабраароднай нацыі, узьвіхрыў іх у векапомным выбуху народнае волі да Волі. Сакавік - месяц вялікага Акту-Чыну, месяц Незалежнасьці.

Дык і для нас тут "Сакавік" - гэткі сымбаль вясны прыроды й вясны нацыі. Мы верым, што гэтая вясна далёка яшчэ не адкрасавала, мы пэўныя, што навет тут, на чужыне й на злым выгнаньні, навет нашымі сьціплымі сіламі можна й трэба ўзгадаваць і дагледзець хоць невялічкі пакуль гародчык ейных сьвежых, а можа часам і пышных красак.

Мы хацелі-б, каб гэтта й быў такі гародчык жывое вясны, але не гарбары ці альбом засушаных зёлак (або йшчэ горш - бясконцых копіяў іхных узораў), ці хоць-бы сабе , можа й мілых успамінаў, ды ўжо даўно й ня намі зьяўленых сьвету й людзям красак шыпшыны, каліны, маліны... Мы хочам найперш даць тут мясьцінку пад сонцам жывым творам тых сьвежых сокаў, якія гоніць Вясна-Сакавік на сьвятло сяньня, або тых, якім дагэтуль не далося выбіцца на сьвет белы зь нетраў няпомысу.

Мы, праўда, ня супраць гэрбарыяў ці альбомаў наагул. Мы навет уважаем іх за рэчы карысныя й патрэбныя , можа навет канечныя нашым часам і ў нашых абставінах. І калі хто не пачувае ў сабе ані сілы ці здольнасьці, ані волі ці духу да стварэньня новага й адкрываньня нязнанага - няхай прысьвеціцца й надалей гэнаму засушваньню й перасушваньню, прапарацыі й дэманстрацыі перад нямалой яшчэ, праўда, грамадой малаабазнаных ці зусім неабазнаных і нясьведамых таго, што даўно ўжо сталася грамадзкім набыткам. Але як на нас, дык гэта можа навет і грэх быў-бы захапляцца перад рукамі сотні разоў перадрукоўванага, калі можа загінуць(дый гіне!), хай найменшая макулінка, з таго, што яшчэ зусім не пабачыла сьвету і што, пабачыўшы яго, хоць як, а будзе сьветчыць перад гэтым сьветам аб жыцьцястойкасьці й творчасьці нацыі навет пры найгоршых і найскрутнейшых перагасах долі.

Прычыніцца да гэткага сьветчаньня няўмірушчасьці й нязводнасьці народу й духу Сакавіка - і будзе нашай галоўнай задачай і абавязкам перад чытачом, ласкавай увазе якога й даручаем гэтта.

В. Аганёк.

# Васілёк і Незабудка

Казка

(Багдановічавым "беларускім вершам")

За сіняй даляй-далінаю,
за тры-дзевятаю гарою,
за шчырым борам за дрымучым,
за тым дунаем за кіпучым,
дзесьці за садам ціхай вёскі
раскінуліся ніў палоскі,
у сонцы ясным спалоскаліся,
на ціхім ветры ўскалыхаліся,
зазалаціліся пшаніцаю,
заззялі мёдавай расіцаю,
жаўронка песьняй заліліся,
із братам лугам абняліся
ды песьні-дзівы мне пялі,
ды казку-цуд мне расказалі.

-х-

Жылі-былі
дзядок сівы
з бабулькаю старэнькай
і каля печы
грэлі плечы
у хатачцы маленькай.
Сядзяць яны,
ядуць бліны
і мёдам запіваюць,
аб сім, аб тым
шча сьніцца ім,
дык вось яны ўздыхаюць:
"-Відаць, мы Богу награшылі,
відаць людзей мы загнявілі,
што я ўсё, дзедка мой, з табою
адна - сіротка зь сіратою.
Нічога ў сьвеце-б не хацела,
каб я дзяўчынку-ўнучку мела,
я песьціла-б яе, кахала,
ў ружовы шчочкі цалавала!..."
"-Але-ж, гады йдуць за гадамі,
а мы з табою адны самі.
Няхай-бы, любка, хоць пад старасьць
Узрос малойчык нам на радасьць!
Няхай-бы вырас наш сыночак
як той прыгожы сакалочак,-

я-б галавоў нашу дзяціну,
тую залётную птушыну..."
ляцела з поля шэра зязюля,
зірк! смутны дзедка, плача бабуля,-
лёт свой спыніла і на галінку
шусь! пад ваконца да адпачынку.
"-Ня плач ты, бабка, ня плач ты, дзедка,
вырасьце дзетка у полі кветкай.
Мяжой ідзеце, ніўкай гукайце,
знойдзеце ўнучка, толькі шукайце!"
Пачуў дзядок,
схапіў кійок
і ўжо-ж ён панясецца,
ды бабка; "стой!
і я з табой!"
і вось яна пляцецца.
Ідуць-брыдуць,
хоць іх чуць-чуць
старыя нясуць ногі,
і дзе пастануць,
там гукаюць
на межах, ля дарогі.
Цэлае поле абхадзілі,
пэўна зрабілі ўдоўж тры мілі,
і ўжо да дому павярнулі,
бо за цяжкія гэта гулі.
Аж вось, дзе жыта каласіцца,
краска, ці што мігціцца?
Гэта ня краска-васілёчак,
гэта ня сіні матылёчак,
ня ясна соўнейка сьвітаньне
і не жаўронка шчабятаньне;
хлапчына песеньку сьпявае
і красачкі зьбірае,
б'е зь сініх вочак аганёчак,
завецца Васілёчак!
-Скочыла бабка, пабег і дзедка,-
Такое дзіва бывае рэдка!-
лепшага шчасьця ня трэ' нікому,
хлопчыка несьцяць, вядуць дадому.
У малой хатцы з шэрай страхою
уцеха кучай, шчасьце гарою.
Цешацца дзедка і бабка з сына;
расьце ня днямі, а штогадзіны.
Дзедка за люльку-
бабка кашульку
сыночку-ўнучку шые,
сонца пагрэе,
ветрык павее,
а дождзык памые.
Гэй, гэй, на волі
у шырокім полі
Васілька наш гуляе
і белакрылых
гусак мілых
на луг зялён зганяе.

На тым лужочку на травіцы,
У залатой божай расіцы
краскі галованькі злажылі,
шэпчуць, што сяньня ночы сьнілі.
Над лугам, быццам матылёчак,
Імчыцца Васілёчак,
васёлу песеньку сьпявае
і красачкі зьбірае.
Сьмяюцца ўсе яны хлапчыне,
ці на іх вочкам хоць ня кіне.
Ен сваіх гусак даганяе,
далей, далей – і ўжо зьнікае.
Аж раз над самым ручаёчкам–
штось сьвеціць сінім вочкам.
Ен да Дунаю бяжыць хутка,
аж гэта – незабудка.
На аксамітным з травак каберцы
сьціпла схавалася, а ў само сэрца
просяцца барвы блакіту неба:
"–Ах, незабудку вырваць мне трэба."
Песьціць Васілька краску рукою:
"–Хадзі ты, краска, хадзі са мною.
Мне цябе трэба ўплесьці ў вяночак
і цалаваці ў золата вочак".
Ен хоча рваць,
ды стой – чуваць
ціхенькі галасочак:
" – Ня рві мяне,
дазволь ты мне
расьці тут, Васілёчак."
" – Што? Гэта-ж цуд,
каб краска тут,
як людзі, гаварыла!
Скажы-ж ты мне,
чаму ў табе,
адкуль такая сіла?"
"–Ах, я ня краска, – я дзяўчына,
зачаравала чараўніца,
жыве за возерам далёка,
завецца ведзьма Злое Вока..."
І сьціхла Незабудкі мова,
больш скаргі – ані слова!
Адно красою гэтак просіць,
аж сэрца ня выносіць.
Стаіць Васілька спахмурнелы,
каралі гневу ў твары белым,
на сініх вочках іскры-сьлязінкі,
жаль ім нядолі беднай дзяўчынкі.
Бывай здарова, Незабудка!
Чакай мяне няхутка:
знайсьці я мушу ведзьму злую,
цябе я адчарую!"
У малой хатцы з шэрай страхою
Льлюць дзед і баба сьлёзы ракою.
Ужо ў дарожку ўнучак сабраўся,
нізка скланіўся і разьвітаўся:

"-Будзьце здасовы ды ня тужэце,
а што нядзелі ў вокны зірнеце,
добранькім словам успамінайце
ды што няхутка - не наракайце".

-х-х-х-

Ідзе - брыдзе,
па лебядзе
між ніваў ён мяжою,
за луг, ручай,
за цёмны гай,
аж зьнік там за гарою.
Хадзіў, гукаў,
усіх пытаў -
нідзе не дапытаўся.
За дзевяць гор
у шчыры бор
нарэшце ён дабраўся.
Зьдзівіліся зайцы й ваверкі,
ліс, барсук вылезьлі з норкі,
зьвяры і птушкі абнямелі,
гасьця пабачыць захацелі.
Спытаўся - хорам адказалі,
палянку паказалі
ды ў ногі! - ведзьме паказацца
і воўк і ліс баяцца.
А наш Васілька з тварам горды
выходзіць сьмела крокам цьвёрдым.
Ідзе так зь лесу наш герой
ды на палянку.
Братка, стой!
Вунь хатачка зь сьвінной шчаціны
На лапках на курыных,
накрыта пер'ем, шалупою
ды рыбяю лускою.
Хатка скасілася-перакасілася,
быццам з Васількі вельмі зьдзівілася,
то стане задам, то стане бокам,
адным вакэнцам сьвеціць, як вокам.
Зірне-загляне ведзьма за дзьверы:
"-Чаго шукае тут хлопчык сьмелы?"
Як зарагоча, як засьмяецца,
Ажно па лесе рэха нясецца:
"-Хадзі, сынок,
пэўна здалёк,
дык адпачыць зайдзіся,
чакаю тут,
на самы кут
як госьцічак садзіся".
"-А ня ў госьці
к яемосьці
і не частавацца,
а на персьцень
жыцьця й сьмерці -
чараў пазбывацца!"
"-Ну, годзе жартаў! - ведзьма як крыкне,-
хто мне папаўся, той больш ня пікне,

мусіць спаўняці ён маю волю
і нарэкаці на сваю долю."-
Засьвішчала толькі ў хаце
і ведзьма на лапаце
цераз комін жыва,
палянку абкружыла.
Ледзь наш Васілька охамянуўся,
ужо у крузе апынуўся,-
ні бегчы ўперад, ні вяртацца,
ні ўлева-ўправа павярнуцца.
Злых чараў ведзьмы моц і сіла,
што плот, абгарадзіла.
Тут заставацца, тут і жыць,
каб ведзьме злой служыць...
-х-х-х-х-
Шчыра гаруе наш Васілёчак,
бегае мышкай цэлы дзянёчак,
есьць хлеб зярнёткам, соль па драбочку,
сьпіць на саломцы і пальночку.
А ці ён ляжа, ці ён устане,
з жалю ён сохне, з тугі ён вяне,
па хаце ў ведзьмы ходзіць у смутку
ды ўспамінае ўсё Незабудку.
Як гадзіна,
як часіна,
лета ўсё прапала
ды імглою
залатою
восень на сьвет пала.
Пажаўцелым
лісьцем сьпелым
жаляцца бярозы
і з хмурыначак
бел-пярынак
кропіць дожджык-сьлёзы.
Паслала ведзьма Васілёчка
зрываць у лесе ўсе лісточкі,
усе лісточкі абтрасаці,
голу зямельку высьцілаці.
Імчаўся лесам вецер-сьцюжа,
Жаль хлопца яму дужа,
дзьмухнуў-павеяў - і лісточкі
лятуць, як матылёчкі.
"-Ах, шумны вецер, ты на волі
гуляеш вечна ў шчырым полі
ды сум ча сэрца навяваеш,
што я ў няволі - ты чя знаеш.
Каб мне ў лісточак замяніцца
і зь ветрам пакаціцца
на Беларусь, у ціху вёску,
на родную палоску!"
У малой хатцы з старой страхою
ня маюць бабка зь дзедкам спакою
рана і позна ўнучка чакаюць,
ды ўжо ня плачуць, толькі ўздыхаюць.

А ён дзянёчак белы гаруе,
а цэлу ночку цёмну сумуе,
ці устаець ён, ці ён лажыцца -
пра Незабудку сон яму сьніцца.
-х-х-х-х-х-
Над палямі,
над лясамі
сьвішча завіруха,
із сьнягамі,
з маразамі
йдзе зіма-сьвякруха.
Як застогне -
краска ссохне,
траўка пабялее,
бо ў ваконца
бледна сонца
сьвеціць, ды ня грэе.
Слала Васілька чараўніца
вешаць сьняжынкі на травіцы,
каб быццам зорачкі іскрэлі,
у блеску сонца залачэлі.
Ішоў Мароз, сівы дзядочак,
аж плача Васілёчак,
дзьмухнуў-павеяў - і лес цэлы
адзеўся ў шэрань белы.
"-Ой, белакрылыя сьняжынкі,
вы матылёчкі, вы іскрынкі.
ляціцё вольна вы на полі,
а мне ня быць із вамі болей!
І мне-б імчаць віхром із вамі,
кружыцца над лугамі,
да Беларусі наўсугонкі,
да роднае старонкі!..."
А там у хатцы з шэрай стрэхою
і ў позны вечар, і раніцою
вачэй чацьвёра ў даль пазіраюць,
Васільку дзедка з бабкай чакаюць.
А ён працуе белы дзянёчак,
а ночы гіне сон зь сініх вочак,
думкі на волю ўсё адлятаюць
ды Незабудку сваю шукаюць.
-х-х-х-х-х-х-
Плывуць сьнягі
і лес, лугі,
і рэчкі аджываюць.
І Сакавік
Край ажывіў,
сьмяюцца ўсе, сьпяваюць
Вясна, вясна!
Ідзець яна
ў бялюсенькай кашулі,
дзе ні зірне,
дзе ні кіўне -
каханьне, песьні, гулі.

Ведзьма Васільку пасылала
будзіць травіцу, каб ня спала,
будзіць красачкі-пралескі,
каб паглядзелі ў сонца блескі.
   А Сакавік ішоў, сьмяяўся
   ды з Васільком спаткаўся,
   павеяў ціха – і як спалі,
   так красачкі ўсе ўсталі.
"–Ой, вы, красачкі, вы, кветкі,
шчасьлівыя вясны дзеткі!
Дзе ні зірну, дзе ні гляну –
цьвіцілё вы, а я вяну.
Каб я мог ружай красавацца
пры маёй роднай хатцы,
пад беларускім цьвісьці небам,–
нічога-б больш ня трэба!..."
   А там у хатцы ў той маленькай
   дзядок сівенькі з бабкай старэнькай
   горкія сьлёзы труць-выціраюць,–
   пра свайго ўнучка ўсё успамінаюць.
А ён бляднее, сіція вочкі
сьвецяцца сумам, бо ўсё што ночкі
вечна той самы сон яму сьніцца:
да незабудкі сэрца імчыцца.
      –х–х–х–х–х–х–х–
         Наказала,
         загадала
      ведзьма пры пагодзе
         сеяць зельле
         мак-насеньне
      Васільку ў гародзе,
         каб на градках
         густа, гладка
      зерне к зерню пала,
         каб здалёку
         біла ў вока,
      цьвіло-расьцьвітала.
Дала Васільку зерня гарчык
ды завязала ў рукаўчык,
ядвабам-шоўкам густа тканы
ды злотам-срэбрам вышываны.
   Ды як над зельлем чар шаптала,
   таго яна ня знала,
   што ў той рукаўчык ураніла
   пярсьцень, дзе ейна сіла.
Васілька ходзіць па гародзе
ды толькі роіць аб свабодзе.
Як выбавіць ад лесу злога
дзяўчынку і сябе самога?
   Ажно ляціць зязюля з поля:
   "–Пакінь ты сум, сяколе!
   Ты-ж носіш ключ да собскай волі,
   што-ж трэба табе болей?"
Пярсьцёнка хутка ён тут шукае,
на палец левай рукі ўзьдзявае
і тэй часіны сьціхлі ўсе чары,
як уцякаюць ад сонца хмары.

Вось і палянку ён пакідае,
і круг бясьсільны – больш ня трымае.
Васіль на волі, песьні сьпявае,
што Незабудку ён прывітае.

-х-х-х-х-х-х-х-х-

О, не, пастой,
саколік мой!
Назад ты азірніся:
ня лес шуміць,
ня гром грыміць,-
пагоня! – Сьцеражыся!
На уцёкі
шлях далёкі,-
вунь стаіць каліна!
Ня прыймае?
Дык схавае
лепей мо' асіна?
Ня хоча і яна дурніца,
бо помсты ведзьмінай баіцца...
Млела-дрыжэла хлопцава сэрца,
аж бачыць ён: вунь явар-дрэўца!
Васілька доўга не прасіўся,
Сам явар нахіліўся,
укрыў яго у сваёй кароне:
тут ведзьма не дагоне!
Яна-ж замком запёрла хату,
ажэргам села на лапату,
віхром праз комін падняляся
і сьвежым сьледам панясліся.
Стаіць чырвоная каліна:
"-Скажы мне, дзе хлапчына?"
"-Такіх ніколі ня прыймаю,
асіне пасылаю!"
Імчыцца ведзьма зноў цёмным гаем
і у асіны хлапца пытае.
"-Не, не ў мяне ён, я не схавала,
а пад высокі явар паслала".
Ведзьма імчыцца бурай шалёнай
проста на явар горды, зялёны.
Хлапцу аж сэрца біць перастала,
просіць, каб дрэўца не выдавала.
"-Мой яварок,
скажы, кумок,
мо' бачыў ты хлапчыну?
ня ён сядзіць,
як ліст дрыжыць,
залез на верхавіну?
"-Не, кумка, не!
Яго у мяне
ня знойдзеш, не чапіся!
Пабег у лес,
на хвою ўзьлез,
туды за ім гоніся".
Зьнюхала носам Злое Вока,
што тут хлапец сядзіць высока,
стала карыцу грызьці зубамі
ды рваць карэньне кіпцюрамі.

Трашчыць, трасецца явар крэпкі,
лятуць на лес на цэлы шчэпкі
ды гоніць вецер пілавіньне.
Загіне Васілёк, загіне!...
-х-х-х-х-х-х-х-х-х-
Аж вунь на небе заблішчэла,
белая хмарка забялела.
Гэта ня хмарка: лебедзі-гусі
лятуць з-за мора да Беларусі.
"- Божыя птушкі, лёт зьніжэце
і мне вы памажэце,
скіньце па белай па пярынцы,
із крылаў па пушынцы!"
лебедзі-гусі ўчулі-пачулі,
Хлопцу па белым пёрку сыпнулі,
яны-ж на явар хмаркаю палі
ды Васілёчку крыламі сталі.
Ой, паляцеў ён птушкай па волі,
па сінім небе, з горкай няволі.
А ведзьма толькі загаласіла,
што з хлопцам зьнікла ўся чараў сіла.
-х-х-х-х-х-х-х-х-х-х-
Ад зор ніжэй,
ад хмар вышэй
лебедзі-гусі ляцелі,
за цёмны гай,
за ім ручай,
там на лужочку селі.
"- Бывайце-ж вы,
мае браты,
тут трэба нам растацца,
бо я ляцеў,
што сілы меў,
каб зь любаю спаткацца".
На лузе пале ўжо расіца,
між траўкаў - красачка-дзявіца
галоўку клоніць на лісточкі
і зачыняе да сну вочкі.
Ён тут пярсьцёнак свой выймае,
на палец надзявае,
кранууся зьлёгку краскі сіняй
і кажа: "Будзь дзяўчынай!"
І бач! Ці месяц серабрысты
уплыў на неба моры чыстым?
Ці гэта зорка заіскрыла?
Зара вясёлкі засьвяціла?
Не, гэта стройны стан дзяўчы,
як зоркі - сіні вочы,
усход ружовы - шчок каралі
як месяц косаў хвалі!
Ідуць абое - рука з рукою -
да нізкай хаткі з шэрай страхою.
А такой пары - не раставацца,
толькі пець песьні, толькі кахацца.

Як іх там бабка зь дзедкам віталі,
як цалавалі,
як віншавалі,
ні таго ў казцы не расказаці,
ні таго ў песьні не прасьпяваці.

-х-х-х-х-х-

За сіняй даляй-даліною,
за трыдзевятаю гарою,
за цёмным борам за дрымучым,
за тым дунаем за кіпучым,
як сіні вечар паў расою
пад саламянаю страхою
шумелі госьці на вясельлі,
за сем сталоў укруг паселі.
Вясёла музыка іграла,
моладзь лявоніху скакала,
а бабка зь дзедкам частавалі,
у чаркі мёду падлівалі.
І я там быў сярод гасьцей,
Каб толькі клікалі часьцей.

---

# Нязнаны верш Васілька

Эх, дзе вы, дзе - радзімыя прасторы
Чаму па вас сумую сяньня я?
Зіхцяць агнём баварскай ночы зоры,
Зьнічэй за іх - гарыць душа мая.
Малюся ім - усьмех лаўлю халодны,
А вусны шэпчаць: зорачкі мае,
Мо занясьлі-б прывет хацінцы роднай
Туды, ў той край, дзе сонейка ўстае.
Вось месяц сьвет расплёскаў з срэбнай місы,
Стаю з задумай, горкаю да сьлёз,
А у садку кляшторным кіпарысы
Расьцьвеціў дыямэнтамі мароз...
Ці я гадаў, Баварыі прыгожасьць,
Вітаць цябе ў нявольніцкім страю,
Што шлях к табе быў сьмерці падарожжам
За шчасьце й волю, толькі не сваю.
Гэй, зоркі сьлед зламіў апалай вокам
І сэрца болем кранула ізноў,
То панясла прывет у край далёкі,
Да родных вёсак, сёл і гарадоў.
Хоць цяжар зьвіс сталёваю завісай,
Перамагу яшчэ адзін прыбой.
А у садку кляшторным кіпарысы
Здаецца мне, ківаюць галавой.

1940.

К. Каганец

# Сын Даніля

Гістарычная драма ў трох дзеях.

Ад рэдакцыі. Друкуем тут поўны тэкст нядрукаванага за жыцьцём аўтара ягонага твору з рукапісу, які выпадкова ўдалося перахаваць аднаму з нашых супрацоўнікаў. Дагэтуль быў апублікаваны няпоўны тэкст першых накідаў твору Я. Лёсікам у газэце "Беларусь" у 1920 г. Твор напісаны ў 1910 г. у часе зьняволеньня Каганца ў Менскай турме. Захоўваем тут усе асаблівасьці аўтаравае мовы, якія не пярэчаць сучаснаму правапісу.

## Д З Е Я I.

Д а н і л а , баярын
У л ь л я н а , жонка яго
С т а р ы , што коміна пільнуе
М а ц і Даніла ва
Р о д з ь к а , ціўн
П у т н ы х б а я р а ў пяць.
Д з е ў к і прыслужныя,
Х л о п е ц

Ля вакна сядзіць маладая баярыня за прасьніцаю й глядзячы ў вакно сьпявае:

Ульляна
У лесе, у лузе крынічка была,
Над тэю крынічкай калінка расла,
Ой, тама бывала галубка сіва·
Ды чыстую воду з крыніцы піла.
Стрывожыў галубку галуб малады.
Хоць страшна пакінуць жыцьцё безь бяды,
Хоць шыза галубка свабодна была,-
За шызым галубам у клетку пайшла.
У клетцы з галубам шчасьліва жыве
І песьню сардэчну радзенька пяе.

Даніла. (Ціхе падыйшоўшы, цалуе яе) Эх жонухна, галубка мая любенькая!
Ульляна. Што ты такі чагось невясёлы як-бы?
Даніла. Эх жонухна, жонухна! Годзе ўжо нам вэрхаваці, годзе цешыцца сабою...
Ульляна. Што ты? Ці я табе ўжо прыдакучыла? Ці мае карыя вочы табе прыгледзеліся? Ці мае белы рукі, цябе абдымаючы, надзелі? Ці грудкі поўны табе абрыдалі?

Даніла. Ня тое, галубка, ня тое. Не прыдакучыла ты мне ні сваймі вачанятамі карымі, ні ручкамі сваймі белымі, ні грудкамі сваймі поўнымі, а трэба мне ў дарожаньку зьбірацца, на бой-вайну выпраўляцца. Князь, бач, весьць прыслаў, баяраў на бой склікаючы,на ворага, што рубеж ад узыходу парушыў і дужа лютуе, нашыя воласьці грабячы, сёлы й месты палячы... Трэба йсьці сваіх бараніці.

Ульляна. І ты паедзеш, і мяне пакінеш?

Даніла. Мушу, сэрцайка, мушу. Не тое я радзіўся, каб край свой бараніці. За тых зямцоў, пасялянаў, што нас хлебам кормяць, сваю кроў гатоў-бы быў праліці. На тое я зь дзядоў-прадзедаў баярынам звуся.

Ульляна. І што я, бедна, рабіціму? І цябе супыняці мне не падабае, яка жонцы баярскае, і застаўшыся безь цябе,голубе, я з тугі загіну. Знаць ліха помстуе над намі за тое, што дужа шчасьлівы былі. Ой, гора-ж, гора маё беднае... А што-ж,як каторы цябе садане... Не! І згадаці страшна...

Даніла. Пакінь, галубка, наперад жахацца! Дасьць Бог, здароў вярнуся назад.

Ульляна. Хацяб скарэй. Ты лішне ня бўся, а як пражэняце ворага, так проста й дадому вяртайся!

Даніла. Добра яно сказаць - скарэй, а на дзеле то Бог ведае, як будзе.

Ульляна. І навошта гэтым людзям вайна далася? Б'юць, рэжуць, мардуюць, грабяць, паляць... Колькі то ўдовіх сьлёз праліецца, колькі крыві маладзецкае... І ня могуць яны жыці ў злагадзе й міру? Чаго яны не падзеляць? Чаго помстуюць?

Даніла. Гэй, жонухна, ня нашае з табой дзела справы мірскія ведаці. На тое ё большыя за нас. Я да іх не пайду, а сваіх бараніціму.

Ульляна. Ты! Я думаю,ты-б і злосьніку крыўды сам ня ўчыніў.

Даніла. Э, што там, усе людзі, як людзі.

Ульляна. Ой, ня ўсе, голубе, ня ўсе.

Даніла. Чаму? Можа табе хто крыўду прычыніў? Што ты так людзей спазнала?

Ульляна. Не, я так. Няўжо ня праўда?

Даніла. Ведама, што ня ўсе роўныя. Ну, але трэба зьбіраціся, я й так задлякаўся з табою.

Ульляна. Як, ужо?

Даніла. Ды ўжо-ж. Гэтага дзела не адлажыці. (Да ўвойшлага старога, што коміна пілнуе). Схадзі ты,друже, клікні да мяне старога Родзьку.

Ульляна. (галосіць) Божа-ж мой, Божа ласкавы! Якія правінасьці мы ўчынілі, што нас дужа карай пытаеш? Мы ўсяго гадочак, як адзін дзянёчак, з сабою пражылі. Божа міласьцівы, ці ўжо мы накахаліся, ці ўжо наваркаваліся... Ад'яжджае ад мяне мой сакалочак, шызы галубочак. Нясе сваю галоўку буйную пад шаблі дый гойстрыя, пад тапары важкія, пад пікі сталёвыя... (плача). Каб тыя варагі лютыя сьвету-сонца ня бачылі, як яны тую вайну панялі, тую крывавую зачалі... (плача). І на каго-ж ты мяне пакінеш, мой саколе любы, мяне сіратціну, бяз сэрца прыхільнага,

без парады шчырае... (плача).

Даніла. Ды супакойся, зязюля, адна ня будзеш. Маці мая парадай ці стане, а я, дасьць Бог, хутка здароў завітаю.

Ульляна. Ой, маці, маці! Ня любіць мяне маці твая, ня церпіць маладосьці маяе.

Даніла. Пакінь! То яно табе так здаецца. Пустая думка на дум табе вярзецца. Чаго разрыдалася ты, дурна? Чаго сьлізьмі ясны вочы цьмяніш?

Маці. (уваходзіць) Чаго ты расплакалася, як пагода ўвосені? Чаму ты яе ня супынеш? Ці то ёй хлеб у мужа агорчаў? Ці збрыдзіла сьвякровін голас?

Даніла. Ня тое, матка, чаўпеш, адно болей тугі ёй прычыняеш. Мне, бачыш, трэба вас пакінуць, мушу ехаці.

Маці. Ага, я чула, то вайна ідзе, ды ці то наўда. На тым сьвет стаіць, што мужчыны дома не сядзяць, і мой на вайну хадаваў. Ці мала дарагіх бармоў і павалок, дый хустаў красных, ды маністаў дарагіх прывожаваў. На тое мы баяры, каб вайну ваяваці, а ня жонку ў сьвятліцы абдымаці, стыдалася-б так плакаць. А ты, сынок, шануйся, без патрэбы ня совайся, а я тваю зязюлю ўберагу, ад усякай крыўды захаваю, ня дам ёй ручак замараць. Хоць яна й маладзенька й гуляці дасужа... Ды што там гаварыць. Будзь спакойны, на тое я маці.

Даніла. Спасібог, матка, за добрае сэрца. Глядзі-ж, матачка, яе, як роднае дачкі свае. Хай Бог вам паможа. А цяпер вы, бабкі, падумайце аб ядзе, а мне зьбірацца ўжо час.

(Уваходзіць Родзька зы старым)

Родзька. Чалом ці, баярыне. Яко прыказаньне мне загадаеш, саколю?

Даніла. Вось што, цівуне, нам на вайну трэба ступаці.

Родзька. Гэта ўжо знаю і ўжо сёе-тое прыгатавана, саколю.

Даніла. Вось бачыш, я ў такіх справах яшчэ ня бываў, а ты чалавек бывалы, ваяка дазнаны, знаеш лепей, што трэба, каб усё было, як да рэчы.

Родзька. Будзь, саколю, спакойны! Здайся на маю стару галаву. Стары Родзька, саколю, сараму ня прычыніць і ў прыгодзе йшчэ не завядзе. Пацеш, тымчасам, саколю, сваю паню красну, каб сваіх вочак ясных не псавала, ды пасіліся хорашанька на дарогу, бо Бог ведае, дзе вячэраці будзема. А пад тваю міласьць думаю варанога ўзяці, а буланага то на повад вазьму, той у баі паваратнейшы, хоць не такі сабою стройны.

Даніла. Добра, дружа мой верны, рабі, як сам знаеш, абы добра было.

Родзька. Будзь спакойны, саколю! (Выходзіць)

Ульляна. (уносіць кумпяк бараніны, а за ёю маці збан зь мёдам). На, пасілкуйся, саколіку мой ясны! Хто табе там падасьць? (Плачучы, засьцілае абрус і ставіць стравы, налівае ў кубак мёду, надпівае, і сеўшы пры мужу, як той пачне есьці, гладзіць яму чупрыну, супакоіўшыся).

Даніла. Хто падасьць, кажаш, то не бяда, і ў мяне рукі ё, хоць можа й ня так салодка будзе. Але каб вайна не зацягнулася, каб Бог памог хутчэй ворага выгнаці. Ты за мяне да Бога тут уздыхні.

Ульляна. Ой буду, буду, галубчыку шызы. Бога маліці, хаця-б цябе здаровенькага дамоў прывеў. І ты, як табе часам маркотна стане, нагадай абы мне! (уцірае вочы, усхліпваючы)

(Маці тымчасам выходзіць, прыносіць сарочкі й складвае ў вярэню й падае старому, каторы выносіць).

Маці. Падай гэта Родзьку.

Даніла. Хадзі, матка, выпі з намі на развітаньне.

Маці. Ды пеце ўжо хаця вы, маладыя.

Даніла. Каб хутка здаровым пабачыцца!

Маці. Дай Божа!

Ульляна. Каб вораг аднаго віду вашага спалохаўся і ўцёк, каб і біцца неськім было.

Маці. Эй ты, сарока, яшчэ ты маладое; неразумнае. А слава, а добыча, палон дзе будуць?

Ульляна. Э, ці ў нас свайго ня хваціць. Праўда, голубе?

Даніла. Як Бог дасьць, так будзе, а нам лепей-бы ворага ня знаць (Ульляна абдымае й цалуе мужа).

Родзька. (уваходзіць) Ну, баярыне, гатова ўсё, саколю.

Ульляна. (падаючы яму кубак зь мёдам). На, выпі, дружэ, на дарогу, каб весялейша было вам.

Родзька. Спасібог, красна маладзіца. Дай Бог вам шчасьце й пацеху, саколю!

Даніла. А суседзі путныя ўжо прыйшлі?

Родзька Аднаго толькі, саколю, яшчэ ня было, ды той ужо павінен зьявіцца.

Даніла. А вось што, пакліч іх сюды ў сьвятліцу і выпіце на дарогу, каб весялей на душы было. А ты, матка, страваў прыкажы падаць і мёду.

(Уваходзіць Родзька і пяць путных баяраў, кланяюцца гаспадаром шапкамі да зямлі. Дзьве дзеўкі прыносяць стравы, трэйця хлеба бохан, а хлопец збан мёду).

Баярын путны. Здаровы былі, баярства маладое, шчасьліваю доляй у пару злучанае!

Даніла й Ульляна. На здароўе вам!

Даніла. Вось сядайце, другове, і пасілкуйцеся ў пуць-дарогу трудную, на дзела, бач, ратнае.

Баяры. Спасібог, спасібог! (сядаюць).

Баярыня. Скора здаровым з поўнымі тарокамі, з палонам багатым вярнуцiся! Здаровых дома аглядаці ды прывітаці!

Галасы. Дай Божа! Дай Божа! Соб Божа!

Ульляна. А старому можна наліць?

Даніла. Чаму не, што ты пытаеш мяне? (цалуе яе).

Ульляна. (наліўшы) Выпі й ты, старэнькі, за здароўе мужа майго і зайграй ты нам што-небудзь такое харошае, як ты ўмееш.

Стары. Здаровы будзьце вы ўсі (выпіўшы выходзіць і вяртаецца з кобзаю, строіць, а тымчасам Даніла праўшчаецца з жонкаю, катора к яму прыпадае із маткаю, а іншыя п'юць наскора, апраўляюць на сабе адзежу й броню, і стаўшы нагатове к выхаду, слухаюць і падхватваюць песьню, а пры канцы выходзяць за маладымі з хаты, апошнімі выходзяць стары й маці.)

Песьня

То не ваўкі завылі,
лесам голас пусьцілі,
То ня жубар у пушчы раве.
Ой, то трубы завылі,
лесам голас пусьцілі,
То трубэ другое вяшчае трубе.

То ня ветры зьняліся,
У якісь гоман зьліліся,
То Усяслававы вoі ідуць,
Што за крыўду расправу
Учынялі крываву.
Павязаных ворагоў з сабою вядуць.

Цяпер усяк ку сваёму
Вяртаецца бо дому,
Многа дабра, палону набраўшы,
Гойстры мечы прытупіўшы,
Тапары прыізубіўшы,
Сабе славы багата прыдбаўшы.

Зь няволі бо адбілі
Князя дый вызвалілі,
Што зьмяны быў кіяўлянамі,
У тым Меньскім гародзе
Пры Няміжычным бродзе,
Вызвалён князь палачанамі!

Гэй вoі Усяслаўлевы,
Дружыньнікі Глебавы,
Слаўныя мужы палоцкія!
Гэй людзі бывальыя,
Малойцы удалыя,
Пакінем справы жаноцкія!

Часы даўнабраныя
Памянем прызваныя
Мы доляй ку дзелу слаўнаму.
Свой край дый баранiцi,
Ўрагу кару ўчыніцi,
Славу зышчама падаўнаму.

(На двары чутно канец песьні, каманда "На коняй! Гайда!" і тупат.
Дзеўкі ўводзяць Данiлiху, рыдаўшы, а мацi за iмi ўваходзяць).

Мацi. (сярдуючы) Чаго ты!? Чаго ты так расхадзiлася, як халопка якая, як-бы не розацяць мелi. Знойдзеш уцеху нябойсь. Ня корчы такое няшчаснае!

З а с л о н а.

## Д З Е Л II.

В а я в о д а
Д а н і л а
Р о д з ь к а
К о л ь к і б а я р а ў малодшых і старшых.
Б а г д а н
Г а н е ц
Ч э л я д з і з пару.

Даніла з малодшымі баярамі разлажыліся ў лесе пад дубам, аглядаюць сваю броню й перакідаюцца словам, а Даніла задуменны маўчыць.

Першы баярын. Ух, яшчэ косьці баляць, як той гад паабдымаў, чуць-чуць вызваліўся.
Другі баярын. А мне-б ужо магіла была, каб не Даніла наскочыў. Ужо на мяне тапаром замахнуўся, а шабля мая пераляце напады, а абушок як завяз у шаломе таго, то я й ня мог справіцца. Ужо толькі жду, як мой дух будзе сходзіць. Ажно бачу, рука яго як паднялася, так і ня спусьцілася, адляцела набок з тапарцом. Гляджу й сам сабе ня веру, аж над вухам Даніла як крыкне: "Чаго стаіш, вораг уцякае!"...
Трэйці баярын. Іш, гады, шаблюгу маю як пазубілі.
Чацьверты баярын. А мне такі хтось па цемю здорава заехаў, прачахнуўся, а ўжо адно мурцы валяюцца... Чуць падняўся, балазей шышак мой крэпкі.
Першы баярын. Ды ў цябе й галава не слабей за шышака.
( с ь м е х )
Пяты баярын. Цяпер я думаю, па дамох пацягнем.
Другі баярын. Ды ўжо пара. Дзякаваць Богу, папрацавалі праз усю вясну, дый лета шмат захапілі.
Трэйці баярын. Колькі то часу будзе, як мы з дому?
Першы баярын. Ды ўжо шэсьць маладзікоў наставала, а зыбраліся мы ў загор'е якраз самаю поўняю, а цяпер ветах – вось і лічы.
Другі баярын. Уга! То ўжо багата часу. А шпарка той час пры дзеле ляціць. Гэта-ж ужо восем месяцаў.
Пяты баярын. Во дзіва.
Чацьверты баярын. Ну, але цяпер вораг нас пазнае. Другі раз мабыць ня скора зьявіцца.
Першы баярын. Непанадна будзе.
Трэйці баярын. Вось і старшыя йдуць.
Пяты баярын. Устаньце! Ваявода йдзе.
Ваявода. Вось дзе яны ў халадок пахаваліся. Супачываеце? Ну, па працы то ня грэх. Дзякую вам, малайцы, пастараліся. Сядзем, баярства, і мы зь імі пасядзём, бо вельмі горача.
Першы старшы баярын. Хто цяпер ня рад у халадку пасядзець.
Ваявода. Скажэце мёду сюды падаць!
Пяты баярын. (сукленіўшыся) Як дыхнуць... (ідзе)
Ваявода. Ну што, Даніла, здароў? Трэба ведаць, баярства, што сёй маладзец мяне дужа памог, каб ня ён, то ня ведаю, як было-б, бо каля мяне дужа цесна стала, ды якраз ён зы сваімі людзьмі падскочыў, як той каршун, і зразу ворага зьмяшаў, і мы апраўіцца пасьпелі.

Другі баярын. Ён-жа й мяне ад нахабнае сьмерці вызваліў: шабля мая пырснула, чаканец у шаломе ў ворага ўвяз, а тут ужо над мною тапор падняў якісь вядзьмедзь, ды Даніла ўтуміць руку з тапаром яму адхваціў!
Ваявода. Добра, Даніла, пачынаеш, дай Бог і далей так спраўляцца.
Даніла. Спасібог, ваявода, за добрае слова.
Ваявода. Ды штось, бачу, у цябе якаясь хмара на лобе. Што то яно можа азначаці?
Даніла. Нічагутка, так штось, і сам ня ведаю.
Ваявода. Можа па маладзіцы затужыў, а кажуць - красна.
Даніла. Усякаму сваё дарага.
Ваявода. Ну, супакойся, скора ўбачышся зь ёю.
Даніла. Спасібог. (Пры носяць мёд у двох збанох).
Ваявода. Ну, вып'ем, Даніла, на пагібель ворага.
Галасы. На пагібель! На пагібель! Каб ён назаўсюды ахвоту ўтраціў! Дай Божа! На пагібель ворагу!
Другі старшы баярын. Шкода нам цябе, Даніла, дамоў пушчаці, ты-б мог у Полацку пры вялікім князю багата чаго даслужыцца.
Даніла. Роднай краіне я гатоў заўсюды паслужыць, ды не затым, каб даслужыцца, я затым, што гэта мая павіннасьць.
Ваявода. Во маладзец! Люблю, дай руку!
Даніла. (цалуючы руку) Спасібог (п'юць).
Трэйці старшы баярын. Калі-ж, ваявода, окажаце здабычу дзяліць?
Ваявода. Заўтра падзелім, а сягоньня супачыць трэба.
Трэйці старшы баярын. Хай будзе й заўтра.
Ваявода. Ну, але, я думаю, вораг папамятуе нас. Лішэ паўз рубеж пройдзем, край ад грабежцаў ачысьцім, а там і па дамох.
Другі старшы баярын. Папамятуе, папамятуе, як не папамятаваць - мала зь іх хто й жывот панёс.
Першы старшы баярын. Што далі йсьмо ім на памяць, то далі, гэта праўда!
Ваявода. Ты, Даніла, даўно жанаты?
Даніла. Другі год, ваявода.
Ваявода. А прыплод маеш?
Даніла. Пакуль што не.
Ваявода. Як, і прыметы няма?
Даніла. Ня было.
Ваявода. А ты, Багдане, багата дзяцей маеш?
Багдан. Траечку.
Ваявода. О, то зух, а нябойсь ня старшы за Данілу.
Багдан. Крыху старшы на гады паўтары.
Першы баярын. Бо Даніла сваю маладзіцу шануе вельмі (сьмяецца).
Трэйці старшы баярын. А ты як сваю шануеш? (Сьмех).
Першы баярын. У мяне быў сын, ды Бог не гадаваў.
Другі баярын. А ты хочаш, каб Бог табе дзеці гадаваў? А сам?
Першы баярын. Добра, што прыдбаю. (Сьмех).
Трэйці старшы баярын. А болей няма?
Першы баярын. Няма. Хіба безь мяне знойдзецца.

Пяты баярын. (Іграе й сьпявае)

Ой, у полі быліначчку
Вецер пахінае.
У сьвятліцы галубачка
Галубка чакае.
Адзін гадочак прайходзіць,
Настаў ужо й другі,
Маладая галубачка
Забылася тугі.
Маладзец дамоў прыехаў,
Галубачку застаў
З чужым галубом у пары
Й праўду ў пазнаў...

Ваявода. А даўна жанаты?
Першы баярын. Гадоў пяць, а можа й болей, ужо ня ўпомню.
Другі баярын. Вось, каб бачылі, як ён сягоньня з адным кацапам абдымаўся.
Трэйці старшы баярын. Мабыць, згорача яму паказалася, што то маладзіца. (Сьмех)
Першы баярын. Добра маладзіца, калі косьці баляць, што не павярнуцца. Вось ён то на кацапа Богу маліўся, думаў - сьвятыі. (Сьмех)
Другі баярын. І ты-б памаліўся, каб табе так прыйшлося.
Трэйці баярын. Во зараз пасвараецца.
Трэйці старшы баярын. Завошта?
Трэйці баярын. Яны заўсёды так любяць шуткаваць.
Першы баярын. Прыйшлося. А чаму так спраўны.
Другі баярын. Добра, што ты спраўны.
Пяты баярын. Даніла! Даніла, ці ты аглух?
Даніла. А! Чаму?
Пяты баярын. А?
Даніла. А што?
Пяты баярын. Твой чалавек цябе штось выглядае.
Даніла. А, Родзька (ідзе к яму).
Ваявода. Ну, трэба ў табар ісьці. (Усі расходзяцца) Заўтра дзяліба будзе.
Даніла. Ну, што скажаш, дружа?
Родзька. Ганец з дому, саколю.
Даніла. Давай яго сюды шпарчэй.
Родзька. Зараз, саколю (ідзе й скора з чалавекам вяртаецца).
Ганец. Чалом вашае міласьці!
Даніла. Здароў! Што з дому добрага нясеш?
Ганец. Усё па старому. Вось карту прыслала старша баярыня.
Даніла. Давай сюды. (Нецярпяча) Вось заехаў, і сам не дастане.
Ганец. А як-жа. Каб не пераняў часам хто.
Даніла. А малодшая як мяецца?
Ганец. Старшая баярыня казала сказаць, што здарова й вясёла.
Даніла. А сам ты яе ня бачыў? Ды жывей-жа!
Ганец. Бачыў, але так, што нічога не казала.
Даніла. Дык ведаеш, як выглядае?
Ганец. Красная.
Даніла. То й я ведаю, што красна, ды ты кажы, ці здарова, ці ня тужыць.
Ганец. Бог яе ведае. Старшая казала адно сказаць, што здарова й вясёла. Больш нічога не казала казаці.
Родзька. Што з тым дурнем гаварыць! Казала! Не казала!

Ганец. Вось яно! Маеце!

Даніла. Нарэшце. ( Чытае бляднеючы, прысланяецца к дрэву, трэ рукою па лобе, а далей кажа). Можаце адыйсьці, а я паклічу, як трэба будзе. (Тыя адходзяць, а ён чытае сабе ўголас).- "Дарагі сыне мой! Хоць ведаю, што ліст мой будзе табе не да душы, ды мушу табе павясьціць загадзя, каб ты маў час прывыкнуць крыху к таму, што ў нас творыцца. Пішу я гэта не затым, каб жаліцца, бо ведаю, што ты яе болей любіш, як мяне, а баючыся, што ты, вярнуўшыся дадому, будзеш дужа паражаны, бо твая зязюля зыўсім ад рук адбілася, ня слухае маяе парады, што не скажу, усё ёй ня так, усё гуляла-б ды гуляла: і коні пазаезджавала, і шаты пазаношвала, і мяды пазачастоўвала,усё часьцей прыймаючы, каханых частуючы. А калі я твае імя назаву, то яна і слухаць ня хоча,- -"адстань, адкасьніся ты, кажа, зы сваім Данілам, ужо агорк ён мне".Пішу я гэтыя словы й сама плачу, жаль мне вашае маладосьці"... (кінуў ліст і, узяўшыся за галаў, уздыхае і, заціўшы зубы, гаворыць) Вось табе й шчасьце, вось табе й вера... І як тут верыць каму пасьля гэтага... Э-э! Такая,здаецца, добрая, чыстая, каханая, адным словам, сьвятая... А бачыш, як горш зьмяі падкалоднае... Гэтак прыкідацца! Э-э-э! Прапаў я і ўсё прапала! Родзька! гэ, Родзька! Родзька-ў!

Родзька (прыбегшы) Чаго, саколю?

Даніла. Пакінь ты сваё "саколю"! Мёду давай чым болей, а ганца, таго дурня, задзяржы! Чуеш!

Родзька. Чую, сак... (выходзіць).

(Даніла, заламаўшы рукі за галаву, адкідаецца на траву й ляжыць сьцяўшы зубы).

Родзька. Баярыне мой, саколю, скажэце, што з вамі, Можа стары Родзька на што прыдасца.

Даніла. (Ускапіўшыся) Маўчы! Давай мёд! (п'е нахілкам).

(з а с л о н а)

## Д З Е Я III.

У л ь л я н а
Д а н і л а
Р о д з ь к а
С т а р ы
Б а я р ы н з чорнай барадою
М а ц і з малым на руках
Д з е ў к і , н а р о д .

Двор Данілаў. У глыбі сцэны дом. Па адну старану ў вакне сядзіць задуменкая Даніліха. Пачуўшы тупат, яна азірнулася ўправа, крыкнуўшы з радасьцю выбягае на сустрэчу, вароты адчыняюцца і ўходзіць на двор Даніла, а за ім Родзька.

Ульляна. А Божа-ж мой!... Данілка!... (выбягае й бяжыць к Данілу. З правай стараны выглянула галава з чорнаю шырокаю барадою й схавалася)

Даніла. (выхватвае шаблю). Стой, гадзіна!

Ульляна (падае перад ім на калені). Што ты?!... што з табою, саколіку?! (убачыўшы, што той замахваецца на яе шабляю). Зашто?
Даніла. Вось зашто! (секануў па галаве).
Ульляна. (Падаючы). Зашто, саколю?

Падскокваюць Родзька й стары, зза вугла хаты выбягаюць дзьве дзеўкі й давай галасіці, а Даніла стаіць, апёршыся на крываву шаблю, павесіўшы галаву.

Родзька. (Захадзіўшыся). Падаць сюды намітку ці бок ручніка й вады (дзеўкі прыносяць, галосячы).
Стары. (Зьбегаў узяў мякіша хлеба й вяртаецца, разьмінаючы яго й гаворачы як-бы да сябе) дарма, баярын, ты сваю душу загубіў нізашто, сам пабачыш...
Даніла. Маўчы, бо й табе!... нясеце яе ў сьвятліцу!
Стары. У сьвятліцу нельга.
Даніла. Што?! Ты зноў!?...
Стары. Там старшая з малым.
Даніла. Зь якім малым? што ты, ашалеў!? А той барадаты то хто?
Стары. Зы сваім малым, што нядаўна мела, а барадаты прыйшоў сына пабачыць.
Даніла. Брашаш, стары псе!
Стары. Сам пабачыш. (Абмываюць з Родзькам рану й залепліваюць хлебам).

Даніла пастаяўшы пайшоў на двор, скора заглянуў ува ўсе вароты, а тымчасам зьбіралася каля Ульляны народу, а з хаты выскачыў чалавек з чорнаю барадою і шмыгнуў за вароты, а Даніла, заглянуўшы ў хату, падбягае к Ульляне і, цалуючы рукі яе й твар, зы сьлязьмі просіць:

Даніла. Ульлянка, соўнца маё, ачніхніся! Глянь на мяне!... Даруй мне шалёнаму!... О Божа! Госпадзі! Я зума зыйду!... Ульлянка! Соўнейка, даруй ты мне! Паглянь на мяне, акаяннага! Ачухайся, сэрца!... Божа памажы! Божа! Божа!
Ульляна. Да-а-ні-ла!
Даніла. Ачуняй, Ульлянка! Што хочаш зы мною рабі! Вон жані! Забіць кажы! адно ачуняй!!.. Даруй!...
Ульляна. Бог табе, Данілка, даруе. Прашчай, голубе, дай пацалуемся!...
Даніла. (к ёй прыпадаючы) Ой! (Ульляна ўмірае ў яго на руках. Даніла глядзіць на яе скамянеўшы, а потым, схамянуўшыся, кажа). Прывядзеце матку! (Матку выводзяць на парэмёт зьлякану з малым на руках).
Даніла. Вось любуйся, маці родная! Уцяшайся сваёю работаю! Тры грахі перад сабою маеш: адзін грэх - жыцьцё маладое дзявочае загубіла, другі грэх - маё жыцьцё змарнавала, а трэйці грэх самы большы, бо душу маю загубіла, я ўбіўцам стаў твору сьвятога. А цяпер, Родзька, ты мне адзін застаўся. Ідзема падалей ад сяго гнязда праклятага Ульляну забярэм ды пахаваем, каб яе зьдзекаваліся паганыя зы сьвятое.

Г а л о ш а н ь н е

( з а с л о н а )

*Зь нядрукаванае спадчыны.*

Л. Генiюш

## СУТОНЬНЕМ

Зацiхла места ў хмараў шэрых дыме,
з муроў вачом нат чельга уцячы...
Што-ж, сынку мой, мой каласок радзiмы,
чаго сумненькi i чаму маўчыш?
Цi жаль, што дзень прадчасна дагарае
i не пакрыў дарогi мяккi сьнег,
цi мо краiна белая другая
табе здаецца гэтак, як i мне?
Там сяньня ўзьвiвы сьнежнае завеi,
i вухам страшна гэты сьпеў лавiць...
Хтось выстралiў i шырака па белi
рассыпаў жменю ярых журавiн.
Iх заўтра крук сутоньнем пазьбiрае,
прывыкшы ён да гэткае яжы,
i будзе кракаць ноч над белым краем,
прысеўшы дзесь на зломаным крыжы,
i ўспамiнаць, як цiхай калядiнай,
калi сьнег пер'е белае губiў,
iх з хатаў шмат, сумленных i бязьвiнных,
пад звон зялеза павялi ў Сiбiр...
Завея ў полi тужыць там i плача,
але ня плач, маленькi мой сынок!
Вось вырасьцеш, i будзе ўсё iначай,
шчасьлiўшы будзеш, любы каласок...
Мы ў спадчыну ўзялi ад продкаў нашых
нявольi лютай цяжкае ярмо.
Цягаць яго, мой сынку, гэтак страшна,
ды вам, табе – яго мы не дамо!
Мы сяньня, сынку, воляй i змаганьнем
iрвём у долi новую пару.
Нядарма там вартуе да сьвiтаньня,
чакаючы гасьцiны, чорны крук.
Калi-б, мой сынку, нам ня стале сiлаў,
i мы крывёю гора не змаглi –
ты не забудзь, што мацi гаварыла,
свайго народу i свае зямлi...

xxxxxxxx

У. Дубоўка

## З-ЗА КРАТАЎ.

... А вясна iдзе на Беларусi,
Апранае у страi прасторы,
Прамянiотасьць жменяю цярусiць
I зь лясамi ветлiва гаворыць.
А вясна спаткае вас прыхiльна,
Пушча-бор цымбальна прывiтае.–
Забруiцца ў сiнiм небасхiле
Песьня жаўранкава залатая.
Праз дарогу шмат пяройдзе рэчак,
I Дняпро зь Бярэзiнай праскочыць.
З ласкай цiхай хвалi ўсьлед зашэпчаць,
З ласкай цiхай лявуць на пясочак...
Я на ростань не скажу нiчога,
Я вясну за кратамi спаткаю...
Усьмiхнуся вершам на дарогу:
Доля нашая такая...

В. Бірыч




Н а в э л я .

У вагоне, паўна, яшчэ можна было знайсьці вольнае месца, але ён знарок застаўся тут, пры вакне ў калідорчыку ля ўваходу. Тут было зацішней, як ні глянь. Навет калі найстрашнейшае – "крымінальполіцай, контроле" – дык і то было больш магчымасьцяў для годнага адступленьня ў той ці ў той бок – зусім далоў, ці ў іншы вагон, ці навет праз гэты, быццам па "дакумэнты". Крыўдна-ж было-б уліпнуць цяпер, у дарозе назад, калі туды – зыйшло ўсё так гладка.

Яно праўда, як цяпер выглядае, ці варта было наагул выбірацца ў гэтае падарожжа за сьвет і так улегцы, без аніякіх афіцыйных дазволаў і дакумэнтаў, з адной толькі згодаю зычлівага, як на вынятак, гаспадара-баўэра ("бавора", як перакручваў пасвойму дзядзька Сымон гэты, такі ўсезначэнны для ўсяго паднявольнага народу "аўслендэраў" і асабліва "остаў", дабародны тытул непахіснай асновы й апоры вялікай нямецкай нацыі).

Але-ж, няварта было й рыпацца, яна – зусім-зусім зьмянілася да яго, зусім-зусім не такая. Праўда, гэта ўжо можна было-б вычуць самому з апошніх лістоў, з іхнае неакуратнасьці і лаканічнае, казённае сухасьці ледзь не афіцыйных адпісак. Дык-жа яно й вычулася папраўдзе, і фактычна-ж толькі й хадзіла – праверыць і пераканацца навочна. Цяпер, здаецца, усё ясна. Застаецца толькі, прыехаўшы, спакойненька выкладзіць усё ў лісьце і, бадай, канцы. Будзе прынамся лягчэй, чымся ашукавацца далей, лягчэй, як-бы ня было й балюча пры гэтым. Толькі хто ён той, дзеля каго гэтая зьмена? Можа сам Міколка – сам найлепшы, дасконны сябра? Не, баржджэй за ўсё гэны, чорны. Такі прыкры, агідны яму заўсёды псыхалёгічны тып "сэрцаеда", а на самай рэчы – чысьцюткае вады "блатняка". Ну, але-ж дзяўчаты ў бальшыні сваёй, здаецца, ахвочыя ліпнуць якраз на гэткіх, навет калі й ведаюць добра самі, што чакае іх такая-ж доля, як мухаў на гэтых папяровых істужках, што развешваюць немцы ў хатах улетку. Дый ці такое ў гэтым ува ўсім ужо дзіва? Зусім прыродна, калі ростань такая даўгая й далёкая.

А цяпер будзе яшчэ і поўная. Поўная ростань і поўная адзінота. Яно й лепш, што поўная. Няпоўная заўсёды карціць, цягне ў гэткія вось непатрэбныя й рызыкоўныя падарожжы. І тут, ля вакна, таксама лепш, што на адзіноце. Там, у вагоне, было-б куды прыкрэй – усе-ж прыглядаліся-б і рабілі-б сваю "контроле" угледлівымі і ўедлівымі нямецкімі вачыма. А хіба цяжка пазнаць? Навет гэтая вопратка – анцуг, што ўдружыла прыхільная "баварава" нявестка, добрая, такая малочна-мляўкая Эльза з пляча свайго мужа – цяпер жаўнера. Адразу

выдае, што з чужога пляча, дарма, што зусім тутэйшы. Сядзіць на ім, мала не як на тым калку. Добра-б, каб займець собскі, свой зусім, на сябе шыты эўрапейскі гарнітур – анцуг. Толькі што з таго? Навет і ў сваім анцугу не прабудзеш-жа ўвесь час зь людзьмі як рыба, змусяць-жа й разьзявіцца. А тут-жа незаўсёды навет і зразумець ухопіш, чаго заманулася таму ці іншаму гэру або фраў, ня кажучы ўжо, каб спраўна й гладка адказаць. Дый навет адзін акцэнт, вымова... А наверх, як кажнаму неспрактыкаванаму злачынцу – навіку, толькі здаецца ўвесь час, што ўсе ўжо пазналі, ведаюць добра і толькі чакаюць на зручны мамэнт, каб выкрыць, выдаць, злавіць ненавіднага ўсім ім зладзюгу-аўслендэра, можа бандыта, прынамся – паразыта, што прыпхаўся знарок на іхны белы хлеб і аб'ядае бяз жалю й сумленьня, з горла выдзірае, аддзірае ад скугых і так іхных картакавых "абшнітаў". Бо ня бачыць і ня хоча бачыць ніхто, як робіцца ім-жа гэты агорклы чужы хлеб, робіцца запраўды ў поце абліччa...

Не, не пабыць доўга й тут самому на адзіноце. Вось прэцца – і чаго? – ды якраз да вакна, да ягонага вакна, якбы не магла застацца там, дзе была... Праўда, на такія вульгарныя вызначэньні не заслугоўвае ніяк гэтая дзяўчына – маладзенькая, далікатнае, эфэмэрнае проста стварэньне. І навет прыгожая. Яшчэ ўчора аднагодна прыйшлі зь Міколкам да высновы, што немак прыгожых няма. Дык хіба даводзіцца перагледзець прысуд? Ну, выняткі бываюць заўсёды і ўсюды. Запраўды, вельмі прыгожая, навет бездакорна прыгожая, тонка, далікатна-кволая і прытым неяк сарамяжа прыгожая. І на твары, на вуснах [illegible]а-га маляваньня: маладосьць і хараство не патрабуюць ані паправаў, ані ўдасканаленьняў, толькі дурная нясмачніца можа дапусьціцца да гэтага. А тут-жа чыстая Афрадыта, вось-вось із шумавіньня морскага народжаная, Афрадыта ў дзявоцтве, не – лепш – Афрадыта гімназісткаю. Бо пэўна-ж яшчэ вучаніца, хоць-бы сабе й апошніх клясаў. Пад гэтым на ўсе гузікі зашпіленым плашчом вычуваецца брэнзовы формены хвартушок, бо толькі ён пасавя-бы да гэтага глухога каўнерыка ледзь не пад бараду, што відаць знад плашчовага каўняра. На тонкіх пальцах абедзьвюх рук, што зачапіліся за берэг неапушчанага да канца вакна – ніякіх пярсьцёнкаў: яшчэ не заручаная і можа навет не каханка. Пэўна, дрыжочая дачушка старэнькіх таты й мамы – фаті унд муті, якіх-небудзь дробных крамнікаў у сярэднявечным гатычным мястэчку... Ну, але-ж не выпадае так доўга й пільна разглядаць усупор ды вывучаць, рабіць тую-ж "контроле вачыма", ад якое тут сам хаваецца. І небясьпечна навет... Наагул, ці ня лепш пашукаць зусім вольнага вакна ў неякім іншым вагоне?

... Ці ёсьць у яго агонь? Агонь то ёсьць... Вось табе і "Афрадыта-гімназістка" – адразу разьбіваецца, гасьне з гэтым "агнём" адтвараны фантазіяй вобраз. Хоць гэтыя немкі ўсе блізу кураць, ад дзяўчатаў таксама, і да гэтага ўжо тут прывыклася. Гэта толькі дома калісь нек аж ніякава было бачыць жанчыну, дзяўчыну пагатоў курачы. Толькі адкуль яны бяруць? Гэтая-ж мусіць, паводля гадоў, яшчэ й на куртатую жаноцкую раўхэркарту, на собскую, права ня мае. А зацягваецца, як

стальі курэц. І яе гэта навет ані ня псуе: пэўна-ж, прыгожай – усё прыгожа. Далікатны дымок добрае, даваеннае мусіць яшчэ цыгарэты дражліва казычча ягоны нюх. Сяньня з гэтым ізноў ані че пашанцавала. На гэнай дурной і глухой станцыі – хоць-бы адзін канчэр-"бычок". Гнілая правінцыя. А што – нябраццa нахабства раптам і бехнуць, каб пакінула хоць "сорак"? Толькі, што ў ейнай мове ня знойдзеш такіх спэцыфічных і выразьлівых тэрмінаў, напоў "блатных". Хіба было-б – "фірцыга", ці можа "оксляйн"? Бітэ, лясэн зі .... Сьмех!...

А ткі праўда мусіць, што думкі могуць перадавацца наводдаль, як праз радыё. Асабліва – думкі курца курцу. Хоць тут бараджэй простая, звычайная павіннасьць узаемнай ветласьці. Але, ён курыць, ды – – шчыра дзякуе: ня стала-б у яго сумленьня эксплёатаваць чужую ветлівасьць ды рабаваць людзей, асабліва цяпер, калі з гэтым так "кнап" і асабліва тут, у дарозе. Зусім ня так "кнап", як ён можа думае, а што ў дарозе, дык у дарозе-ж усё прасьцей і лягчэй, у дарозе зусім няма патрэбы сарамецца й далікаціцца. А ўй гэтыя цыгарэты – якраз падарунак на дарогу. Няхай-жа ён возьме – "нэмэн зі дох!" І як тут было ўстояць перад гэтым намагальным нямецкім "дох", дый праўда – чаго так ужо далікаціцца? То пра "сорак" думаў "бехнуць нахабствам", а цяпер ад цэлых ад "сту" адмаўляецца?

Пакручастым дымком дзьвюх цыгарэтаў павілася й перавілася гаворка. Лёгкая ад пачатку, як гэты дымок. А зь ёю адразу пачало гаварыцца гэтак лёгка, як із сваёй і даўна знаёмай. Пэўна-ж, прыгожай – ня толькі ўсё прыгожа, але і ўсё лёгка. І ён зусім чяўзлак для сябе неўзабаве ўцягнуўся, і ад звычайных аднаскладовых мармытэньняў пацьвярджальнага ці адмоўнага характару пачаў удавацца аж у шырэйшыя й даўжэйшыя выказаньні, ды навет зусім гладка, зрэдку толькі ўдала і ўмела ўспамагаючы ейнымі трапнымі ўстаўкамі. Гэта ўжо ня так цяжка – вольна гаварыць панямецку, навет зь ягонай моваю. Трэба толькі адкінуць зусім той "страх мовы". А галоўнае – каб было зь кім гаварыць. Усё-ж тое, што яна гаварыла, разумелася таксама адразу й дарэшты. Праўда, і яна як-бы старалася тарнавацца да ягонага разуменьня, дабіраць словы, быць асабліва дабітнай. Ну, але й наагул лягчэй разумець, калі чалавек гаворыць добрай інтэлігэнтнай, літаратурнай мовай, а не якім-небудзь пагадным дыялектам, як гэныя "баворы"...

... Прыгожыя мясьціны, ці-ж чяпраўда – ніхт ваар? Ці ёсьць такія на ягонай бацькаўшчыне? О, так, гэта-ж адразу пазнаецца, што ён нятутэйшы. З усходу? Яна й сама так падумала адразу-ж. (Вось бачыш! Ну, але-ж хіба дарма – гэта-ж ніякае не..."крымінальполіцай, контроле!"). На ўсходзе, яна чула, таксама ёсьць вельмі прыгожыя куткі... Ці няма ў яе на ўсходзе каго... каго блізкога? на экране ягонай сьвядамасьці, дзесь на задніым пляне і зь нейкім прыкрым адценьнем – – зайздроства? І ўжо? – мільганула выляксаваная постаць завадзкога "арыйца", нейкага лейтэнанта ці як... І шле ёй лісты пра "прыгожыя куткі ўсходу", як той гаспадароў Ганс сваёй малочнае –мляўкай Эльзэ... Але-ж на пальцах няма пярсьцёнкаў, сам заценіў адразу-ж... – Ці ёсьць у яе

кто на ўсходзе? І так, і не... Не, цяпер няма. (Аж адлягло неяк, і знік з экрану той ўрант-лейтэнант! Гэта-ж зусім, як у яго самога - цяпер няма. "Родныя душы"?) Ды хто цяперашнім часам ня ведае, ня чуў аб усходзе?

Але, ягоная бацькаўшчына прыгожая. Ды часам зусім-зусім падобная да таго, як тут. Часта -у лесе асабліва- яму здаецца, што ён у сябе дома. Праўда, часта тут бывае яшчэ прыгажэй, як дома, толькі што-ж - чужое... Вось гэта ня добра - чужое ня можа быць прыгожым, сваё заўсёды найпрыгажэйшае. Ну не, ён із гэтым ня можа пагадзіцца. Вось прыкладам, яна сама... (Адкуль толькі бярэцца гэтае... нахабства?) Ён шчыра мусіць сказаць, што пакуль ня бачыў яе, думаў, што зусім няма прыгожых сярод немак (ну й цяў!). А цяпер ён гатовы прызнаць, што й на бацькаўшчыне ягонай ці знайшлася-б ёй роўная...(Вой-вой! Ну й панёс! Адкуль толькі бярэцца? Дурань, дурань, бот, боўдзіла, "сст" няшчасны!)

Яна засьмяялася, дзякуючы за камплімэнт. Не, не засаромелася - гэта адразу здалася толькі была сарамяжай і гімназісткаю. Мусіць, ужо прывыкла. Каб ведаў - быў у яе адзін знаёмы, навет больш - сябра маленства... Яна абнізіла голас - айн юдэ, жыд. дык жаліўся ёй, як даймаюць глыбака яго камплімэнтамі, што ён непадобны да жыда... Так, так ён і сам добра знае гэта на сабе: яму таксама часта спрабуюць лісьціць тым, што непадобны да "ўсходніка" (гэта, каб і яна ведала - цэлая праблема ў іх, "на ўсходзе": падзел на "заходнікаў" і "ўсходнікаў"...). Толькі ён зусім не хацеў так...(дурань, бот). Не, й яна нічога... На нямецкіх жанчынаў і яна ня-высокіх пагляду. А што да яе асабіста, дык ейная р а с а в а я г о р д а с ь ц ь (падчыркнена) заўсёдная, каб яе можна было даткнуць зграбным ці нязграбным "камплімантам"...

Гаворка абарвалася прыкрымі для яго моўчкамі. Здаецца, зарабіў. Ужо й да "расавае гордасьці" дайшло - шануйся, хлопча! А так было ўсё добра - цяпер пакрыўдзілася, пэўна. Ну але - назад у вагон... нахай ён выбачыць на часінку...

Дудачкі, "на часінку"- так ужо яе, мусяць, і бачылі... Выбачэньне-ж - толькі звычайная ветласьць, павіннасьць ветласьці... Усё папсаваў, сам папсаваў, ідыёта кусок! А як шкода... Якая цікавая і, відаць, глыбокая дзяўчына, ня толькі адно, што прыгожая...

Не, ткі варочаецца назад, толькі ледзь плішчачы валізны нямецкі сутнік- кофэр. Ну, куды гэта варта, хіба ня мог ён? Не, дзякуй, яна звыкла заўсёды сама сабе даваць рады. (Зазлавала ткі?). Ёй ужо высядаць на наступнай станцыі? О, не, ёй яшчэ далёка-далёка... А кофэр- праўда, усе свае рэчы - яна прынесла, каб можна было сесьці. На ім так добра й выгодна сядзіцца, будзе й яму месца. Ну, хіба ён паважыцца цясьніць? Але тое самае намагальнае "дох" пасадзіла поплеч зь ёю, у зусім-зусім цеснай блізіні, што адразу моцным хмелем дала ў галаў. Яна пэўна злуецца на яго, на дурнога? О не, ані. Не, проста ёй заўсёды вельмі прыкра, калі свае паніжаюць перад чужым. І ён не павінен гэтага рабіць ні перад ёй, ні наагул. Добра?

Гаворка ўзыйшла зноў на ранейшыя рэйкі нязмушанасьці й шчырасьці. О, як умее яна дагнуць за язык, разьвязваць язык, і то зусім няўзнак. І

Ён выкладаў перад ёй ужо усё-усё, і пра бацькаўшчыну, і пра сябе. Пра тых... катаў. Яна чула таксама й чытала. Яна верыць, што гэта -зусім не раздзьмутая прапаганда, як думае шмат хто з тых, што не перажылі самі. Няхай будзе пэўная - гэта яшчэ далёка ня ўсё гаворыцца й пішацца, ніякая не прапаганда. Але цяпер ужо ён разважліва спыніўся перад тым, каб не закрануць і ўсяго, што рабілі й чаго не рабілі там, "на ўсходзе", і мала лепшыя ейныя суродзічы... Няхай, лепш не чапаць гэных пытаньняў, "расавых", а з другога боку - блізкіх і да абсягу "крымінальполі - цайў".. (Усё можа быць, трэба быць пільным з усякім. І так за гэтай зюканінай зусім забыўся на гэную небясьпеку й кінуў сачыць. Можа ўліпнуць зусім, як рудая мыш... Хіба, што, яна тут, як анел-ахоўнік...).

Дык проста перайшлі на жудасьці вайны й фронту -хто гэтага ня чуў цяпер, хоць і сам можа не заўсёды бачыў? Жудасна, фурхтбар... Дый як ня бачыў? Калі-ж цяпер і тут фронт, усюды фронт. Калі-ж і цяпераака во, як стой, можа гакнуць і заскавытаць трывога - алярм, люфтгэфар, люфтангрыф... Праўда, што апошнімі днямі неяк сьцішылася, нат на Бэрлін каторы дзень не налятали - пярэдых. Адпачываюць пэўна, рыхтуюцца да новых навалаў... Толькі аб гэтым ня варта лішне сушыць мазгі - алярм на тое й алярм, каб аб ім загадзя не галовілїся, а адразу, як па галаве... І яму таксама не хацелася алярму, ані так якога-небудзь найменшага закалоту ці замарокі ў мілай такой гаворцы. Дык і ўзгаварылася пра мілае, аж пра інтымнее нават... Нек само сабой вывязалася й пра гэтае падарожжа... Ага, дык вось чаму і яна яму ўспала адразу на вока, што такая ўжо прыгожая (а ткі згадала мусіць, шэльма!). Нучу, няхай ён не правуецца й не саромеецца, гэта яна так, жартуе (таксама сьмелая, халера!) А тая яшчэ можа адумацца, ягоная сяброўка, адумацца й зьвярнуцца назад да яго. Гэта часта бывае. Пэўна, трэба выявіць цьвёрдасьць, але й захаваць сваю вернасьць, каб умець і памякчэць, калі-б надыйшоў мамэнт. Калі толькі ён запраўды кахае. Кахаў? Гэта ўжо горш. Кахаў - гэта ўсяроўна, што й не кахаў. Няма таго, што ўжо мінулася. Ёсьць толькі тое, што ёсьць сяньня і што - поўная гарантыя - ня мінецца заўтра...

Сядзелі на кофэры поплеч, уставалі й стаялі ля вакна таксама поплеч-цясьнютка, ізноў сядалі. І гэта ўжо неяк было так, як і трэба. П'яніла, праўда, і ад часу да часу мацней давала ў галаў. Гаварылі ўвесь час і таксама ўвесь час курылі. Яна й гаварыла найбольш курачы, як-бы прагаеяла дымам словы ці словамі дым. Курыла часта, блізу бязупынна і ўсё частавала яго. Ужо й не адмаўляўся, хоць даўно, а мо й ніколі так шмат ня курыў, і гэта, разам зь ёйнай блізінёю, узбуджала яшчэ больш (балазе, хоць, што нямецкія цыгарэты, нават доб..ыя даваенныя, не такія моцныя). Якімі аднак сібернымі курцамі бываюць гэтыя немкі, і такія яшчэ маладыя! Праўда, яна пакідала вялікія канчары - "бычкі", але што-ж, калі ўсе-за вакно... Ну, гэта цяпер ужо невялікая сьмеласьць ці нахабства будзе скарыстаць із гэтага: вось, у яго ёсьць адмысловая пушачка, дык чымся выкідаць гэтулькі дабра за вакно...

Сьмяялася доўга й шчыра,

дакляравала здаваць яму акуратна ўсе недакуркі ў пушачку. Дык ужо давялося прызнацца, як адразу хацеў папрасіць "сорак". Ну й чаму гэтак не зрабіў — куды гладзейшым быў-бы пачатак, заўсёды лепш, калі першую ініцыятыву выяўляе не дзяўчына... Не, а што да гэтага, дык звычайна яна ня курыць так шмат, хоць і праўда, гэта адно зь ейных... захапленьняў, ці што, і то яшчэ бадай адмалку, калі з тэным сябром маленства... Звычайна ўсё-ж курыцца менш, не таму, каб цяжка было з даставаньнем — ані не, ёй гэта зусім лёгка (так, і ён у гэта верыць, што ёй усё лёгка) — не, наагул лёгка ня толькі ёй, а кажная дзяўчына, адно ўмеючы, дастаць што хаця, ня толькі цыгарэты, і навет цяперашнім часам, дый то — нічым ня рызыкуючы й не авансуючыся... Трэба толькі ўмець. Ну, а што ў дарозе — дык-жа заўсёды, як у дарозе, адны — і гэта найбольш — бязупынна ядуць, як ніколі дома, іншыя — зноў — кураць. А яна-ж казала ўжо, што гэтыя цыгарэты ёй падаравалі добрыя людзі якраз на дарогу, дык значыцца, за дарогу іх і спажыць трэба.

Стаялі цяпер ізноў ля вакна, за якім ужо западала цёплая жнівенская ноч. Пакацілася зьнічка на ня зусім яшчэ сьцямнелым, а ўжо пакрысе зорным небе. Як прыгожа, ніхт ваар? Вось яшчэ, колькі разам. Гэта-ж цяпер якраз жнівень, канец жніўня, калі яны эпадаюць цэлымі дажджамі. Хіба гэтыя зьнічкі не падобныя да нас — людзей, не — ніхт? Так, у аднаго паэты ягонае бацькаўшчыны ёсьць прыгожы вершык аб гэтым. Ці ня можа ён успомніць і прарэцытаваць ёй хоць крышку? Яна хацела-б толькі паслухаць, як гучыць ягоная родная мова. Калі ласка, з прыемнасьцяй. І ён прачытаў ёй Багдановічава "Глянь, як зорка у цемі ляціць" — знаў-жа паэту мала не ўсяго напамяць, як і іншых некаторых, улюбёных. Ёй падабаецца — так мілагучна (камплімэнт хіба?). Ёй навет здаецца, што яна разумее — не, вычувае тое, аб чым тут хацеў сказаць паэта, І яна —бадай з дакладнасьцяй, а ў галоўным, прызнамся, зусім беспамылльна — перадала настрой і навет думку верша. Ну, ці-ж не... д'яблica, ці-ж няпраўда ?

Ці-ж няпраўда — ніхт ваар — як лёгка можна разумець чужую мову навет ня ведаючы яе, калі толькі добра разумееш чалавека? Так-так, і ён-жа вельмі добра разумее яе, хоць і зь нямецкаю моваю ў яго, папраўдзе, зусім няцікава... О не, не, зусім ня так блага, ніхт зо шлім — гэта толькі лішняя сьціпласьць. А наагул, яны ўжо, здаецца, так добра разумеюць адно аднаго, быццам даўныя й добрыя знаёмыя. А хіба не — хіба ня добрыя знаёмыя? Але, ды толькі-ж на час, на кароткі час, як тыя зьнічкі... А што ёсьць вечнага на сьвеце? Ну, усё-ткі... Праўда, ёсьць спосаб мець хоць нейкі працяг знаёмства. Што, як, — што ён мае наўвеце? Вельмі просты спосаб — лісты. А, гэта можна, навет цікава часам, трэба толькі зараз-жа зьмяняцца на адрасы. Якраз добра — цягнік так даўчы спыніўся, як ведаў, проста ля гэтага ліхтара, трэба толькі выкарыстаць баржджой. Вось — зараз — лісток зь ейнага нотэсу, няхай ён запіша тут свой адрыс, а яна яму дасьць свой. Гэ, ліхенька, літары скачуць, хоць цягнік стаіць — ускруцiла дзяўчына. Вось, ягоны гатовы. Яна яшчэ піша — хіба такі даўгі адрыс? Не, нешта яшчэ — толькі што? Ну вось,

яна сама толькі ўложыць яму ў кішэньку, і каб ня важыўся чапаць, аж пакуль не растачуцца сяньня – ці чуе ён -гэрэзі? – Дох... – у яго не намагальнае, а толькі слаба-пярэчлівае "дох". Не, не, толькі так. І ўжо ня так доўга давядзецца яму чакаць. Дый там-жа няма нічога такога, што-б магло каццець – адзін звычайнюсенькі адрыс, праўда-ж. Гэта проста ейная прыхамаць, няхай сабе капрыс, каб ня чытаць цяпер і тут, пры ёй, і ён мусіць слухацца, калі толькі хоча, каб быў той "працяг знаёмства".

Цягнік адыйшоў далей у ноч пасьля кароткае спынкі пад тым ліхтаром на нейкай станцыі, клумлівай – мусіць, вялікай. Ліхтар ужо прапусьціў іх і толькі міргаў яшчэ здалёку. Ды ўжо нек ня слухалася зусім, што апавядала яна пра свае нядаўныя школьныя гады – таксама сьветлыя зьнічкі на цёмным цяпер небе... Не, яна ўжо не гімназістка, як ён быў падумаў адразу, але, праўда, школа ў яе яшчэ толькі-толькі за плячыма, мілая школа... А яму ўсё муляў і аж пёк у грудзі той "адрыс" у кішэньцы. Што там? Словы прызнаньня, надзеі, будучыні – ці насьмешкі над прастарэкам, што зазнаўся – зарваўся вышэй, як сьлед? І адкуль яна ўмее так баламуціць, інтрыгаваць, гэтая – не Афрадыта, не – сама д'ябліца, д'ябальска прыгожае й спрытнае чарцяне... І адкуль такая сіла загаду ?

На гэнай станцыі пад ліхтаром, аказваецца, налезла шмат народу, напхнулася навет і ў іхны прыдзельчык – за тым сьпешным пісаньням не заўважылася толькі. Цяпер іх добра прыціснулі да акна, хоць між іх двеіх і без таго было цесна, і ці магло ўжо быць цясьней за гэтае цеснае... Вось, яна мусіць нарэшце абвесьціць яму ўрачыста – сумнае ці радаснае, хто яго ведае: ёй ужо высядаць на наступнай станцыі... Яны закураць яшчэ апошні раз. Вось цыгарыльля, разрэжацца напалам, каб і ўсё ў іх ішло напалам, праўда? А што, ён-жа казаў, што абкурыць яе? Не, ёсьць яшчэ і тыя, але гэта знарок – дзеля ўрачыстасьці мамэнту, на растаньне – цыгарыльля. Яна курыць і цыгары, калі здарэецца, наагул усё, што пападзя. Ёсьць навет і люлечка – айн пфайфхен, толькі дома. Ён ніколі ня бачыў, каб дзяўчына курыла... люльку? Дык-жа і яе ня вельмі хто бачыць із гэтым – гэта бывае толькі зрэдку, пад настрой, і калі зусім сама адна... Наагул, у яе такая паваданцыя ў кажнай справе – ня спыняцца на аматарсьцьве, а імкнуцца як мага да стану прафэсіянала, усебакова кваліфікаванага. Чаго ён сьмяецца? Хіба курыць- гэта прафэсія? Усё на сьвеце можа быць прафэсіяй – так, так, мой хлопчыку, (адкуль раптам гэты... матчын тон? Ці не... засмаркатая была-б? Але чаму яшчэ цяплей ад яго, як запраўды ад матчыных пешчаў...)

Так, так, мой хлопчыку, – зо, зо, майн юнгэ – усё можа быць прафэсіяй, навет і само жыць, навет і... Ды ведама-ж... лепш было-б наагул цяпер памаўчаць крыху, як і трэба заўсёды перад растаньнем. Заўсёды, бо маўчыцца і тады, калі трэба шмат сказаць, а няможна ўжо сказаць усяго, і няма ведама, што сказаць, а што не-усё аднолькава важнае... Але, ейная праўда, няхай памаўчыцца...

Ой, – няхай ён выбачыць, яна зусім забылася – дый ён выстрымнуў сам, каштоўны такі недакурак, стрымнуў у ноч агністаю дугавінай, рас-

сыпаючы іскры... Таксама — — зьнічка...

І раптам — у загуслай ужо цемры гэтага зусім нельга было пабачыць і прадбачыць — ейныя вусны прыціснуліся на мамэнт да ягоных, не, ня прыціснуліся — прыпячаталіся, як нешта мэталічнае і сьцюдзёнае, а сьцюдзёнасьцяй сваёй такое пякучае, як пячэцца ўзімку, вялікім марозам, настыглае жалеза клямкі, калі ўзяцца голай і цёплай рукою... Гэта было так неспадзявана, але разам із тым як-бы і падрыхтавана, так, падрыхтавана ўсім папярэднім ходам нутранога развою пачуцьця, што — не магло ня быць. Не магло ня быць, бо й ягоныя вусны — хоць быў толькі адзін, такі кароткі мамэнт — ухапілі адказаць нек зусім аўтаматычна, рэфлекторна, бязвольна, ад самога яго зусім незалежна. Аднак, якія ліпучыя гэтыя немкі — адразу, зрэшта, гэта агульна ведама... Толькі, што ня зусім так, як нашыя — мухамі на ліпкія істужкі... І якая д'ябальская рызыка — гэта-ж поўна народу...

Што, хлопчык спалохаўся? І няма чаго зусім хмыліцца назад — ніхто больш ня мог ані пабачыць, ані пачуць. Фэрдункэлюнг — зацямненьне — лепшая ахова ад усякіх няпрыемнасьцяў, ня толькі з паветра, асабліва, калі чно праведзенае так геніяльна-проста і ўнівэрсальна, як тут — зусім ніякага сьвятла. А цягніковы грукат — глушыць і ня гэта... Но-но, няхай толькі больш не тапырыць губкі (гэта няпраўда!і ўжо занадта! Адкуль-бы й магла тут пабачыць !) ; больш ня будзе. Толькі адзін і адзіны... Пацалунак мае найбольшую вартасьць, калі ён адзін і адзіны. Праўда, можа разам із тым — і найменшую, як наагул адзінка ў сьцягу натуральных лікаў (так, яна заказаная і ў матэматыку...) Бо за адным няма яшчэ ніякіх забавязаньняў і ніякіх вязяў, яны прыходзяць толькі за наступнымі. Адзін — як той недакурак-канчар, што стрымнуў у ноч зьнічкаю, як сама тая зьнічка...

Але, зьнічка. Бо хіба ня зьнічка гэта, калі жаўнер, забегшыся ў хату пры дарозе напіцца вады і хапаючыся, каб не адбіцца ад свае калёны, насьпех заадно цалуе й дзяўчыну, што напаіла, дзяўчыну, якую бачыць упяршыню (дый ці добра бачыць: адно аднаго ў цёмных сенечках?) і- ніколі больш не пабачыць? І яна заўсёды адкажа яму, гэтая дзяўчына, калі толькі яна — запраўды дзяўчына. І можа гэта найбольшае шчасьце на сьвеце — перажываць зьнічкі і, наагул, быць зьнічкаю... Найбольшае шчасьце навет тады, калі-б і было найбольшым няшчасьцем адначасна... Гэтак павінна быць і ў іх...

Як-жа — а "працяг знаёмства"? Но-но, рукі прэч — вэг! — ад кішэнькі, няслухмянае якое хлапчанё — яшчэ не пара! Дый што можна вычытаць у гэткай цемры? Што-ж, "працяг знаёмства" — лісты... "Белае поле, чорнае насеньне"... А пацалункі ў лістох — што-ж больш, як не звычайнюсенькая формула, зацяганы штамп, традыцыйны сымбаль бяз жывога, рэальнага зьместу й значаньня. "Цалую моцна, дасконна твой"... Хэ-ха, "дасконна", калі толькі — зьнічкі...

Ну вось, і зусім пад'яжджаецца. Няхай ён будзе такім ласкавым і падасьць ёй гэты кофэр праз вакно, а то зь ім цяпер не праціснуцца праз людзей, а сьпінка тут такая кароткая- добра? Ейная далонь спрытна высьлізнула зь ягонай, і толькі тут дайшло, што дагэтуль, і няма ведама, як

ужо доўга, была яна там і ў моцным узаемным сьціску. Так-жа сьлізнула й сама гаспадыня далоні, звілася, як вужака, хуценька й ёмка манэўруючы да выхаду, аж пакуль можна было сачыць у крыху разьведзенай водбліскам станцыіі паўцемні (... як гэта трапна ў іх у мове - - шлянк і шлянгэ, стройная і - зьмяя...).

Галё, ейны кофэр? Ага, вось ён (самі памалу тут із сваймі лягзамамі, калі штурхнулася каторага крышку!). Ну й праўда, як волава - бедная дзяўчына,і што ў яе там? Ужо, яна трымае? Вялікі дзякуй! Да пабачэньня! Да пабачэньня зноў - аўфвідэрзэаўэн! (што за іронія - якое-ж "ізноў", калі - зьнічка?).

Не пераймае ніхто, стаіць на пэроне сама і ўсьміхаецца яму - хоча яшчэ прапусьціць да канца, працягнуць зьнічкавы сьлед хіба?... Цягнік ужо няўзнак аддаў, адплываць пачынае пэрон пакрысе назад, і яна, вось-вось - і па зьнічцы...

І раптам - пахопіста ірвануўшы па ўсіх гузіках, расхрыстала плашч. Там - не, ня гімназічны хвартушок,як змаһулася было напачатку, а пад левай грудзінай, мала не пад пахай, ды - адразу сьляпіцаю ў вочы - вялікімі літарамі, белым на сінім - "ОСТ"!

Дык вось нарэшце калі - запраўды - Афрадыта. Вось нарэшце калі запраўды нарадзілася, выйшла з морскага шумавіньня... - з "остам" на грудзёх... Расхрыстаная й выпрастаная,із скульптурным аж рухам узьнятае для апошняга адвітаньня рукі, зь пераможным, трыўмфальным бліскам увачу, такім самым мэталічным і сьцюдзёным, ды пякучым, якім быў той пацалунак. Афрадыта з "остам", Афрадыта-"Ост".

Ашаламанеў зусім, толькі талопіўся нязьмігутна ў вадплываючае, аж пакуль ня сталася зноў пуста й цёмна перад вачыма. Толькі перад зрокам душы, нутраным, стаяла ўсё на ўвесь рост, новы рост - такой, пэўна-ж,і застанецца там назаўсёды, такой і будзе ўсплываць - вынураць адтуль пасьля, каб вярадзіць і трывожыць, ці - можа й так- гаіць,супакойваць, лагодзіць...

... Не, дык што-ж гэта ? Як гэта? - пачынала ўжо сьвідраваць, калі атрасалася пакрысе першае ашаламаненьне. Як гэта? Гэта-ж трэба было гэтак доўга дурыць і задурыць, надзіць і лібіць, так разыйграць, каб нарэшце - "ост"!

Вось табе й разьбярыся цяпер; Афрадыта-"Ост". Не, яшчэ-ж ня ўсё - яшчэ-ж ёсьць гэны "адрыс",цяпер ужо можна. Цьфу, - пырхнула за вакно гэтая дурнецкая хустачка "на выпуск" із кішэнькі- ліха і зь ёй, абы "адрыс" у жмені.Толькі-ж як прачытаць, калі-хоць вока выкаль. Ага, запальнічка! Ды ня выкрасаецца ніяк - ці то, што рукі трымцяць,ці высякла бэнзына - сяньня-ж пабыла ў рабоце. Во й зусім ня крэсіць нат іскраў - хоць і яе за вакно!

Няма рады- "цярплівосьці, хлопчыку, гедульд", як сказала-б яна. Застаецца толькі ліхтар, які-небудзь такі,пры якім і пісалася. Чакаць на яго. Толькі барджджэй, барджджэй!

Высхінуўся больш у вакно, ледзь не пераважыўшыся, і ўсе думкі сусярэдзіліся на адным; ліхтар, ліхтар. Доўга ці не - здалося, ведама, ліха знае колькі - цэлую вечнасьць узіраўся напружана праз нагаляньня рвучкім ветрам ад руху цягніка сьлёзы.На даляглядзе сыпанулі зноў вялікім даждждом зьнічкі,жнівенскія зьні-

чкі. Ага, вось-вось будзе і ён, ліхтар, ліхтарык, толькі-ж далёка як ад палатна чыгункі і такі сьляпы, прыдушаны да зямлі дашком таго халернага фэрдункэлюнгу. Не, нічога не ўхапіў. Ды, балазе, зараз насунецца другі – іх цэлы цуг маячыць адзін за адным праз чыгунку – відаць, тут нейкі вялікі "бэтрыб"– хвабрыкі... Ага, ну во, лавіць!

Так і ёсьць, роўненькая, каліграфічная нават кірыліца (ужо – ніякая неспадзеўка):

"Я – толькі жнівеньская зьнічка (ну але...). Мой адрыс – прасторы сусьвету (так – лаві вецер у полі). А немак прыгожых так-такі няма й ня бывае (пэўна-ж, калі – "ост"... Праехаў ліхтар, чакаць наступнага! Ага;) І нямане павінна быць прыгожай нямеччыны і нічога прыгожага, што не сваё. Бо ня бывае нічога лягчэй, як (чакай, Пятрок, Пятро, наступнага ліхтара... Ну;) паддацца і зрадзіць. А ў гэтым няма ўжо звароту, як тэй зьнічцы ў сусьветных прастор..."

("ах" ужо не ўмясьцілася, ці абарвалася пры выдзіраньні з нотэсу). Вось і ўсё, і ня трэба больш ліхтароў.

Ах, не ўмясьцілася... Абарвалася – ах... І ня трэба больш ліхтароў, толькі зьнічкі, дождж зьнічак, жнівеньскіх зьнічак... Лаві вецер у полі!

А было-ж яно – цёплае – поплеч, а на вуснах было – металічна – сьцюдзёнае, а пякучае сьцюдзёнасьцяй нястыглага зялеза... Было – свае, а не пазналася, аж пакуль – "ост"... І цяпер – навек – толькі зьнічкаю...

Дзіва што і так лёгка было разумець, гаварыць панямецку. Дзіва што і Багдановіча так – блізу пераклала. Дзіва што і магла так дурыць, абдурыць, разьйгрэць. "Прыгожая немка", "Афрадыта гімназістчаю" і – "Афрадыта-Ост". І д'ябліца (чаму гэтага было ёй не сказаць – пра д'ябліцу і ... Афрадыту?), д'ябальска-прыгожае й спрытнае чарцяне – ах!... Не ўмясьцілася "ах", абарвалася "ах"...

І цяпер – навек – загадкаю. Бо ці-ж не загадка – і гэтая, бездакорная ўсё-ж, як для яго, сымуляцыя нямеччыны, і інтэлігентнасьць, ня толькі ў вонкавым (аж да эфэмэрнасьці), а запраўдная, нутраная. І маладжавасьць, гімназічнасьць пры такіх сталых абагульненьнях жыцьцёвае мудрасьці (і практыкі?), і матчын тон – "мой хлопчыку"... І вопратка (мінус "ост", дый той – пад плашчом да апошняга маманту), і гэты немецкі кофэр, цяжкі, як волава (а што?).

А "расавая горднасьць"– адкуль? (Ну, гэтую хіба перадрасаваць можна на "остаўскі" адрыс, рэакцыя). А гэта што: "усё на сьвеце-прафэсія, нават і... ведама-ж..." Прафэсія... "зьнічкі", "усебакова кваліфікаванае"? А гэта адкуль: "найлягчэй – паддацца і зрадзіць" – ці ня з... собскае практыкі толькі? Так, д'ябліца –"зьнічка"... Закруціла, накруціла, замяла й пакінула – з носам, з "ост"-ам і "адрысам" у "сусьветных прасторах"...

...Цягнік чамусьці доўга стаяў на нейкай маленькай станцыі. Вакно – якраз супраць лесу. Дзесь па дарозе вытрасьліся памаленьку ўсе з прыдзелу, ля вакна – ізноў зусім адзін.

Пачало разьвіднацца, ясьнела пакрысе і ў прыкрасьці думак. І вывіднела такое простае й жыцьцёвае, глядзячы на сьцежку ў лесе:

Усё звычайна і ўсё так
проста,
Нават дзіву цешся часам.
То спатканьне, то раптам –
– ростань,
Бачыш – сьцежка ізноў завілася ...

Усё звычайна і ўсё так проста, як гэтыя словы улюбёнага паэты. Звычайны і просты й гэты лісток з нотэсу, калі паглядзець на яго простымі вачыма ў досьветным разьвідненьні (перачытаць яшчэ раз). Так, што тут такога, і чаго, і на каго вераdaваць? Разгладзіць, зладзіць акуратненька і- схаваць.. Ага, яшчэ-ж ёсьць... сьмеху варта: канчары - "бычкі" ў пушачцы. Но, які тут сьмех, гэта - у музэй, у паноптыкум успамінаў (як гэта завецца: сувэніры? амулеты? рэліквіі?). Някага сьмеху: тут-жа былі, прыкладаліся тыя самыя вусны - мэталічна-сьцюдзёныя...

Колькі іх тут? Палічыць. Толькі ўжо не разьбярэшся, каторыя ягоныя, каторыя ейныя (большыя, хіба). Няхай, усе разам. Трынаццаць. Ізноў дрэнь - чортаў лік...

Ага, стой: у яе-ж ёсьць--сам напісаў - ягоны адрыс? Можа напіша сама? Можа?

Чмыхнуў паравоз, вырэзна ня верачы ў гэтае "можа". Доўга й далёка несла панад вяршалінамі дрэваў ягоны гук лясное рэха перадсьвітальнае цішы. І ці ад яго, ці ўжо ад пары, пачалі будзіцца й будзіць гэтую цішу першыя птушкі. Вось зараз прахопіцца там дзесь у нетры й пакоьле ўсё сваім звонкім голасам якаянебудзь зязюля.

Можа, зязюлька, можа?

А ну, "Ку-ку, ку-ку!" Але- "куку з макам"! Адкуль табе ў жніўні абазьвецца зязюля? І яна-ж ужо ў зьнічках. А цікава, колькі накукавала-б? Можа таксама трынаццаць- чортаў лік?

Можа, зязюлька, можа?

А разьвіднела ўсё больш і больш. Цяпер каб зьнічка - ужо-б і ня ўбачыў. Неба пустое ўраньні і ўдзень, які тут зьнічкі. Неба пустое, усё - пустое...

Нехта стукаў пальцам па плячуку. Ага, вось яно, ужо забытае: "крыміналь-паліцай, контроле". І на блясе пад кляпаю - нумар: трынаццаць. Нарэшце, што-ж -"няма лягчэй, як паддацца" - і што застаецца больш? Зьнічкай-жа ўжо - у сусьветных прасторах- анел -ахоўнік.

Нехта разьвітваўся на станцыі - "аўфвідэршаўэн".

Няхай, няхай і крыміналь-паліцай, цяпер,- Бо было-ж усёткі -- аўфвідэршаўэн - да пабачэньня зноў - зноў! Было і будзе зноў!

Хоць і - у "сусьветных прасторах".

---хшхшхшЖЖшхшхшх---

Пэрсыдзкая [illegible]

Р. Коўшына

Даўным-даўна і далёка
За высокімі гарамі
Дзе за морам, за Касьпійскім
Жыў пэрсыдзкі цар Хазрой.
Прагавіты, ганарысты
Ён шукаў сусьветнай славы.
Дні ягонага ўладарства
Змрочнай сталіся парой.

Паднявольныя народы
Ён зганяў на фэстывалі
Прымушаў іх пад прыгонам
Песьні весела сьпяваць,
І тырана — пераможцу,
Заглушаючы сумленьне,
Родным, мудрым і вялікім
Перад сьветам выслаўляць.

Ад галодных, ад галоты
Адгароджаны сьцяною,
Ён праводзіў дні ў забавах
Ад кальянаў віўся дым.
Калыхаліся штандары,
Краскі кідалі Хазрою,
Залатыя кубкі з мёдам
Выстаўлялі перад ім.

А ці ёсьць жыцьцё ў раскошы?
У разгуле ненасытным,
Як адараецца заўсёды,
Шчасьце рвецца на шматкі,
І тады гніце раздума:
Ёсьць на сьвеце безьліч скарбаў,
Іх няўзнак мінаюць людзі,
Толькі бачаць мастакі.

Мастакоў усюды гонар,
Скрозь адчыненыя дзьверы.
І ў хацінах, і ў палацах,
Навет там, дзе цар жыве.
І ў багатыя гарэмы,
І ў сукрытыя купальні,
Дзе ля мармуры басэйну
Хараство ў харасьцьве.

Праз краю складаюць вершы,
І малююць на палотнах,
І разцом на цьвёрды мармар
Накладаюць лёгкі штрых.
А ў цара жанок нямала —
Зіхацяць, як дыяманты...
Хай-жа ў будучыні нашчадзь
Палюбуецца на іх.

Не ўспамін хай будзе ўнукам
Постаць горда прыгажуньні.
Цар Хазрой зазваў да хаты —
Маладога разьбяра.
І яго павёў гасьцінна
У патаёмныя пакоі,
Паказаў сваіх там жонак —
Пыху царскага двара.

Ні ў адной няма заганы,
Зьзяюць роўна ўсе, як зоркі.
Выбірай, якую хочаш !
Сузіраючы — твары.
Прыгажуньні ў белых строях,
У маністах жамчуговых,
Як на радасныя сьвята
Хараства нясьлі дары.

Лебядзінай чарадою
Праплылі у карагодзе
І адна з іх асталася,
Прыпыніла лёгкі крок.
Быццам крыламі, рукамі
Плаўна ўзьвеяла ў паветры.
З плеч хіснуўся лёгкі велюм,
Можа навет назнарок.

Раптам спрытна падхапіла;
Ахінулася пасьпешна,
І празрыстым матылёчкам
Замільгала ля жанчын.
І мастак ужо убачыў:
За ле няма найлепшай.
Далікатны цьвет магнолі —
Лёгкавейная шырын!

Пад празрыстым тонкім шоўкам,
Цела белае лілеі
Дзе ўзьнятая прыветна
Неакрытая рука,
Хараством клясычных формаў
І гульнёй прыгожых рухаў
Захапляла, хвалявала
Маладога мастака.

Ён абраў яе. Ён верыў,
Што няма дачкі Ірану
Прыгажэйшай, а напэўна
І на сьвеце ўсім няма.
Толькі з ёй вядзе дарога
Да вялікага мастацтва.
Стварыць помнік для нашчадкаў,
Слава зьявіцца сама.

І пачаў Фэрхат з запалам...
Пад рэзцом пакорным вырас
Вобраз казачнай красуні
У цьвеце сонечнай вясны.
У затоеным жаданьні
Сэрца млела, ападала,
Заіскрыліся пачуцьці
І паўсталі мроі-сны.

Адтвараць красу на яве,
Адчуваць у творы радасьць –
Шчасьця гэткага ня знялі
Падышахі і цары.
Перад ім Шырын стаяла,
Як антычная багіня.
Твар зь інтымнай цяплінёю
Усьміхаўся без чадры.

І распушчаныя косы
Да каленаў ападалі,
Косы пышныя, густыя,
З бляскам, чорныя, як смоль.
Паланеў Фэрхат спакусай
Прытуліцца бліска-бліска.
У яго украдкам сэрца
Засмактаў нязнаны боль.

Нейкі гострьі, а салодкі,
І гарачы, а прыемны.
Гэты боль таму вядомы,
Хто ў жыцьці кахаць умеў.
Навет ночы ў неспакоі,
Сьвет зьмяняецца дзівосна.
Толькі любай бачыш вочы,
Толькі любай чуеш сьпеў...

Але шчасьця час нядоўгі.
Скончыў твор.Няма сустрэчаў...
Дні пайшлі памалу, нудна,
Як арба, як рып калёс.
Ня стрываў Фэрхат нарэшце.
Каб хутчэй пазбыцца мукаў,
Да цара прыйшоў з прызнаньнем
Даручыць яму свой лёс.

І з панікл ай галавою
Да Хазроя ён прамовіў:
– О, магутны цар Ірану!
Слова выказаць дазволь.
Б'е паклон табе ў пашане
Твой Фэрхат, і царскай ласкі
Просіць сяньня, каб суцішыць
У грудзёх пякучы боль.

Ён стаіць перад тваімі
Ясназорнымі вачыма.
І жыцьцё сваё і талент
Каля ног тваіх кладзе.
З тэй пары, як я наведаў
Твой гарэм з тваіго дазволу,
Для душы мае спакою
Не магу знайсьці нідзе.

Паднявольны сіле змусты,
Я закон дзядоў парушыў.
Я – мастак, і ў творчай працы
Сузіраў красу жанчын.
І мяне Алях за гэта
Пакараў тэй злою жарсьцяй.
У начы бяссоннай бачу
У сьветлым вобразе Шырын.

Мне даруй. Яе кахаю.
Нашу слаўную царыцу.
Я люблю, люблю ўсім сэрцам,
Як жыцьцё, як родны край.
Патрабуй усё, што хочаш!
Я гатовы да ахвяры.
А Шырын, прашу з пакорай,
Падаруй мне, цар, аддай!

І Фэрхат, упаўшы ніцма,
Распасьцёр наперад рукі.
– Мне аддай! – маліў Хазроя,
Распластаны скамянеў.
Аж зьбялелі ў страху пэрсы
На вузорыстых каберцах,
І чакалі – зараз громам
Прагрукоча цараў гнеў.

Як паважыўся падданы
Праказаць такія словы?
Зь ім тут разам і бязьвінны
Грознай кары ня міне.
Але дзіва: хмары зьніклі...
Цар цыбук паклаў спакойна.
Скрыва неяк усьміхнуўся
І сказаў: – Ня веру. Не!

Я ня веру гэтым словам.
Мастакі ілгуць заўсёды.
Davядзі, Фэрхат, адвагай,
Што кахаеш ты яе.
Бачыш горы Бісутуну?
Ты павінен іх прымусіць
Гаварыць. Няхай мне славу
Кажны камень там пяе.

І тады табе паверу,
І Шырын за жонку возьмеш.
А твае каханьне зь ёю
Ўсе вякі перажыве.
Цар ляното пахіснуўся,
І яму цыбук паднесьлі.
Думкі чорныя снавалі
У ягонай галаве.

— А няхай спрабуе шчасьця!
На яго там сьмерць чакае.
Зь Бісутунскіх гор ніколі
Не прыходзілі назад.
Ён зьнікне з тых сустромаў...
І Шырын яму ня ўбачыць...
Цар зласьліва ўсьміхнуўся,
І сказаў: — Ідзі, Фэрхат!

І Фэрхат пайшоў шчасьлівы
На захмарныя вяршыні
Легендарнага узвышша
Напярэчкі долі злой.
Дзе арлы адны ўзьлятаюць,
Дзе гуляе толькі вецер,
Чалавек тварыў самотна
Над сустромнаю скалой.

Ён ня бачыў небясьпекі.
У яго адно імкненьне:
Дасягнуць жаданай мэты,
Ідучы ўсім насуперак.
Хай навокала сустромы,
Хай прадоньне пад нагамі
Ён штодня нястомна-ўпарта
Адмяняў аблічча гор.

Сіла й розум чалавека
І ягоны буйны талент
Падуладныя пачуцьцям,
Іхны слухаюць загад.
Так прымусіла Фэрхата
Ўсемагутнае каханьне
Рэзьбіць горы, і навекі
Так здабыў імя Фэрхат.

Горы горда ўзгаварылі,
Ўзгаварылі, як жывыя.
З тонкавысечаных скалаў
Пазіралі абразы,
Абразы жыцьця Хаарон:
Фэстывалі, ловы, бітвы,—
Фрэскі, сьвітыя пладамі
Вінаградныя лазы.

Вырысоўваліся зьнікла
Часу слаўкыя падзеі
І знаёмыя абліччы
Тагачасныя пары.
Там была адна асобна
Аблюбованая постаць.
Вусны клічуць і сьмяюцца
З-пад адкінутай чадры.

І працягнутыя рукі
У тонкіх рысках на далонях.
Далікатнай ножкі вырыс
З расхінутага крыса,
І ў каралях і карунках
Грудзі — дзьве жывыя хвалі.
Бліццам гэта з морскай пены
Нарадзілася краса.

Няпрыступную цьвярдыню,
Гэту казачную велічь
Не пахісяць у стагодзьдзях
Ні віхуры, ні дажджы.
У застыглым лёгкім руху
Зачараванае цела
Як жывое і, здаецца,
Сэрца ў ім жыве-дрыжыць.

Часта надзіць падарожных
Да сябе магутны помнік,
Паглядзець, за што Фэрхата
На узвышшы кінуў лёс...
А Фэрхат тварыў і мроіў.
І Шырын стаяла блізка —
Праз не пайшоў на мукі,
Маладосьць сваю панёс.

Як чароўна, калі ўраньні
Сонца косы рассыпала
І на ўзвышшы Бісутунскім
Ажывалі валаты!
Праразаліся з туману
Павырэзьбленыя скалы,
Зіхацелі ў векапомным
Аўрэолі залатым.

І Шырын цішком з гарэму
Пазірала ў даль на горы,
Дзе, ня ведаючы ўтомы,
Ажыўляў граніт разьбяр.
І сама сабе казала:
— Мой Фэрхат — арол бясстрашны.
На вяршынях гор ён горды
І магутны сам, як цар.

[illegible]
Веру цьвёрда – не загіне.
Прыйдзе у палац героем,
Прыйдзе любую забраць.
Разам зь ім жыве каханьне,
Сіла боская, зь якою
На няпройдзенай дарозе
Не павінен паміраць.

Запраўды, Фэрхат ня зьгінуў,
А вярнуўся з гучнай славай
І адразу да Хазроя
Ў зьліты золатам палац.
Сьвяткаваў ён перамогу
Абавязку над правамі,
Не прасіць цара з паклонам,
А прыйшоў патрабаваць.

На Хазроевы пахвалы
Ды на золата чырвонцы
Не гарэлі іскры шчасьця
У Фэрхата уваччу.
– Мне ня трэба жадных скарбаў, –
Адказаў мастак з пагардай,
– Абяцанага жадаю,
Больш нічога не хачу.

Цар здрыгнуўся. Сэрца млосна
Зашчымела ў прадчуваньні
Незаступнай цяжкай страты...
Дык няўжо? Аддаць? Згубіць?
Дарагой цаны заплата!
Аддасі – і застанецца
Нявыгойлівая рана.
Ці ня лепш адно – зманіць.

Цар ачулеў. І пахмура
Праказаў: – Шырын памерла...
Ня стрываў Фэрхат удару.
Ён у роспачы нямой
Сьмерць прадчасную прыймае.
Моўкне сэрца пад кінджалам,
Амываецца крывёю...
Ты дасяг свайго, Хазрой!...

Што Фэрхата ашукалі,
Што дарэмна ён праходзіў
Шлях цярністы, шлях зіты.
Ён, няшчасны, паў ахвярай
Самаўладнага Хазроя.
За яго памсьцяццагоры,
Бісутунскія хрыбты.

Дагарэла зорка ўраньні,
Бура дрэва пашчапала...
Песьняры па ўсёй краіне
Выслаўлялі разьбяра.
Тыя песьні быццам прой май
Да Шырын праз мур шугалі.
– Згінуў любы самагубам,
Сьцяты здрадаю цара.

Як дачулася аб гэтым,
Горка плакала царыца
І займглёнымі вачыма
Слала жаль у даль да скал.
Там каменныя магуты
У строгай веліччы стаялі.
Несьмяротны дух Фэрхата
У імгле сівой блукаў.

І мастацкаю разьбою
Шчараванага граніту
Заклікаў Шырын прынадна
Адвячорнаю парой
Горы мсьціліся Хазрою.
Прыгажуньню паланілі.
Зьвяла, высахла магноля,
Несагрэтая вясной.

Безгранічным жалем сэрца
Адпакутвала і сьціхла.
Сталь халодная кінджалу
Уraз расьсекла вузел мук.
Так Шырын пайшла бяз страху
За Фэрхатам за каханым...
А стары Хазрой бяздадна
Грыз у злосьці свой цыбук.

Не, ня ты перазаў горы,
А твае, Фэрхат, каханьне.
З гэтай сілай перамог ты
І жывым прыйшоў да нас.

——о— +‡+—о———

Л. Крывічанін

# Запіскі эміграта

А д р э д а к ц ы і. "Запіскі эмігранта", якія мы пачынаем друкаваць, надысланыя да рэдакцыі праз ветлівасьць аднаго з нашых сымпатыкаў. У прыкладзенай да "Запісак" нататцы зацемлена, што "Запіскі" знойдзеныя выпадкам, пасьля расьцярушаньня аднаго зь лягераў так званых "Д.П." Імя аўтара й ягонае цяперашняе месца пражываньня не ўстаноўлена. Наш сымпатык прыпушчае, што аўтар "Запісак"- бяздомны расейскага паходжаньня чалавек, блізка знаёмы з жыцьцём беларусаў, і, магчыма, што й цяпер яшчэ жыве ў вадным зь лягераў так званых "Д.П." Мы схіляемся на ягоную думку, але станоўка сьцьвярджаць гэтага ня важымся. Тое, што "Запіскі" напісаныя ў расейскай мове, не дае яшчэ права сьцьвярджаць, што аўтар іх-чалавек расейскага паходжаньня, бо і ў беларускім асяродзішчы часам сустракаюцца людзі, якія карыстаюць із расейскае мовы. Але ўсё-ж некаторыя паасобныя заўвагі аўтара выразна выяўляюць псыхалёгію чужынца, што дае ўжо некаторое права не вызнаваць яго за беларуса.

Надысланыя нам "Запіскі", у форме дзёньніка, досыць пацярушаныя; першыя лісткі, аж да 25 сакавіка 1942 г., зусім выцертыя й малачытэльныя. Зь вялікімі высілкамі нам усё-ж удалося ўстанавіць, што свой дзёньнік аўтар пачаў натаваць ад першых дзён вайны, жыў на Беларусі, прыпушчальна - ў Менску. З паасобных невялічкіх урыўкаў малачытэльных лісткоў і з аналізу далейшага зьместу "Запісак" можна толькі прыблізна схарактарызаваць аўтара. Гэта чалавек найперш апалітычны, сангвінічнага характару, грамадзкі, чалавек, які мае дзе зьбянтэжыцца. Ува ўсім іншым - гэта звычайны, сярэдні чалавек ваеннага часу, які ратуе сваё жыцьцё ад зьнішчальнае сілы вайны й карыстае для гэтага з кажнае сытуацыі.

Надрукаваньне гэтых "Запісак" рэдакцыя ўважае за карыснае з двух гледзішчаў. Першае, у запісках ёсьць шмат цікавых назіраньняў зь беларускага жыцьця староньняга нам чалавека, і таму гэтыя назіраньні могуць прыслужыцца як матар'ял для аб'ектыўнае крытыкі нашага грамадзтва й для самааналізу паасобных сяброў яго. Другое, запіскі часта рысуюць драбніцы штодзённага жыцьця, а з драбніцаў гэтых фактычна й складаецца само жыцьцё. Калі-ж узяць на ўвагу, што гэтыя драбніцы натаваліся беспасярэдня з самога жыцьця ў часох ваеннае завірухі, калі кажны чалавек найчасьцей бывае без цывілізаванае маскі, дык яны могуць больш праўдзіва схарактарызаваць чалавечую натуру й адлюстраваць запраўднага чалавека, не ў сьвяточным гарнітуры, а ў ягонай штодзённай вопратцы.

Запіскі няведамага аўтара мы назвалі "Запіскамі Эміграната", уважаючы, што такі тэрмін будзе найбольш адпавядаць праўдзе. Аўтар запісак мог быць якой-небудзь перамешчанай асобай, сілком перасяленай, прымусова вывезенай, выгнанай, загнанай, запраторанай, расьцярушанай і г.д., мог быць уцекачом - старым расейскім, або новым, мог быць нарэшце так

званым "калябарантам". Але ў кажным разе – гэтая асоба ў выніку вайны апынулася на чужыне й ня хоча скарыстаць із зручнае нагоды, як канец вайны, каб вярнуцца на сваю радзіму. А ў такім разе праўдзівей за ўсё назваць гэтую асобу эмігрантам.

"Запіскі" падаём у перакладзе і ў рэдакцыі Л.Крывічаніна.

Рэдакцыя.

## Ад перакладніка.

Рэдактар перакладу чамагаўся найперш захаваць стыль запісак няведамага аўтара, дзеля чаго найбліжэй трымаўся аўтарскага тэксту. Прашу прабачэньня ў шаноўных чытачоў, што ў сувязі з гэтым паасобныя мясьціны запісак могуць здавацца занадта падрабязнымі й цікавымі хіба толькі для гісторыкаў.

Л. Крывічанін.

### 25 сакавіка, 1942 г.

Бачыў нейкі дзіўны сон. Сьнілася мне, што нібы йду я па Галоўнай вуліцы й назіраю звыклы малюнак: машыны, салдаты, грузавікі сную ць узад і ўперад, зьбянтэжаныя цывільныя па баках туляюцца. Грукат, галас, бязупынныя гудкі машынаў – адным словам – вайна. Раптам сталася ціха, да таго ціха, што ажна страшна зрабілася. Стаў я й дзіўлюся – што такое? нібы тое самае, а тымчасам зусім іншае. Вось прафэсар Фэцкі (той, што вылічаў канец вайны) ідзе, нібы й ранейшы, але ўжо зашпілены на ўсе гузікі і з партфэлем пад пахай. Ветліва вітаецца. Вось інжынэр Адбіткоўскі, які мыла з падлаў варыць, на аўтамабілі праймчаў. Гузачыха з кашолкай у руках прашкандыбала. А вось і Сымон на сваім кані едзе. Пад'ехаў да мяне й спыніўся.

– Ты чаго, крывічыц, рот разьзявіў? Зачыняй хутчэй, а то і з табою будзе тое, што з адным Хлімончыкам было. Той таксама вось, як і ты, з канём сустрэўся, а пасьля тры месяцы з абвязаным рылам хадзіў і ўсім жаліўся: "Ішоў, кажа, ціха па вуліцы, а нейкая разіня ехала і проста мне аглабліной у рот". Вось як бывае... Ну, дык што чуваць?

– Ды вось стаю ды дзіўлюся – што робіцца.

– А чаго тут дзівіцца? Нічога новага няма, усё як было, так і ё, – і Сымон крануў каня. Паехаў.

Няўжо ніхто нічога не заўважае? Цуд! Іду далей па Пагарэлай вуліцы, а тут ужо новыя хаты як грыбы павырасталі, нібы ў казцы якой, або, нераўнуючы, у справаздачы ўраду. Крамы скрозь паадчыняныя, а ў крамах дабра ўсякага гарамі навалена. Вось ідуць салдаты, песьні пра вайну сьпяваюць, а кулямёты й бомбы па вуліцы раскідаюць. І нікога гэта не палохае, а наадварот – цешыць, бо дзеці падбіраюць бомбы і як у мячыкі зь імі гуляюць. Дзіва!

Падыйшоў да плошчы былой Свабоды, а тут радыё-вяшчальнікі на ўсе лады грымяць:

"Вайна скончаная! Арміі ўсіх народаў распушчаныя! Усе кардоны зьнятыя, а зас-

лоны паднятыя! Мір і супакой! Мір і супакой! Ура! Няхай жыве супакой!"

У гэты час з-за рогу Танкавай вуліцы на плошчу ракой наплылі грамады людзей, якія павольна спыняліся ля помніка Невядомага Героя. Наперадзе падраўнялася аркестра барабаншчыкаў, а за ёй мора сьцягоў і натоўп. Вось на помнік ускочыў нейкі жвавы чалавечак і пачаў крычаць:

"Вызваленыя, свабодныя людзі! Вайна скончаная! На ўсім сьвеце запанавала ціша й сугучнасьць! Няма аніякіх спрэчак паміж народамі! Спалучаны ўрад вялікіх нацыяў абвесьціў для кажнае нацыі поўную не...

– Што абвесьціў спалучаны ўрад, – дачуць не ўдалося, бо раптам як разане барабанная аркестра, як загрукочаць гарматы, як загудуць самалёты, ажна, здаецца, зямля здрыганулася... Тут я прахапіўся ад сну, але грукат ня спыняўся. Я саскочыў з ложка й рынуўся да дзьвярэй, бо ў мае дзьверы барабанілі так, што ажна ўся хата хадыром хадзіла. Калі адчыніў дзьверы, даведаўся, што прыйшла нямецкая жандармэрыя павяраць жыхароў і аўсвайсы+).

За тое, што я замарудзіў адчыняючы дзьверы, мне жандар напачатку паказаў пісталет, а пасьля адмерыў ня дрэнную плюху... На гэтым скончыўся мой дзіўны сон, бо толькі пасьля жандармаўскае навукі я прыйшоў да цяму й зразумеў, што ўжо ня сон, а рэчаіснасьць.

Суседзі з поваду майго сну кажуць, што хоць ён скончыўся й ня зусім удала, але гэты сон – вяшчун і ён прадракае канец вайны. Адзін Сымон не падзяляе агульнай думкі. Ён кажа, што сны трэба разумець якраз наадварот.

– Калі ты сьніў, кажа, што гэтая вайна скончылася ў такі нечаканы спосаб, бо тут, браток, рыхтуйся да новае вайны. Так гэты сон трэба разумець.

Верыць Сымону ніхто ня хоча...

## 26 сакавіка, 1942 г.

Учора ў беларусаў было сьвята. Спраўлялі гадавіну свае́й колішняй незалежнасьці. З гэтае прычыны наладзілі ў тэатры вялікі сход і пачалі гаварыць. Гаварылі шмат: пра тое, як калісь змагаліся, як былі незалежныя, як і іх усё было і што цяпер таксама...

Мне ўвесь час сьвярбела выступіць і спытацца, а чаму цяпер нічога няма і хто канкрэтна вінавайца гэтага? Але выступіць пабаяўся і добра зрабіў, бо калі пасьля сходу загаварыў пра гэта зь Янкам Шчырым, дык той мяне ледзь не залічыў у ворагі.

– Вы, кажа, не разумееце гэтага, бо вы яшчэ ня наш; вам яшчэ, кажа, адзіная й недзялімая адрыгаецца, а як вашае нутро зусім ачысьціцца ад гэтае дрэні, тады ў вас і ў галаве прасьветлее...

Што я меў на гэта адказаць? Зразумела, нічога. А тут яшчэ і Ахрэм Авечка падцягнуў.

– Мы, кажа, змагаліся й змагаемся і заўсёды будзем змагацца, аж пакуль нам не дадуць, а калі ўжо дадуць усё, што трэба, тады й змагацца кінем. Мы – упартыя.

Дзіўны чалавек гэты Ахрэм – усё яшчэ спадзяецца, што дадуць. А тымчасам вось і сяньня не далі. Хацелі яны ў вадзнаку сьвята наладзіць дэманстрацыю, г.зн. паказаць свае сілы, а немцы ім не дазволілі. Вось табе й незалежнасьць.

Увечары, пасьля сходу ладзілі "гарбатку", куды я,

---

+) пасьветчаньні

нажаль, ня трапіў. А шкада, бо сяньня Арыэнтацкі хваліўся, што "гарбатка" прайшла надзвычай удала: нікога ня вынесьлі й навет ня вывелі, а тымчасам усім хапіла. Гутарылі таксама шмат, але кудысьці весялей, чымсь на "акадэміі". Напачатку ўсе адзін аднаго хвалілі, а пасьля, калі выпілі па трэйцяй чарцы, пачалі сварыцца: - І таго не зрабілі, і гэтага не дарабілі, і той вінаваты, і гэты не даглядзеў і наагул - ніхто нічога ня робіць. А як падлілі яшчэ, стала зусім весела, бо заґаманілі ўсе разам.

Мікіта Гузак, які слухаў нашую размову, сказаў, што гэтая зьява зусім натуральная.

- Кажная вільгаць, казаў ён, язык размывае, і ён тады ходзе вальней. Мне доктар, калі я заікаўся, таксама кроплі раіў, і я тады гэтых кропляў выпіваў па шэсьць шклянак на дзень. І памагло, бо цяпер ужо заікацца пачынаю толькі пасьля восьмае шклянкі.

27 сакавіка, 1942 г.

На нашай вуліцы асяліўся новы чалавек, у якім Сымон апазнаў таго вучонага, што калісь майстраваў нейкае цудоўнае кола-самакоутку, а пасьля раптоўна зьнік. Завуць яго Камель, а прыехаў ён із занятых усходніх земляў.

28 сакавіка, 1942 г.

Сымон зьбіраецца на вёску - зямлю дзяліць. "Мне, казаў, таксама як і іншым, чужой зямлі ня трэба ані пядзі, а калі ўжо сваю, нашую дзеляць, дык тут, даруйце, і я маю поўныя правы хоць на чвэрціну".

Мабыць, самалёты напалохаўся, бо сяньня ў начы бальшавікі на літоўскія казармы наляцелі й шмат каго напалохалі. Праўда, шкоду зрабілі невялікую - разьбілі прыбіральню ў суседняга гаспадара. Але за другім разам, калі пашанцуе, могуць і галаву пашчапаць. А Сымон хоць і кажа, што галоўнае ў чалавека жывот, але галаву таксама беражэ.

29 сакавіка, 1942 г.

Зьнік Мімікрыйскі. Адны кажуць, што пайшоў на працу й не вярнуўся, а другія сьцьвярджаюць, што наагул нікуды не хадзіў, а з хаты зьнік. Як там было - ня ведама, а толькі ўсё ягонае майно немцы сяньня вывезьлі, а ў кватэру пасадзілі сваіх. Шмат каму такая рэч не спадабалася.

30 сакавіка, 1942 г.

Зноў быў у мастакоў ды пісьменьнікаў. Гэтым разам дэманстрацыя собскіх мастацкіх вырабаў была слабая, але затое дыскусія разгарнулася лютая. У вадным кутку пырскнулі да сьцяны нейкага паджылага, плячыстага аўтара й вымагалі ад яго адказу, чаму ўсе ягоныя героі ў канцы вешаюцца. Той бараніўся, як мог.

- Гэта, казаў, ня я вінаваты, так псыхалёгічны канец вымагае.

- Дык хіба ў цябе канец заўжды на вяроўцы падвешаны? - насядалі на яго, - чым ты працуеш?

Плячысты толькі адно й цьвердзіў:

- Інакш не магу, псыхалёгія такая.

А хтось ззаду ўвесь час падліваў атруты ў гэты дыспут. Ён то бараніў псыхалёгію, то крычэў, што аўтара трэба самога павесіць за ягоны псыхалёгічны канец...

У другім кутку два маладзякі спрачаліся аб тым, хто зь іх больш сьпісвае.

- У цябе няма гістарычнага падыходу! - крычэў вышэйшы, - і ты ня можаш напісаць

на гістарычную тэму.

— Не магу, — згаджаўся нізэйшы, — бо ў мяне ўсе падручнікі зь гісторыі пагарэлі.

— Ці ня ў мой гэта гарод ваш каменчык?

— Не, гэты каменчык ня ў ваш гарод, але ў мяне кнігі пагарэлі, а ня ў вас.

Я ўжо хацеў быў паспачуваць нізэйшаму, якога стыхійнае няшчасьце ссадзіла зь гістарычнага сядла, высутыўшы ўсе ягоныя крыніцы, так што цяпер няма адкуль зачэрпнуць літаратурнае вадзіцы, але тымчасам падскочыў Арыентацкі, торкнуў мяне пальцам у жывот і паказаў: —

— А вунь і ваш сваяк. — Гляджу — модны дзяцюк, з вусікамі, незнаёмы. Штосьць не пазнаю. — А ён таксама — і апавяданьні піша і падноскамі гандлюе.

— Але-ж выбачайце, я гэтым не займаюся, я...

Але арыентацкі ня даў мне часу выказаць сваё абурэньне і паймчаўся да іншае групы.

На сярэдзіне пакою грымеў паэта Цымбальскі і ўсё намагаўся прачытаць свае новыя вершы, але яго ніхто ня слухаў. Толькі нейкі паселавелы музыка дзьбаў носам у ягонае плячо — відаць, нешта хацеў сказаць ды ня мог.

Да мяне падыйшоў нейкі маладзяк у вышыванай кашулі і з даўгім валосьсем.

— Вы хто? Прадстаўнік ад масаў? — пытаецца.

— Але-ж, ад масаў.

— Ну як маса ўспрыняла мой апошні верш?

— Але-ж дарўйце... з кім маю гонар?...

— Алесь Верабей — паэта — чыстая ліра.

— А прозай вы не спрабавалі? Я прозу больш...

— Прозай? — перапыніў мяне Верабей, — не! не спрабаваў, бо не хачу. А каб захацеў, дык ого! Я так-бы прозай чухвосьціў, нібы той Дзюмаайцец.

— Так, кажу, усё гэта вельмі прыемна, але нажаль ня маў гонару чуць вас.

— Што?! Ня чулі Алега Вераб'я? Вы што гэтым хочаце сказаць, шаноўны? Можа вы хочаце намякнуць, што мяне масы не вызнаюць?! Дык я вам зараз-жа даведу...

І страсянуўшы даўгім валосьсем, ён сьціснуў кулакі й пасунуўся да мяне бліжэй. Трэба праўду сказаць, я спалохаўся. "А што, дзіўнага, думаю, можа так давесьці, што пасьля і собскай жонка не пазнае".

— Даруйце, кажу, я маса, але, выбачайце, ня зусім маса... я... і... я...

— Стаўце кропку над "і"! — загрымеў паэта яшчэ больш узрушана.

— Я... я...

Чым-бы скончылася гэтая размова — ня ведаю, але на шчасьце падскочыў Арыентацкі. Ён неяк так спрытна скіраваў гутарку на апошні верш Вераб'я пад назовам "Пляту лапці" і выказаў такое захапленьне ад масаў, што Верабей трохі заспакоіўся. Калі адыйшоў ад нас, Арыентацкі мяне перасьцярог:

— З гэтым будзь асьцярожны, бо калі не патрапіш у ягоны тон — можа, браце, і ліхтары паставіць... Ён такі.

Пасьля гэтае размовы я пеўзаметку сьлізгануў за дзьверы і ўцёк дахаты. Цікава пабыць у культурнай кумпаніі, але часам бывае й небясьпечна.

31 сакавіка, 1942 г.

Па нашай парафіі пайшлі чуткі, што новы наш ясляненец Камель нешта круціць. Суседка ягонае Азарэіха казала, што нейкую парпятуй моблю+) выдумляе, якая сама будзе кру-

+) мабыць "перпетуум мобіле" — вечны рухавік.

ціцца. Гузачыха бачыла ся, што на свае вочы бачыла, як Камель круціў нейкае кола.

— Затоілася я, кажа, пад сьцяной ягонага сьвінушніка й пазіраю ў шчэлку, што ён будзе рабіць. А ён скінуў сьпінджак, закасаў рукавы й пачаў круціць нейкае кола. Крутане й пусьціць, крутане й пусьціць. А пасьля пачаў гаварыць да кола: "Я табе кажу, што само закруцішся". Мяне ажна ў пот кінула: "Ну што, думаю, як само закруціцца — што рабіць? Ці ўцякаць, ці крычаць гвалт?" І страшна і цікава. Але перасіліла сябе й стаю. А ён спацеў, як хорт, і ўсё падкручвае. "Закруцішся, кажа, няпраўда". Але, ведама, калясо дурное, само ня круціцца, паківаецца трохі дый стане. Тут ён як закрычыць: "Круціся! — такую дый гэткую. — Загадваю!" — Тут я ўжо ня вытрывала, спудзілася дый уцякла.

Відаць, баба трохі збрахала, але ў кажным разе Камлёва таямніца зацікавіла ўсіх і ягоны хляўчук цяпер сочаць усе людзі.

1 сакавіка, 1942 г.

Цікавая рэч, што сяньня ніхто не ашукваў. "Наошта цяпер ашукваць, — казаў з гэтае прычыны Сымон, — калі сяньня цэлыя дзяржавы толькі на ашуканьсьцьве і трымаюцца. Гэтым сяньня нікога ня зьдзівіш.

Не пашанцавала толькі Апанасу Дзюрцы. Ён ашукаўся і досыць моцна. Яшчэ зранку прыйшоў да Апанаса Яська Разак і паклікаў у "чайную".

— Сяньня, кажа, ты ня маеш права адмовіцца, бо сяньня ў мяне вялікая сямейная ўрачыстасьць.

Натуральна, Дзюрка пайшоў, бо хто адмовіцца ад дармаўшчыны. Прыйшлі яны ў піўніцу, Разак і кажа:

— Ну, браток, замаўляй усё, што хочаш — усё дадуць.

Дзюрка і пачаў замаўляць: і "маскоўскай", і закусь розную, навет па кавалку дражанага парася замовіў. Падсілкаваліся добра. На заканчэньне ўвесь гэты емінна-пітны асартымэнт яшчэ й піўком падгладзілі. Цудоўна.

— Ну, плаці дый хадзем, — кажа нарэшце Яська Разак, — мне пара. — І ён устаў ад стала.

Дзюрка аслупянеў.

— Як гэта плаці, ты-ж запрашаў?

— Правільна. Запрашаў я, — кажа Яська, а замаўляў — ты. Гэта я цябе ашукаў — сяньня-ж першага красавіка.

І мусіў Апанас выкласьці на стол 980 рублёў. Хацеў ён за такі жарт Яську бутэлькай пагладзіць, але Разака не ашукаеш — ён ужо быў за дзьвярыма.

3 красавіка, 1942 г.

Надыходзіць сьвята, усе горача ўзяліся за падрыхтову.

Юрэц пайшоў на сяло старацца самагону, Рыгор вымяняў задок цялятіны за паўпуда солі. Мікіта Гузак і Апанас Дзюрка ўвесь час перабіваюць на рынку, але гэшэфт ідзе слабы, бо пераважае гамбурскі тавар, а еміны бракуе. Горш за ўсё зь яйкамі — 170 р. за дзесятак, а ў паёк далі да сьвята толькі па адным яйку. Гэты факт асабліва абурыў Апанаса. "Ну, што я, кажа, буду рабіць з адным яйкам? У мяне-ж сям'я".

Прафэсар Жэцкі на гэтую справу заглядаецца зь іншага боку.

— Адным больш ці адным менш — справа невялікая, кажа, але вы, шаноўныя, зьвярнеце ўвагу на лік — адно! Чаму адно? — што гэта мае азначаць? Ці ня сымбаль гэта які? А калі сымбаль, дык што ён сымбалізуе? Вось куды трэба ўглядацца! У карэнь глядзець!

(д а л е й б у д з е)

# Новыя вершы

Н. Арсеньнева

## БУДУ СЯНЬНЯ ...

Сыпле раніца ў вакяньніцы
Раззалочаны сонца жвір.
Выйду ў сіню вятрамі ўмыцца,
Косы росамі перавіць.
Накіпаюць вясной далечы,
Дым зялёны пеўзе з лагчын...
Ці устоіць тут смутак нечы?
Ці увесну яго зьберагчы?
Ня умею я й так у распачы
Праклінець і людзей і жыцьцё.
Усёй бяды,
як ні плач,-
не аплачаш,
Хай на'т веры сьлязам дасьцё.
Буду-ж сяньня вясьне уторыць,
Із вятрамі ў платох сьпяваць,
Аж расою сівой, вячорнай
Наліецца ў лягох трава,
Ажно белыя плечы йгрушаў
Туманамі накрые змрок,
Ажно вочы мне зацярушаць
Іскры - месяца серабро!

= = = = =

## Я СУЦЯШАЮ НЯ ІНШЫХ - СЯБЕ.

Я суцяшаю ня іншых - сябе...
А найчасьцей, як уцеха - ў ваблоках.
Хоць як на зло, як галоднаму хлеб
Мроіцца словы спагады глыбокай.
Толькі сабе я упарта цьвярджу:
"Сьмела, наперад, хай смутна, хай шэра!"
Можа нядбала накручаны жмут
Рыфмаў запраўды пераіць няверы ?
Мо' дапамогуць камусьці і з вас
Вершы мае над сабой не заплакаць
І не рассыплю я ўсё-ж надарма
Сэрца вішнёвую, пенную шаквець?
Тое, што крышыць сягоньня ваш гарт
Вочы і мне злой маркотаю засьціць
Хоць і сьмяюся я колькі мага,
Сэрца чамусь не сьмяецца... І часта
Мне тут даводзіцца ў смутку гібець,
Толькі мо' плачу я трошкі іначай...
.................................

Я суцяшаю ня іншых - сябе,-
А найчасьцей, як уцехі ня бачу.

М. Сяднёў

## Я НЕ ПАЭТ.

Я не паэт, калі душы мае малітваў
ня шэпча ў грозныя часы народ.
Я не паэт, калі рашчуленыя рытмы
ня плавяць абыякавасьці лёд.

Я не паэт – ня ўзьнёсься я над часам,
наш век не задрамаў ў радкох маіх паэм.
Я не сказаў, адкінуўшы прыкрасы,
куды на хвалях мора мы плывем.

Я не паэт. Мяне нашчадак неахайны
разрэжа нажам напалам
і гляне: – "Пеў ён аб каханьні
і не пакінуў ён нічога нам".

А я, дзівак, убіў сабе у галаў,
што знаны я, што я – паэт.
Таго-ж ня знаў, што, ціхі я і кволы,
каппіў закопчаны другімі сьвет.

## ВЕЧАР.

Іду і, як радасьць, нясу сваё гора,
дотыкам ног скарынку сьнягоў ламлю.
Нібы із штыхоў, сьцякае сьвятло із зораў,
іголкамі холаду коліць зямлю.

Застыгшы на ўзьлёце, песьня замоўкла,
на ўсё я сказаць мог і так і не.
І шчасьце чужое із цёплых вокнаў
на вуліцы цёмнай агнямі лавіла мяне.

Я белыя плямы агнёў спалохана пераступаю
і ночы сябе аддаю на давер.
Мне сьніцца краіна у снох залатая,
што сьвеціць у вечар вокнамі цяпер.

Іду і, як радасьць, нясу сваё гора,
дотыкам ног скарынку сьнягоў ламлю.
Нібы із штыхоў, сьцякае сьвятло із зораў,
іголкамі холаду коліць зямлю.

1947.

xxxxxxxxxxx

# З паэзіі Савецкай Беларусі

Антон Бялевіч

\+ \+ \+

Я веру – зноў прыйду туды,
Дзе Сож зьвініць і пеніць хвалі
І дзе даўней мае дзяды
Вясну зялёную гукалі;
Дзе над калыскай, пад вярбой
Мне пела маці калыханку,
Дзе сэрцам шчырым і душой
Я палюбіў свабоду змалку
Я не адзін туды прыйду,
У край сярэбраных крыніцаў, –
Вялікі гнеў да чужаніцаў
І помсту мёртвых прывяду!

## УПЭЎНЕНАСЬЦЬ.

Ня плач. Навошта сьлёзы?
Ня трэба сумных слоў.
Распусьцяцца бярозы, –
Мы вернемся дамоў.

Сьняжынкі вецер гоніць,
Сьнягамі беліць гладзь.
А мне здаецца – коні
Асьнежныя ляцяць

Запахнуць руньню гоні,
Запахне луг травой...
Ты чуеш, маці? Звоніць
Бяроза пад стрэхой.

І коні топчуць гоні,
Зямля гудзе, як звон.
Матуля! Мы прагонім
Чужынца з краю вон.

Ня плач. Навошта сьлёзы?
Ня трэба сумных слоў.
Распусьцяцца бярозы, –
Мы вернемся дамоў.

## НЯ СУМУЙ, СУСТРЭНЕМСЯ, СЯЛІБА !

– Добры дзень! –
Ні гуку ад сялібы.
Узыйшоў на двор я запусьцелы
А у вокнах выбітыя шыбы
Мне сказалі: Усё тут амярцьвела.
Пад нагамі ганак іншым скрыпам
Адгукнуўся мне ў той ранак сумны.
Бачу, як пад ветрам нашы ліпы
Асыпаюць жоўтым лісьцем гумны.
Быў-бы рад сабачаму тут бреху,
Або ўзмаху пеўня над платамі.
Глухата. Ад гора навет стрэхі
Зарасьлі зялёнымі імхамі.
І пайшоў я вёскай адзінокай,
– Ня сумуй, сустрэнемся, сяліба!
Недалёка час той, недалёка,
Калі зноў засьвецяць сінія шыбы;
Калі зноў вясною нашы ліпы
Расхінуць да сонца сьцяг зялёны,
І жальбу і смагу цалкам вып'юць
Нашы беларускія загоны.

Да цябе я зноў прыйду, вярнуся,
Залячу, хаціна, твае раны.
А цяпер за волю Беларусі
Я пайду, дзе б'юцца партызаны.

У. Дуброва

# Запаветы Сакавіка

Акт 25-га сакавіка 1918 г., якім была абвешчаная Незалежнасьць і Суверэннасьць Беларускага Народу ў ягоных этнаграфічных межах, зьяўляецца ў васноўным выразам дасьпеласьці нашае палітычна-дзяржаўнае думкі, нашай поўнай апрычонасьці як народу-нацыі. У гэты дзень закончылася ўфармаваньне нашага нацыянальна-вызвольнага змаганьня. Акт 25-га сакавіка станоўка адкінуў усякія неакрэсьленыя формы нашага дзяржаўнага жыцьця, як аўтаномію ці фэдэрацыю. Паўнапраўныя дэлегаты-пасолы беларускіх сялян, работнікаў і інтэлігенцыі аднагалосна выявілі сваю волю на поўнае незалежнае жыцьцё ў Беларускай Народнай Рэспубліцы.

Таму акт 25-га сакавіка зьяўляецца гістарычным мамэнтам нашага вызвольнага змаганьня, які гаворыць аб тым, што ў гэты дзень наш народ поўнасьцю ўфармаваўся ў дзяржаўную нацыю, псыхалёгічна й палітычна назваў сам сябе, стаўся суб'ектам, суверэнам.

Акт 25-га сакавіка быў зрэалізаваны дзякуючы дзеяньню дзьвёх сілаў: 1) народных масаў (свабодна, дэмакратычна абраных дэлегатаў) і 2) палітычна-грамадзкіх дзеячоў, якія, пераняўшы вызвольныя традыцыі папярэдніх пакаленьняў і іхных духовых кіраўнікоў, сталі на чале іх. Гэтыя дзеячы-нашыя дзяржаўныя будаўнікі-знайшлі не толькі зразуменьне, але адвагу й станоўкасьць узьняцца на узвышша вялікае максымы: гісторыю твораць людзі.

Так, гэты ўрачысты дзень мае для нас тое вялікае значаньне, што ён задакумэнтаваў перад усім сьветам поўную палітычную дасьпеласьць нашага народу, які зьявіўся ўжо здольным да дзяржаўна-творчых актаў. Ён паказаў, што і беларускі народ мае людзей, якія ўжо ўмеюць тварыць гісторыю. Значаньне гэтага мамэнту вялізарнае. Яно гаворыць аб тым, што наш народ, які ўжо пазнаў шлях да свабоды й волі, які ўжо задакумантаваў усяму сьвету свае дзяржаўна-творчыя магчымасьці й здольнасьці ў вабнаўленьні свае суверэннасьці, можна, праўда, яшчэ часова трымаць у ланцугох няволі фізычна, але духова зьнішчыць яго ўжо не магчыма.

Аб гэтым сьветчаць таксама факты апошніх 27 гадоў. Дзяржаўна-незалежніцкую думку беларускага народу, не зважаючы на ўсякага роду (чырвоны, белы, бурнаты) нялюдзкі тэрор, вырваць з нашых душаў нікому не ўдалося. Наадварот, гэты тэрор і канібалізм не толькі ўмацніў, пацьвердзіў ейную гістарычную канечнасьць. Беларускі народ зложыў за гэты страшны перыяд мільёны ахвяраў на аўтар свайго вызваленьня. Аднак, гэтыя ахвяры не прапалі дарма. Яны навучылі нас адной жыцьцёва важнай рэчы: усякая арыентацыя на рознага роду апякуноў як з усходу, так і з захаду можа прынесьці нам толькі новую няволю, толькі новыя страшныя ахвяры. Яны навучылі нас, што адзіным нашым шляхам, адзінай нашай арыентацыяй зьяўляец-

ца шлях і арыентацыя на акт 25-га сакавіка.

Ягоныя творцы былі сынамі нашага працоўнага, сялянскага народу. Таму іхная палітычна-дзяржаўная думка была зьдзейсьненая ў пунктах, якія былі выразам жаданьняў і лятуценьняў шырокіх працоўных гушчаў. Яны абвесьцілі Беларускую Народную Рэспубліку, якая была выразам найболей паступовых, народна-дэмакратычных прынцыпаў. Калі мы сяньня возьмем пад увагу прынцып Атлянтычнае Хартыі, 4-х свабодаў прэзыдэнта Рузвэльта ці 12 пунктаў прэзыдэнта Трумэна, дык бачым, што творцы нашага 25-га сакавіка ўжо тады поўнасьцю выявілі ўвесь дух гэтых вялікіх сучасных гістарычных дакумэнтаў у сваіх пастановах. Гэты факт ня можа не напоўніць нашыя сэрцы ня толькі радасьцяй, але й вялікім гонарам. Ён гаворыць нам аб тым, што мы, беларусы, зьяўляемся запраўды дзейнікам поступу, міру й паразуменьня ўсіх народаў, што нашая дзяржаўная думка зьяўляецца выразам імкненьняў перадавога чалавецтва, ягоных найлепшых прадстаўнікоў.

Разьвіцьцё чалавецтва, асабліва апошнім часамі, сьцьвярджае факт нарастаньня нацыянальнае сьведамасьці народаў з аднаго боку, і іхнага імкненьня да паразуменьня, да вытвараньня агульна-людзкае, міжнароднае сям'і народаў — з другога. Гэтыя імкненьні маюць свае падставы як у масах народаў, так і ў выступленьнях перадавых людзей сьвету. Гэтая агульна-людзкая сям'я народаў можа вытварыцца толькі на базе паразуменьня ейных раўнапраўных сябраў, на базе найбольш дабрародных прынцыпаў людзкога духу, на базе любасьці й ўзаемнае пашаны, а не — ненавісьці, гвалту, змаганьня кля-

...аў і групаў, дэспатызму й тэрору. Апошнія сярэднявечныя мэтады выклікаюць ужо сярод людзкіх масаў усяго сьвету справядлівае абурэньне й пагарду.

Беларускі народ можа ганарыцца тым, што ягоны дзяржаўна-творчы акт 25-га сакавіка зьяўляецца выразам найвышэйшых дасягненьняў людзкога духу, бо ён у сваіх падставах зафіксаваў якраз агульна-людзкае паразуменьне, любасьць і пашану да чалавека, поўную свабоду ягоных дзеяньняў. Інакш і быць не магло, бо беларускі народ ніколі ў сваім дзяржаўным жыцьці, у сваёй гісторыі не перажыў ніякіх сваіх тыраніяў, ня меў ніякіх ганебных для людзкога духу й гонару чалавека дыктатараў-дэспатаў. Ён быў, ёсьць і будзе заўсёды дэмакратычным. Таму і ў гэтым выпадку акт 25-га сакавіка зьяўляецца выразам нашае духовае дасьпеласьці й гатовасьці ў кожным маменьце ўвайсьці ў склад міжнароднае, агульна-людзкае, дэмакратычнае сям'і народаў.

Разьвіцьцё гістарычных падзеяў апошнімі часамі йдзе ўкірунку забясьпечаньня правоў на свабоду як народаў, так і чалавека наагул. Акт 25-га сакавіка абвесьціў незалежнасьць Беларускага Народу ў ягоных этнаграфічных межах. Мы чужога ня хочам, бо ня маем намеру нікога паняволіваць. Акт 25-га сакавіка ня толькі зазначыў поўную свабоду грамадзян на беларускай тэрыторыі, але й канкрэтна правёў гэты вялікі прынцып у жыцьцё, прыбіраючы да Ураду Рэспублікі прадстаўнікоў нацыянальных меншасьцяў, улучна з жыдамі. Гэта значыць, канкрэтна была ўстаноўленая свабода ўсіх, безь ніякіх абмежаваньняў. Таму нашае змаганьне, нашыя ідэалы поўнасьцю згаджаюцца з агуль-

на-людзкім поступам, найвышэйшымі дасягненьнямі людзкога духу. Мы ведаем, аднак, што ў гістарычнай практыцы, паводля апошніх дасьледжаньняў, не заўсёды перамагаюць прынцыпы ідэалізму, праўды, агульна-людзкага дабра. Тут часта пераважае грубая фізычная сіла і ўсякага роду прыгожае на выгляд ашуканства, якое выкарыстоўвае людзкую слабасьць, наіўнасьць, нясьведамасьць, асабістыя амбіцыі й эгаізм. У гісторыі часта бывае, як кажа праф. К. Ясперс, калі "банды разбойнікаў і забойцаў забіраюць уладу ў свае рукі". Таму акт 25-га сакавіка таксама вучыць нас, што мы гэты момант мусім заўсёды мець на ўвеце. Каб усьцерагчыся яго, канечна трэба вытварыць моцны нацыянальны маналіт, які быў-бы дужым ня толькі духова, але й фізычна.

Такі маналіт будзе для нас гарантыяй, што асноўныя запаветы 25-га сакавіка пры адпаведных гістарычных абставінах будуць намі канчальна зрэалізаваньня.

Нашая Бацькаўшчына-Беларусь станецца ізноў Незалежнай Народнай Рэспублікай, як гарант нашае свабоды й раўнапраўны сябра агульна-людзкае сям'і.

-----ооо-0-0-0-ооо-----

## ТЭСТАМЭНТ ПЕРШАГА САКАВІКОЎЦА.

23 сакавіка 1864 г. у Вільні павіс на маскоўскай шыбеніцы вялікі змагар за вызваленьне нашага нашага народу Кастусь Каліноўскі. Перад развітаньнем із жыцьцём ён разьвітаўся з сваім народам у ведамых "Лістох спад шыбеніцы", даўшы ў другі зь іх свой ідэйна-палітычны тэстамэнт, у якім у сакавіку 1864 г. - упяршыню была адпісаная тая самая ідэя незалежнасьці Беларусі, якую ў 1918 г. сфармуляваў гаспадарственай моваю вялікі акт 25 сакавіка. Каб ушанаваць памяць перВялікага Сакавікоўца, падаём на гэтым месцы той ягоны Тэстамэнт, які й сяньня мусіць гучэць магутным загадам і перасьцярогай кажнаму, хто стаіць і змагаецца пад нацыянальным сьцягам.

" Беларусы, браты мае родныя!

З-пад шыбеніцы маскоўскай прыходзіцца мне пісаць да вас і можа астатні раз. Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, але ня жаль загінуць за тваю праўду. Прымі, народзе, да шчырасьці мае слова перадсьмяртнае, бо яно як-бы з таго сьвету толькі для дабра твайго напісана. Няма, браточкі, большага шчасьця на гэтым сьвеце, як калі чалавек мае розум і навуку. Тады ён толькі ўрадзе жыць у дастатках, і тады толькі, памаліўшыся Богу, заслужыць неба, бо, узбагаціўшы навукай розум, разаўе сэрца і народ свой цэлы шчыра палюбіць. Але як дзень з ноччу ня ходзіць разам, так і навука праўдзівая ня йдзе разам зь няволяй маскоўскай. А пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога ня будзе. Ня будзе праўды, ня будзе багацьця і ніякае навукі, адно нами, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, а на пагібель нашу. Вая, народзе, за сваё чалавечае й народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасьліва, калі над табой маскаля ня будзе ".

Р. Склют

# Пад нацыянальным сьцягам

Акт 25-га сакавіка 1918 г. падвёў канчальны грунт пад тую генэральную плынь нашага нацыянальнага руху, якая вядзе перад ягоны й сяньня - плынь незалежніцтва, што становіць сабою нічога іншага, як форму творчага, пазытыўнага нацыяналізму нашае безгаспадарствавае ў сучасным нацыі, якая аднак, меўшы сваю слаўнук гаспадарствавасьць у мінулым і выказаўшы ў ёй поўныя здольнасьці да незалежнага гаспадарствавага існаваньня й будаўніцтва, прыродна й законна імкнецца зноў, мае й выражае нязломную волю да адноўленае рэалізацыі гэтых здольнасьцяў- да станаўленьня собскае незалежнасьці, як у гаспадарствавым, так і ўва ўсіх іншых кірунках нацыянальнага жыцьця.

Ідэялёгія незалежніцкага нацыяналізму й ейны сьцяг - акт 25-га сакавіка - вызнаецца сяньня ўсім нашым нацыянальна-сьведамым грамадзянствам, аднак далёка ня ўсе ўсьведамляюць сабе ў поўным абсягу як зьмест гэтае ідэялёгіі, так і гістарычны працэс ейнага разьвіцьця ды той ягоны этап, які дасягнула гэтае разьвіцьцё сяньня. Таму зусім на часе хоць агульнае выясьненьне гэтага працэсу, ягоных ходаў і сяньняшніх здабыткаў. Праланаваныя тут абеглыя зацемкі й становяць сабою спробу такога выясьненьня, без прэтэнзіяў аднак на поўную вычэрпальнасьць, якое ня могуць забясьпечыць сучасныя эміграцка- - "дыпіўскія" абставіны, а галоўна, скрайняя абмежанасьць патрэбных матар'ялаў, пры якой даводзіцца абапірацца найбольш толькі на собскую памяць. Гэтую акалічнасьць просіцца ласкавага чытача найперш мець наўвеце.

Выясьненьне закранутага намі пытаньня тым больш на часе, што сяньня, пасьля апошніх гістарычных падзеяў, зьвязаных із заканчэньнем другое сусьветнае вайны, некаторыя кардынальныя палажэньні, на якіх абапіраецца й ідэялёгія нашага незалежніцтва, лучылі ў стан поўнае няяснасьці, якая часам навет палохае сяго-таго і зь людзей якім усё-ж нельга адмовіць у здольнасьці думаць і разьбірацца ў пытаньнях. Да такіх палажэньняў належыць найперш сама ідэя нацыяналізму. Няглыбокаму разумаваньню, асабліва падмацоўванаму адпаведнай прапагандай, часам здаецца, быццам лёзунг нацыяналізму, які займаў першае месца на сьцягох пераможаных у выніку апошняе вайны таталітарных рэжымаў і ідэялёгіяў- нямецкага нацыянал-сацыялізму й італьянскага фашызму- тым самым нагатульк і здыскрэдытаваў сябе ці прынамся стаўся непапулярным, што гаварыць аб ім сяньня ўголас аж неяк ня выпадае...Таму й нам найперш трэба разабрацца ў тым, ці маюць праўду такія асьцярогі й ці ёсьць патрэба ў нейкім хоць-бы пераглядзе таго асноўнага прынцыпу, які становіць душу нашага незалежніцкага сьветапагляду й руху.

Пагляд, быццам-бы ідэя нацыяналізму была ў выключным манаполі таталітарных ідэялёгіяў, папулярна званых "фашызмам" і, як такая, была й ёсьць чужой і варожай іншым ідэялёгіям вялікіх дэма-

краіны-пераможніцы ў другой сусьветнай вайне, грунтуецца толькі на поўным няведаньні запраўднага стану рэчаў. Бо што да ангельскага нацыяналізму, як практычнага, так навет і тэарэтычнага, дык ён быў і ёсьць вядамым добра ў цэлым сьвеце. Якраз ангельскім вучоным належыць і найбольш шырокае ды глыбокае абгрунтаваньне ідэі нацыяналізму, зробленае, як гэта надзвычай характэрна, у годзе пачатку другое сусьветнае вайны - у 1939 г., у выданай Каралеўскім Інстытутам Міжнародных Справаў калектыўнай працы пад назовам "Нацыяналізм". У гэтай працы ідэі нацыяналізму надаецца ўнівэрсальнае значаньне "групавога сымбалю цывілізацыі нашага часу", зьмест якога азначаецца як "сьведамасьць адрычонага характару розных народаў, улучна з тым народам, сябрам якога зьяўляецца дадзены чалавек, а таксама імкненьне да ўзмагутненьня сілы, свабоды й памысьнасьці народаў, як такіх"; прычым падчыркваецца, што ў гэтым сэнсе "можна азначыць, як прадстаўнікоў нацыяналізму, аднолькава Мадзіні, Глядстана, Удро Уільсана, як і Гітлера".

Ня менш папулярная ідэя нацыяналізму і ў сяньняшняй амэрыканскай грамадзкасьці. Ня так даўно амэрыканскі публіцысты Мірдоль у сваім артыкуле "Амэрыканская вера" пісаў пра амэрыканскі нацыяналізм, як пра "само собой зразумелую й дадатную адзнаку сяньняшняга амэрыканскага дэмакрата". Шмат каму будзе новым і не бясьціка ўным, што й жыды, якія дзякуючы розной і часта прадцілежнай прапагандзе, сходзяць у грамадзянусьцьве за стопрацэнтавых і заядлых інтэрнацыяналістых - ворагаў нацыяналізму, як такога - сяньня якраз выступаюць гарачымі адэптамі гэтае ідэі. Так адзін із выдатнейшых іхных ідэолёгаў і вучоных, аксфордзкі прафэсар Цымэрн, між іншага, піша ў гэтай справе: "Ангельцы зьяўляюцца вялікімі прадстаўнікамі практычнага нацыяналізму... Найлепшымі экспанэнтамі нацыяналістычнае тэорыі сталіся ў нашых часох жыды, якія, на маю думку, далі ў гэтай галіне ўклад калі не роўны, дык прынамся годны супаставы зь іхным укладам у поступ сусьвету на полі рэлігіі... Добры нацыяналісты зьяўляецца добрым чалавекам і лепшым грамадзянінам".

Нарэшце, дзеля паўніні малюнку трэба дадаць, што й такі міжнародны дзейнік, як каталіцкі касьцёл, які аддаўна быў носьбітам і насаджальнікам варожае ўсякаму нацыяналізму ідэі сусьветніцтва - касмапалітызму - ды свае дзейнасьцяй у гэтым кірунку, між іншага, не ў вапошнім выніку прычыніўся й да нацыянальнага занепаду нашага калішняга гаспадарства - Вялікага Княства Літоўскага, - вуснамі папы Піўса XI яшчэ ў 1932 г. у ваднэй зь ягоных энцыклікаў заявіў, што "слушны парадак хрысьціянскага міласэрдзя не стаіць у супярэчнасьці з законнай любасьцяй да свайго краю й з пачуцьцём усправядліўленага нацыяналізму".

Пасьля гэтых уступных зацемак, канечна патрэбных дзеля, кажу той, "рэабілітацыі" самой ідэі нацыяналізму ўваччу людзей асьцярожных і "развэжных", ці проста не даволі асьведамленых у сучасным стане гэтае справы, мы павінны перайсьці ўжо беспасярэдна да пастаўленае намі на пачатку тэмы - да разгляду гістарычнага працэсу разьвіцьця гэтае ідэі на нашым

нацыянальным грунце, каб выясьніць сяньняшні стан гэтага разьвіцьця й ягоныя апошнія здабыткі.

Ідэя нацыяналізму, як і ўсе іншыя ідэі нацыянальнага адраджэньня, зарадзілася на ўлоньні нашае адраджэнскае паэзіі й прозы, чым перайсьці ў сфэру практычнае й палітычнае дзейнасьці, апаноўваючы шырокія масы, кавалася й гартавалася найбольш у кузьні гэтае паэзіі. Навет і да сяньняшняга дня нашая паэзія не пакідае быць гэткаю кузьняю нацыянальнае ідэі, і ў гэтым няма нічкага дзіва з гледзішча на абставіны нашага жыцьця, мусам гісторыі вылучанага тымчасам із сфэраў гаспадарскае й шырэйшае палітычнае дзейнасьці. Таму й прасачыць разьвіцьцё нашае нацыянальнае ідэі – значыць найперш выцягнуць, вылушчыць,вобразна кажучы, із паэтычных формаў і сыстэматызаваць, зьлёгізаваць,калі можна так сказаць, той шлях гэтага разьвіцьця, які ў гэных формах зафіксаваўся, адліўся.

Першым,хто паставіў у нас на кон і пачаў разьвіваць ідэялёгію пасьлядоўнага нацыяналізму, быў, бясспрэчна, ніхто іншы, як агульнапрызнаны бацька нашага нацыянальнага руху і, адначасна, адраджэнскае паэзіі,як галоўнае, асабліва на першым этапе,формы гэтага руху – Францішак Багушэвіч. Праўда, ён меў сабе і ў гэтым, як і ў шмат чым іншым, такога папярэдніка й можа навет правадыра, як наш векапомны Кастусь Каліноўскі. Але нацыяналізм Кастуся Каліноўскага, пры ўсёй ягонай завойстранасьці, гэта яшчэ толькі выбух (і,як такі, ён увесь у рачышчы руху 1863 году), а ня хоць больш-менш прадуманая і закончаная сыстэма,гэта цалком- лінія рэвалюцыйна-паўстанцкага чыну (як у чыне і ўвесь Кастусь),практыка яго, а не тэорыя, сфармуляваная й абгрунтаваная, як абагульненьне практыкі й кіраўніцтва да яе.Тымчасам як у Францішка Багушэвіча,пачынаючы ўжо ад славутае прамовы да "Дудкі Беларускае", мы спатыкаемся ўпяршыню із спробаю тэарэтычна абгрунтаванай нацыяналістычнай ідэялёгіі, зьмест якое, праўда, яшчэ даволі абмежаны й разьвіваецца, галоўна, каля двух пунктаў: "культу роднае мовы", як добра сфармуляваў адну з асноўнейшых Багушэвічавых ідэяў Антон Навіна, і першых спробаў гістарычнага абгрунтаваньня нацыянальнае ідэі. У гэтым апошнім адразу-ж выяўляецца і ўвесь чыста-абаронны характар Багушэвічавага нацыяналізму. Ужо расшыфроўваючы пасвойму (і чыста паэтычна) прапагаваны ім нацыянальны назоў"Беларусь". Багушэвіч падчырквае: "Не вялікая, не малая, ня чырвоная, ні чорная яна была, а белая, чыстая: нікога ня біла, не падбівала, толькі баранілася". Гэты,былцам-бы толькі абаронны характар нацыянальнае гістарычнае мінуўшчыны мусіць абгрунтоўваць у Багушэвіча такі самы абаронны, не агрэсіўны тон і ўсяго нацыяналізму.Праўда, у гэтай абароннасьці Багушэвіч захапляе такі шырокі круг,як ніводзін можа зь ягоных наступнікаў, выяўляючы пры гэтым бадай ці не найбольшую вяўнічасьць: ягоны нацыяналізм скіроўваецца ня толькі супраць двух галоўных адвечных нашых нацыянальных варагоў з усходу й захаду, але й супраць іншых денацыяналізатараў і чужанацыянальных эксплёататараў – і жыдоў, і навет немцаў, якіх Багушэвіч ставіць на ад-

ну дошку з жыдамі ("бо жыды і немцы - дзеці аднэй маткі: і мова падобна, і тыя-ж ухваткі"; зрэшты, у гэтым дачыненьні Багушэвіч мае папярэдніка ў тым-жа Кастусю Каліноўскім, які ў сваёй "Мужыцкай праўдзе" таксама ня раз акцэнтуе антынямецкі мамэнт, зусім зразумелы для ягонае роднае Беласточчыны, што тады яшчэ памятала прускае панаваньне пары між падзеламі Рэчы Паспалітай і Тыльзыцкім мірам). Аднак, пры ўсёй ваяўнічасьці свайго нацыяналістычнага абароньніцтва Багушэвіч нідзе ня зрываецца да шавінізму, пры ўсім сваім антысэмітызьме ён не забываецца адзначыць, а навет паставіць у прыклад, пазытыўныя рысы жыдоўства і, галоўна, якраз жыдоўскі нацыяналізм, у якім за асабліва годную навукі й пераймання ўважае жыдоўскую нацыянальную салідарнасьць (байка "Падарожныя жыды", заклік і прадмова да "Смыка" "зрабіць музыку, як тыя жыдкі...")

Бадай адначасна з Багушэвічам, але ў зусім іншай пазыцыі выступае з нацыяналістычнай ідэяй Карусь Каганец, фармулюючы яе ўпяршыню ў сваёй "Прамове", пісанай неўзабаве й не бяз сувязі з Багушэвічавай прадмовай да "Дудкі Беларускае". Калі Багушэвіч увесь цэнтар цяжару пакладае на культ роднае мовы, дык Каганец пашырае гэты мамэнт да ўсеабсяжнага культу нацыянальнае традыцыі - ня толькі ў мове, але і ў вонкавых формах (як вопратцы), і ў песьні (тымчасам, як у Багушэвіча ў прадмове да "Смыка" наша народная песьня спаткала неспадзявана адмоўную ацэну). І, што асабліва важна, калі для Багушэвіча гісторыя служыць за абгрунтаваньне абароннага нацыяналізму, дык Каганец стараецца абаперціся на мужчыя й ваяўнічыя мамэнты ў ёй (заключныя словы "Прамовы" аб "нашых продках, што грэкамі, рымлянамі й немцамі трэсьлі"), засноўваючы тым самым другую лінію радыкальнейшага, супраць Багушэвічаўскага, мужна-ваяўнічага нацыяналізму. У гэтым сваім нацыяналізьме Каганец захапляе такі самы шырокі круг, як і Багушэвіч, з большай хіба акцэнтацыяй не на адных "маскалёх" (часта званых у яго і "кацапамі"), але й на "ляхах" (немцы, ізноў цікава адзначыць, таксама ўваходзяць у абсяг гэтага кругу, асабліва ў вершах "пра Галубка"). Аднак, гэтая лінія ваяўнічага нацыяналізму даўжэйшы час не знаходзіла сабе працягу: і ў гэтым дачыненьні Каганец заставаўся (дый бадай цяпер застаецца) зусім адзінотным, як і ў шмат якіх іншых кірунках сваёй творчасьці й дзейнасьці.

Багушэвічавы наступнікі бліжэйшага й далейшага часу аж да рэвалюцыі 1917 году ня ўносяць ніякіх кардынальных зьменаў і дапаўненьняў у накіданую "бацькам" ідэялёгію нацыяналізму. Толькі круг нацыянальнага супрацьстаўленьня імі звужаецца з канцэнтрацыяй усяе ўвагі на двух асноўных гістарычных ворагах нашае нацыянальнае ідэі. Гэта робіць упяршыню ўжо адзін із бліжэйшых Багушэвічавых пасьлядоўнікаў Адам Гурыновіч зь ягонымі вострымі, гнеўнымі радкамі:

"Сукін сын" і "пся мać" -
Абое рабое!
Ці-ж ня могуць нам даць
што-небудзь другое?

На гэтым-жа становішчы стаіць і Янка Купала:

...просім папросту:
кіньце нас мучыць
ляхі, маскалі!

Але дарэвалюцыйная Купалава творчасьць, шырока распрацоўваючы запачаткаваную Багушэвічам нацыяналістычную ідэялёгію, напаўняючы больш канкрэтным зьместам назначаную ім схему і даючы проста шэдэўры ідэйнае й мастацкае насычанасьці (даволі ўспомніць хоць-бы "Над Нёманам" ці "Ворагам беларушчыны"), ня выходзіць бадай за межы чыста колькаснага пашырэньня яе й ня ўносіць ніякіх прынцыпова, якасна новых мамэнтаў у самую сыстэму. Толькі пасьля рэвалюцыі Янка Купала пачынае ўзводзіць нацыянальную ідэю на вышэйшую ступень в ы з в а л е н с к а г а  н а ц ы я н а л і з м у, выстаўляючы шырокую праграму незалежніцкага вызваленьня нацыі, ад нацыянальна-культурнага аж да поўнага сацыяльнага й гаспадарстваага:

Годзе заходняй ці ўсходняй культуры!
Для беларуса цана ім адна,
Усе вы, пачове, аднакай натуры:
З сэрца чужога кроў ссалі-б да дна.
Вашу карысьць нам і вашы заслугі
Добра ўжо скеміў тантаны народ;
Добра вядомы і путы і пугі,
Песьціў якімі ваш Захад і Усход.
Мы не пакінем сваё папялішчы,
Зь сьцежкі наперад ня пойдзем назад,
Сьмела здрузгочым старыя бажышчы,
Новым законам збудуем пасад.
Годзе нам сілу прыблудаў вялічыць
Дзецьмі, багацьцем радзімай зямлі!
Нашы загоны даўно ўжо нас клічуць,
Нашы загоны, што зельлем зарасьлі.
Досыць ішлі на чужым павадку мы,
Доўгія векі бязь веры ў сябе,
Мы ўжо ня тыя - іншыя думы
Вырасьлі з намі, завуць к барацьбе.
.........................................
Годзе нам есьці аб'едкі і косьці,
Злыбядзе ўсякай паклоны дарыць!
Гаспадары мы ў сябе, а ня госьці,
Час к панаваньню нам сьлед церабіць!
Тое, што ўзята мною дачэсьне,
Вечна ня будзе душыць, як прыгон;
Наша вярнуцца к нам мусіць канечне, -
Гэткі ўжо быту народаў закон.

Гэты верш, хоць і напісаны яшчэ ў 1912 годзе, але магчымы да апублікаваньня й надрукаваны толькі пасьля рэвалюцыі, і дагэтуль застаецца лепшым сфармуляваньнем баявое пляцформы незалежніцка-вызваленскага нацыяналізму, а ягоныя энэргічныя заклікі - "Досыць!", "Годзе!", "Даволі!" падхапляюцца й варыююцца ўсімі вызначальнымі трубадурамі адраджэнскай, цяпер ужо выразна нацыяналістычнай паэзіі. Цікава, што навет у чарнавых накідах Максіма Багдановіча мы знаходзім прыніклыя радкі, якія сьведчаць аб поўнай эднамыснасьці ўсіх паэтаў-

-адраджэнцаў у гэтым дачыненьні:

Досі ўжо, браткі, чужынцам мы служылі,
Досі ўжо пашаны ім прыдбалі,
Не свае - чужыя сьцягі бабанілі,
Пад чужымі сьцягамі ўміралі.

Пад нацыянальны й нацыяналістычны сьцяг пасьля рэвалюцыі стае й Якуб Колас, дарэвалюцыйная паэзія якога прыкра ўражае сваёй поўнай блізу сьцюдзёнасьцяй да нацыянальных мамэнтаў. Даючы найбольш рэзкае выяўленьне свайму нацыяналізму ў ведамым вершы "Беларускаму люду", Колас таксама заяўляе:

... Годзе ўшчувалі нас паны-ляхі,
Ведаем ціск маскалёў...
... Будзем мы самі гаспадарамі,
Долі свае кавалі.
Досыць-жа, годзе панукацi намі,
Гнаць з нашай роднай зямлі!

Адняк, наступ і палон бальшавіцкіх узурпатараў на некаторы час прыпыняюць нацыяналістычную думку й паэзію, як праяву найбольш "контрэвалюцыйную", недапушчальную з гледзішча маскоўска-нацыяналістычнага "інтэрнацыяналізму". І толькі ў 1925 годзе волат маладшага пакаленьня Уладзімер Дубоўка зноў уздымае выбіты з рук у старэйшых сьцяг, адноўляючы купалаўска-адраджэнскае "Годзе!", "Даволі!":

Далёкае мы любім надта,
Чужынпчыне - паклоны ўдол.
А хто успомніць нашы хаты
Званізьзю ціхіх, кволых слоў?
Паэты гімны ўсім складаюць,
А беларусам - пушча, гай.
Мая краіна дарагая,
Ты прабачала - выбачай...
Такі ўжо лёс, такая доля,
Галовы хілім нізка... Ой!
Даволі рабства ўжо, даволі,
Таварыш любы, браце мой!
Хай будзе ў кажнага з нас сілы
Ісьці, змагацца - сьмерць адна:
Ці пад ярмом, як у магіле,
Ці у магіле безь ярма...

Каля Уладзімера Дубоўкі гуртуецца новае асяродзьдзе маладых паэтаў-нацыяналістых, якое ставіць сабе заданьне новага, у з в ы ш э н с к а г а н а ц ы я н а л і з м у, скіраванага да стварэньня зь Беларусі "узвышша, якое пабачаць вякі й народы" ("Тэзісы да ўтварэньня "Узвышша"), да "узвядзеньня Беларусі на ступень крыніцы новых ідэяў" (кіраўнічы ўзвышэнскі крытык Адам Бабарэка). Нядоўга, адняк, давялося разьвівацца гэтаму новаму нацыянальнаму сьцягу - бальшавікі справіліся зь ім яшчэ хутчэй, як із "галоўнай небясьпекай на дадзеным этапе".

І ўсё-ж узвышэнскі нацыянальны сьцяг уздымаецца зноў і зноў, як сымбаль таго

найвышэйшага этапу разьвіцьця, які дасягнула нашая нацыянальная ідэя, у цяжкія для народу часы нямецка-гітлераўскае акупацыі Натальля Арсеньнева мужна ўздымае стары баёвы кліч "Годзе!":

...Годзе! Годзе нарэшце, годзе,
Чарвякамі зьвівацца, поўзаць!
Хоць нас доля й дагэтуль зводзіць,
Хоць ісьці нам пароі і коўзка,-
Насьмяёмся яшчэ і з ліха!
Досыць падаць пад кажным ніцма!
Лепш на момант агнём успыхнуць,
Чымся літасьцяй век давіцца!
...Што далі нам калі чужыя?
Ці калі хто наш плеч усьцішаў!
Досьць! Напружым пастронкі жылаў,
Самі злыбяды нашы скрышым!

І калі навет зьвыклыя "чарвякамі зьвівацца,поўзаць" спрабуюць уклясьці ў вушы "чужым" скіраваны супраць іх зьмест гэтых радкоў,паэтка яшчэ мужней, чыста-ўзвышэнскім "моцным словам" дагаварвае ў паэзіі тое, да чаго ейныя папярэднікі даходзілі ў дэклярацыях:

...Ня той, хто трубіць аб пачуцьцях
Па цёмнакуцьцях - патрыёта,
Бяз чыну - словы не скалмуціць
Нат твані лужыны балотнай
...............................
Ня словаў трэба, а хаценьняў,
І сіл асілкавых, і згоды,
І гарту ўпартага, каб сьцені
На шлях ня палі перашкодай.
Нат больш... Каб справы не скалечыць,
Каб не праспаць ізноў сьвітаньня,
Высілкаў трэ нечалавечых
І процьмы цёплага каханьня.
Тады... тады мы зьвяз сталёвы
З блакітнай Бацькаўшчыны зьвяжам
І раз нарэшце моцным словам
Ня нам, а мы штось сьвету скажам!

І гэтая ідэялёгія чыну, гэтая сьведамасьць патрэбы "ня словаў, а хаценьняў,і сіл асілкавых, і згоды, і гарту ўпартага", "высілкаў нечалавечых і процьмы цёплага каханьня" дзеля вялікае мэты "раз нарэшце моцным словам... сьвету сказаць" - і ёсьць сяньняшняе паэтычнае выражэньне найвышэйшае ступені нашага нацыяналізму, нацыяналізму ўзвышэнскага, ці, падхапляючы нядаўна кінутае слоўца - с у п э р н а ц ы я н а л і з м у (разумеючы тут гэты тэрмін унутра,у дачыненьні да ўзвышэньня собскае нацыі, а не навонкі, у значэньні супрамацыі яе над іншымі).

Да гэтае сьведамасьці дайшла сяньня нашая паэзія, пад гэтым нацыянальным сьцягам гуртуюцца й будуць гуртавацца ўсе жывыя й творчыя сілы нацыі.

xxxxxxxxxxxx

К. Каліновец

# Ад Бацькаўшчыны... да Беларусі...

(Да праблемы "Бацькаўшчыны" ў нашай паэзіі й сучаснасьці)

Слова "Бацькаўшчына" прыйшло ў нашую літаратурную мову зь сялянскага ўжываньня народнае мовы. У гэтым ужываньні яно абазначала найперш тую собскасьць, галоўна, тую зямлю, што пераходзіла ў спадчыну ад бацькоў дзецям. Ня можна быць зусім пэўным у тым, ці мела гэтае слова ў народнай мове значэньне агульнанацыянальнае тэрыторыі. Бясьпярэчна за ўсё, гэтае другое, пашыранае значэньне стварылася ўжо ў літаратурнай мове, зрэшты, тым самым шляхам, як і ў шмат якіх іншых літаратурных мовах, як-бы тое ня было, і ў першым, вузейшым, і у другім, пашыраным своім значэньні слова "Бацькаўшчына" азначае сабою зямлю, тэрыторыю, як нешта зусім канкрэтнае, матэр'яльнае.

Такое, сказаўшы, матэрыялістычнае разуменьне Бацькаўшчыны зусім прыродна засвоіла сабе з народнае мовы й адраджэнцкая паэзія, увёўшы ідэю гэтае Бацькаўшчыны ў круг сваіх найдрыжонейшых ідэяў. Так разумее не бацька нацыянальнага руху Францішак Багушэвіч, у вершах сваіх сымбалізуючы Бацькаўшчыну ў чыста-матэр'яльным вобразе роднае хаты ("Мая хата"), а ў дэкляратыўнай публіцыстыцы стараючыся даць і больш-менш дакладнае геаграфічнае азначэньне яе ("Ад Вільні да Мазыра, ад Віцебска за малым не да Чарнігава, дзе Горадзен, Менск, Магілеў, Віцебск, Вільня й шмат мястэчкаў і вёсак"... – прадмова да "Дудкі Беларускае)". Апошняе спатыкаем і ў другога піянера нацыянальнага адраджэньня – Каруся Каганца, з характэрным хіба дадаткам "места Смаленска" ("Прамова").

Багушэвічаў наступнік у ролі духовага правадыра нацыянальнага руху – Янка Купала – пераняў ад яго й тое самае разуменьне Бацькаўшчыны, яшчэ больш падчыркнуўшы яго акцэнтацыяй непарыўнай, проста матэр'яльна-біялёгічнай сувязі свае з "роднай нівай":

Яшчэ ў калысцы я навучыўся зь песьняў сьніць
Аб гэтых блізкіх мне, а цесных так мясьцінах,
Што роднай нівы я мільлённая часьціна,
Што зоркі роднай ў сэрцы мне іскрынкай тліць.
Так Бацькаўшчыну я сабе здабыў бяз злосьці...
..............................................

І калі зьдзекваецца нада мною хтосьці –
Над Бацькаўшчынай зьдзекваецца ён майй,
Калі-ж над ёй – мяне тым крыўдзіць найцяжэй.

(санэт "Бацькаўшчына" у зборніку
"Спадчына")

Пры спатканьні нашага нацыянальнага руху з бальшавізмам сама ідэя Бацькаўшчыны, навет зразуметая матар'ялістычна, саткнулася з поўным адмаўленьнем яе ў марксызьме. Марксыстаўскае палажэньне аб тым, што "у пралетара няма Бацькаўшчыны, Бацькаўшчынай яму цэлы сьвет" адразу пачало ўбівацца ў галовы ў парадку"камуністычнага ўзгадаваньня" ці "пераўзгадаваньня". Аднак, рэакцыя нашае паэзіі на гэтае ўбіваньне сталася неспадзяванай для ўзгадавальнікаў рэакцыяй ад супрацiўнага. Таксама, як бальшавіцкая прапаганда толькі падвяла народ да глыбейшай і асэнсаванай рэлігійнасьці (што ў сваім часе вельмі тонка й глыбака прасачыў і адзначыў узвышэнскі крытык Адам Бабарэка), гэтак і змаганьне зь ідэяй Бацькаўшчыны выклікала паварот ад ранейшага матар'ялістычнага да паглыбленага ідэялістычнага разуменьня яе ў нашай паэзіі.

Гэты паварот пачаў першым той самы Янка Купала. Свой зборнік вершаў "Безназоўнае", які становіць сабою вынік першага спатканьня паэты з бальшавізмам, ён адчыніў характэрным, глыбока-іранічным вершам:

О, так, я пралетар!...
Яшчэ учорах раб пакутны,
Сягоньня я – зямлі ўладар
І над царамі цар магутны.
Мне бацькаўшчынай – цэлы сьвет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно -ня збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сьняцца сны аб Беларусі...

Гэтак, дэманструючы магчымасьць адмовіцца, "адвярнуцца" ад матар'ялістычнага разуменьня "Бацькаўшчыны", як "родных ніў", Купала зь іроніяй "падчырквае немагчымасьць для яго выкараніць у сабе самую ідэю-"сны"тае-ж Бацькаўшчыны – Беларусі , паказваючы тым самым кірунак да глыбейшага,ідэялістычнага разуменьня яе, як ідэі нацыянальнага.

Назначаны Купалам паварот да ідэялістычнага разуменьня Бацькаўшчыны адразу-ж падхапіў ягоны наступнік у ролі духоўнага праваднікa нацыянальнага адраджэньня Уладзімер Дубоўка. Сваю паэму "Там, дзе вазёры" (пазьней пераназваная ў "Браніславу") ён пачынае зусім у тон Купалу:

Я ведаю, што не ў краіне справа:
Бяз бацькаўшчыны пралетарыят,
Жыцьцё ад хаты адарвала
У "чужедальние края"...

Уздымаючы тут Купалаву іронію да ўлюбёнага ім сарказму гэтым перадрасаваньнем ідэі "міжнароднага пралетарыяту" на расейскі нацыянальны адрыс устаўленымі ў беларускі тэкст жыўцом аўтэнтычнымі расейскімі словамі, Дубоўка навет паварочвае як-бы зусім да ранейшага матар'ялістычнага разуменьня Бацькаўшчыны, кіруючы свой верш да таго,

Каб можа песьняй лебядзінай
Успомніць Віленшчыну, Нёман.

Але ўжо ў другой сваёй паэме "Надя", спецыяльна прысьвечанай гэтай праблеме Бацькаўшчыны, Дубоўка даво-

дзіць да канца пачатьі Купалам паварот ад матар'ялістычнага да ідэалістычнага разуменьня гэтае праблемы. Аналізуючы ў сваёй гарэзіі дзяўчыну, якая ахвярна ідзе узьняць нацыянальную працу сярод нашых калёністых у Сыбіру, паўная, што "і там кавалак Беларусі", паэта звярачаецца да яе:

Скажы ты, Цяля, беларусам там,
што я бяз Бацькаўшчыны й застануся.
Пакуль душу у песьнях не раздам –
Ня кіну толькі Беларусі...

У гэтых радкох Дубоўка ўжо заўважае пачатае Купалам, узводзячы ягоныя "сны аб Беларусі" на вышэйшую ступень непарыўнай вернасьці Беларусі, як нацыянальнай ідэі, абстрагаванай ад чыстаматэрыяльнага комплексу "Бацькаўшчыны".

Далейшы й апошні крок у кірунку пачатага Купалам развіцця разуменьня Бацькаўшчыны зрабіў Дубоўкаў сябра й паплечнік Уладзімер Жылка ў сваім перадсьмяротным "Тэстаманьце", створаным у цяжкіх абставінах бальшавіцкага выгнаньня – запраўды "бяз Бацькаўшчыны", толькі "зь Беларусяй". Узброены ня толькі ідэалістычным разуменьнем нацыянальнае ідэі, але й творчым падыходам актыўнага ідэалізму да запраўднасьці, найлепш выражаным вялікім жыхтэ ў ягоных ведамых словах, што "запраўднасьць ёсьць тое, што мы зь яе робім", Уладзімер Жылка даходзіць да ўсхваляванае візіі матар'ялізацыі, рэалізацыі нацыянальнае ідэі:

... І мне здалося неаднойчы,
што ў тайне радасных часін,
У момант паўніні спаноўчэй
У маім узлоньні быў зачын.
І зблытаў я, мой Краю-Войча,
хто бацька быў, а хто быў сын,
І поўны любасьці вялікай
ня ведаў, як яе мне клікаць.
І часта, бы ў дзівосным сьне,
Я пачуваў пад сэрцам ношу,
Чароўны голас да мяне,
Пачуцьцяў матчыных раскошу,
Трывогу ў сэрцы дзесь на дне,
І быў – пагодлівы, харошы! –
Мой Край мне лёсам і жыцьцём,
Маім расьпешчаным дзіцём.

Гэтак для Жылкі Бацькаўшчына сталася ўжо ня толькі тым, што нарадзіла яго, як сына, але й тым, што нараджаецца, творыцца ім самым зь ідэі "любасьці вялікай", матар'ялізуецца – рэалізуецца і бяз наяўнасьці матар'яльных абставінаў традыцыйнае "Бацькаўшчыны" – "Роднага Краю".

Гэтая адкрытая Уладзімерам Жылкам магчымасьць тварыць Бацькаўшчыну зь ідэі нацыянальнага, якая становіць сабой найвышэйшы пункт у развіцьці разуменьня Бацькаўшчыны нашай паэзіяй, разам із тым зьяўляецца мажа найвартасьнейшым дазнаньнем, із гэных, што дало нябожчыку паэту, а зь ім і ўсім нам,

вялікае выгнаньне на Ўсход, дый уся "савецкая школа" наагул. І цяпер, у вабставінах другога вялікага выгнаньня, ужо на Захад, гэтае дазнаньне стаецца зноў актуальным. Яно заклікае й нашую сяньняшнюю паэзію адыйсьці ад бязупыннага плачу па страчанай Бацькаўшчыне й бясконцага ўздыханьня ды самаашукваньня сябе візіямі"шчасьлівага звароту некалі",што толькі размагнічваюць духова, і заняць ізноў тыя ідэйныя ўзвышшы тварэньня нацыянальнага зь сябе й вакол сябе. Некаторыя апошнія творы нашых паэтаў (як прыкладам, ніжэйпрыводжаныя радкі Натальлі Арсеньневае) паказваюць, што хоць памалу й не бяз хістаньняў, але яны пачынаюць узыходзіць на гэты, адзіна пазытыўны шлях:

Ня удасца, праўда, забыцца
Нам тут нашых сівых бяроз,
Васільковых усьмешкаў, ніцай
Хаты, дзе ад дзяцяці рос.
Але жаль па іх нас ня косіць,
Ня выкручвае сілы з рук,
Хай навокал і золь і восень,-
Верым мы у сваю Беларусь!
Маці любая, пэўна сяньня
Уздыхаеш па нас і Ты.
Ня сумуй, навет на выгнаньні
Не дамо мы душы астыць.
З гэраічнай ня выйдзем ролі,
У балота ня схілім сьцяг
І ня здрадзім нідзе і ніколі
Ні сябе, ні Цябе, ні жыцьця!

---о-о-о-о-о---

Н. Віж

# Ізноў "Ідэялёгічнае наступленьне"

(Весткі з БССР).

Хвалі рэпатрыяцыйнае прапаганды зрэдку прыносяць нам паасобныя нумары савецкіх газэтаў, зь якіх можна часам, хоць і вельмі скупа, даведацца аб тым,што робіцца на нашай Бацькаўшчыне - цяпер БССР - "на ідэялёгічным фроньце", як кажуць звычайна там.

Перад намі- ведамая "Зьвязда","орган ЦК КП(б) Беларусі, Совета Міністраў і Прэзыдыума Вярхоўнага Совета БССР". Із таго ейнага нумару 27(7862) ад пятніцы 7 лютага 1947 г., ізь зьмешчанага там на 3-й бэлоне вялікага рэпартажу з "рэспубліканскае нарады кіраўнікоў кафедраў і выкладчыкаў грамадзкіх навук", што апынуўся выпадкова ў нас пад рукамі, можна вычытаць сёе-тое пра апошнія падзеі й

абставіны духовага жыцьця (калі можна назваць яго так) на нашай Бацькаўшчыне. Каб быць як найбольш аб'ектыўным у інфармацыі, аб гэтым цэлага пытаньня, найлепш будзе падаць проста адпаведныя мясьціны адтуль, якія й без асаблівых камэнтараў самі дадуць кожнаму, хто хоць крыху пажыў пад бальшавікамі, даволі яскравы малюнак гэных падзеяў і абставінаў.

Гэтак мы й зробім, захоўваючы навет спэцыфічную савецкую мову арыгіналу (толькі правапіс, з тэхнічных меркаваньняў, будзем трымацца прынятага намі).

"Супроць варожай нам буржуазнай ідэалёгіі".

Першым на нарадзе, рэпартаж зь якое мы выкарыстоўваем тут, выступіў прадстаўнік "Упраўленьня прапаганды й агітацыі ЦК ВКП(б) тав. Якаўлеў":

"- За апошні час Цэнтральны Камітэт нашае партыі, - гаворыць дакладчык, - прыняў рад важнейшых рашэньняў па ідэалёгічных пытаньнях. Гэтыя рашэньні азначаюць, што партыя праводзіць і д э а л ё г і ч н а е  н а с т у п л е н ь н е  с у п р о ц ь  в а р о ж а й  н а м  б у р ж у а з н а й  і д э а л ё г і і ...

...Наша прасоўваньне наперад па шляху да камунізму праходзіць і будзе праходзіць у вабстаноўцы жорсткай ідэалёгічнай барацьбы супроць чуждых нам уплываў з боку агентаў буржуазнага сьвету.

- Сьмешна думаць, - гаворыць тав. Якаўлеў - што пасьля вязьнага разгрому фашызму ворагі Савецкага Саюзу супакояцца, што рэакцыйныя сілы капіталістычнага сьвету пакінуць свае спробы ўсякімі спосабамі падрываць магутнасьць нашай дзяржавы.

У бальшавіцкай партыі, у савецкай дзяржавы дастаткова сродкаў, каб пераадолець усякія ўплывы буржуазнай ідэалёгіі.

-ЦК ВКП(б) ускрыў сур'ёзныя недахопы й памылкі ў некаторых творах літаратуры, мастацтва й грамадзкіх навук - гаворыць дакладчык. - Гэтыя недахопы заключаюцца ў своеасаблівым адыходзе літаратараў ад палітыкі й барацьбы партыі ў бок апалітычнасьці й бяздзейнасьці. Асобныя літаратары, дзеячы мастацтваў і вучоныя забыліся на тое, што жыцьцёвай асновай савецкага ладу і ўсёй нашай культуры й навукі, - літаратуры й мастацтва зьяўляецца палітыка й ідэалёгія бальшавіцкае партыі.

Вельмі буйным недахопам некаторых твораў літаратуры й мастацтва зьяўляецца нізкапаклонства і ўгодніцтва перад буржуазнай культурай, адсутнасьць сур'ёзнай крытыкі буржуазнай ідэалёгіі й маралі. Партыя сваймі рашэньнямі па ідэалёгічных пытаньнях ад імя народу гаворыць дзеячам савецкай літаратуры, мастацтваў і навукі, што ў цяперашніх умовах час ня можа задаволіць няўны ўзровень ідэалёгічнае работы, што ў перыяд пабудовы камунізму павінны быць створаны такія творы, якія былі-б вартыя нашага народу-пераможцы і ўзброілі-б яго на новыя подзьвігі...

...Нацыяналісты, зьвяртаючыся да мінулага, - гаворыць дакладчык, - спрабуюць знайсьці такія элементы, факты, якія сьведчылі-б аб барацьбе народаў адзін супроць другога, а не аб дружбе народаў нашай краіны, якія нараз

змагаліся разам супроць розных захопнікаў. Неабходна своечасова, выкрываць усякія нацыяналістычныя канцэпцыі "...

## Але гэта – не нацыяналізм.

Наступным выступаў на нарадзе другі прадстаўнік таго самага "Упраўленьня прапаганды й агітацыі ЦК ВКП(б) тав. Ануфрыеў".

"Тав. Ануфрыеў гаворыць пра дасягненьні савецкай літаратурнай навукі, у аснове якой ляжыць вучэньне Маркса, Энгельса, Леніна й Сталіна. Падрабязна гаворыць дакладчык аб шляхох разьвіцьця р у с к а й  л і т а р а т у р ы, аб яе с у с ь в е т н ы м  з н а ч э н ь н і, аб вялікай ролі Леніна й Сталіна ў выхаваньні літаратурных кадрах, у разгроме варожых уплываў у літаратуры"...

## Выбіць "кулацтва" і ўбіць марксызм.

Першым із несталічных, а ўжо мясцовых "нацыянальных" "праваднікоў" выступіў на нарадзе"сакратар ЦК КП(б)Б па прапагандзе тав. Бугаёў.

"– У нас, у рэспубліцы, – гаворыць дакладчык, – у сувязі з наяўнасьцю яшчэ кулацкіх гаспадарак індывідуальнай сялянскай гаспадаркі (дзяржыся, Заходняя Беларусь! Л.В.) пытаньне аб ліквідацыі перажыткаў капіталізму ў сьвядомасьці працоўных і выхаваньні моладзі стаіць асабліва востра...

... Да вялікай айчыннай вайны ( =2-я сусьветная вайна. Л.В.) у Беларусі было 26 ВНУ ("Вышэйшыя навучальныя Установы" – унівэрсытэты, інстытуты й пад. Л.В.), у якіх вучылася 16287 чалавек. Ужо адноўлены ўсе ВНУ, увоў створан Менскі тэатральны інстытут... У 1946 годзе 17 ВНУ рэспублікі выпусьцілі 1714 розных спэцыялістых. Аднак,у рабоце ВНУ яшчэ ёсьць істотныя недахопы. ВНУ рэспублік маглі-б палепшыць выкладаньне грамадзкіх навук, калі-б кіраўнікі інстытутаў і катэдраў прынялі дзейсныя меры да выкананьня пастаноў ЦК ВКП(б) па пытаньнях ідэялёгічнай работы. Аднак, многія лекцыі й сэмінарскія заняткі па грамадзкіх навуках усё яшчэ вядуцца на нізкім тэарэтычным узроўні. Дапускаецца спрошчаны падыход да трактоўкі важнейшых тэарэтычных палажэньняў марксызму-ленінізму. Усё яшчэ не ліквідавана буквaедзтва й начэтніцтва. Пад выглядам адсутнасьці вучэбнай літарату-ры лекцыі праводзяцца ў форме дыктантаў і часта складаюцца з адных цытатаў..."

## Гісторыя зь гісторыяй.

"У сваім дакладзе тав.Бугаёў падрабязна спыніўся на памылках, якія былі допушчаны ў першым выпуску гісторыі БССР.

– Усе гэтыя памылкі й метадалёгічныя пагрэшнасьці, ускрытыя ЦК КП(б) Беларусі, – гаворыць дакладчык, – маюць адзін агульны корань –

гэта адсутнасьць удумлівай і глыбокай работы над маркс-сыцка-ленінскай тэорыяй....

– У першым выпуску гісторыі БССР, – гаворыць тав. Дудкоў (Акадэмія Навук БССР), – ёсьць сур'ёзныя памылкі. Я лічу сур'ёзнейшай памылкай запрашэньне для складаньня падручніка гісторыі БССР прафэсара Савіча. Выпуск другі й трэйці, напісаныя ім і падрыхтаваныя да друку, былі забракаваны. У часе абмеркаваньня выступаўшыя ўскрылі, што ў гэтых кнігах праводзяцца к л е р ы к а л ь н ы я й н а в е т м а н а р х і ч н ы я п о г л я д ы.

У кнізе тав. Каменскай няправільна асьветлена пытаньне аб рухаючых сілах рэвалюцыі, няма клясавага аналізу, няправільна трактуецца лёзунг права нацый на самавызначэньне. Скажаны факты. Так, яна сьцьвярджае, што ў 1905 – 1906 гг. у Беларусі ў рэвалюцыйных падзеях удзельнічалі 4 – 4,5 мілёнаў рамесьнікаў, рамятужнікаў і інтэлігенцыі. Сяляне чамусьці абыйдзены. А калі дадаць сюды сялянства, то атрымліваецца лічба, куды большая, чым усё насельніцтва Беларусі (хіба – БССР, а не запраўднае этнографічнае Беларусі, каля 1/3 якой і дагэтуль у складзе РСФСР – афіцыйнае Расеі. Я.В.). Выхад у сьвет работы з такімі сур'ёзнымі памылкамі тлумачыцца самой сыстэмай работы Інстытуту гісторыі Акадэміі Навук БССР".....

Чаму ня толькі мы ня ведаем.
============================

..."Тав. Ржэўскі робіць практычную заўвагу па адрасу рэспубліканскага друку.

– Аб падзеях на літаратурным фроньце,– гаворыць ён,– можна даведацца толькі з газэты "Культура и жизнь", але не з рэспубліканскіх газэт.."

І вось, нарэшце, даведваемся хоць крышку аб гэтых "падзеях на літаратурным фроньце" з таго-ж рэпартажу нарады.

"Заслужаная" і – незаслужаная? – крытыка.
=========================================

" – У суровыя гады вялікай айчыннай вайны, – гаворыць тав. Ільюшын (намесьнік старшыні савету міністраў БССР),– беларуская літаратура па праву называлася літаратурай барацьбы й перамогі...

Але зь пераходам на мірнае будаўніцтва некаторыя пісьменьнікі не зразумелі сваю ролю ў выращэньні новых задач. За апошні час паявілася нямала безыдэйных твораў. З боку асобных пісьменьнікаў дапускаюцца прамыя ідэалёгічныя зрывы, здольныя ажывіць чуждыя савецкай грамадзкасьці настроі. Рад пісьменьнікаў падвергся заслужанай крытыцы (Гурскі, Агняцьвет, Клімковіч і другія).

Падвергліся таксама крытыцы беларускія пісьменьнікі К. Крапіва, М. Танк, П.Панчанка..

Буйныя скажэньні марксыцка-ленінскага разуменьня гісторыі беларускай літаратуры ёсьць у работах тав. Ларчанкі – у напісаных ім падручніку й праграме па гісторыі беларускай літаратуры. Аўтар у радзе выпадкаў па сутнасьці падмяняе марксыцкі мэтад вывучэньня грамадзкіх зьяў нацыяналістычнай трактоўкай творчасьці асобных беларускіх пісьменьнікаў і гісторыка-літаратурнага працэсу ў цэлым. Гэта зьявілася вынікам недастатковай мэтада –

лёгкая" тэарэтычнай узброенасьці самога тав. Жданкі, які ня змог самастойна разабрацца ў матар'яле й сьлепа ўспрыняў некаторыя чужыя канцэпцыі..."...

## Дык як?

Знаёмыя ўсе песьні, праўда ?

І ўсюды паводле аднае й тае-ж схемы: нацыяналізм і гісторыя (тое-ж і на Украіне), літаратура (галоўна, сатыра? [illegible] у Ленінградзе, Астап Вышня на Украіне, Крапіва ў БССР)- тое-ж "ідэалёгічнае наступленьне"...

... Дык як, дарагі чытачу, можа... "на родину"?

жжжжжжжжжжжжж

# КНІГАПІС

НОВЫ ПЕСЕНЬНІК КРЫВІЦКІ (БЕЛАРУСКІ) ДЛЯ ШКОЛАЎ/ЗЛАЖЫЎ БРАЧЫСЛАЎ СКАРЫНІЧ. 1 9 4 6. БАЛ. 73. ДРУК Д.САЖНІНА, АЎГСБУРГ.

Перад намі - першая й тымчасам адзіная "запраўдная"г.зн. выдадзеная друкарскім спосабам у паваенных часох на эміграцыі кніжка ў нашай мове - першая ластаўка больш-менш тэхнічна нармальнага друкаванага слова ў сучасных абставінах, казаў той, "рататорнага перыяду" нашага эміграцкага выдавецтва. Як і заўсёды "першая ластаўка",яна не зрабіла тут вясны, але за тое нарабіла ўжо каля сябе ці мала шуму- выклікала цэлую й даволі бурную палеміку (рэцэнзія С.Залужнага ў ватэнштэцкім часапісе "Шляхам жыцьця", анатацыя ў парыскіх "Беларускіх Навінах" выпушчаная асобнай лістоўкай - ужо на ратататары - "Выясьненьне" самога аўтара Б. Скарыніча). Усё гэта змушае нас спыніцца ля гэтае кніжыцы можа крыху й больш, як яна заслугоўвала-б на тое ў варунках нармальнага функцыянаваньня выдавецкае справы й грамадзкага жыцьця наогул.

Першае пытаньне, якое насоўваецца адразу пры разглядзе "Новага песеньніка", гэта пытаньне мэтазгоднасьці, апраўданасьці самога ягонага выхаду ў сьвет у такім выглядзе, як ён ёсьць - у выглядзе зборніка слоўных тэкстаў песьняў бяз нотаў да іх, якія аўтар у "Перадмове" дэклярue выдаць асобна, але тымчасам яшчэ ня выдаў. Што праўда, такія "песеньнікі" з адных слоўных тэкстаў часам выдаюцца, а ў расейцаў, скажам, былі навет вельмі пашыраныя сярод масавых,тандэтных, як у іх завуць " лубочных" выданьняў. Але падбор песьняў у іх заўсёды бывае такі, што даюцца словы да мэлёдыяў папулярных, масава пашыраных, усім бадай знаных і ведамых, бо толькі ў гэтым выпадку гэныя словы могуць знайсьці сабе ўжытак у пяяньні, а не застацца проста вершамі, паколькі застаюцца шырэй і бліжэй нязнанымі тыя ноты, паводле якіх яны мусілі-б пяяцца. Калі з гэтага боку глянуць на наш "Новы песеньнік", дык у ім так і выходзіць, што мэлёдыі большыні бадай зьмешчаных песьняў яшчэ не распаўсюджаныя ў шырэйшым грамадзян-

сьцьве, а часам і зусім няз-ненья (як, скажам, мелёдыя да тэксту "Крывічы", ведамая хіба толькі ейнаму кампазы-тару, імя якога навет астаец-ца поўнай таямніцаю для ўсіх, апрача хіба, зноў-жа, яго са-мога ды можа яшчэ аўтара "Пе-сеньніка"...). Пры гэткім палажэньні, аж пакуль ня бу-дуць выдадзеныя дакляравa-ныя ноты, "Песеньнік" і бу-дзе заставацца больш мёртвым капіталам, як песеньнік, а мо-жа выкарыстоўвацца бадзьдзей як зборнік вершаў для дэклямa-цыі, ато й проста для чыта-ньня. Ну, але ў нашых абста-вінах вялікага кніжнага голя-ду і гэта было-б балазе, да-ючы хоць і няпоўнае, а ўсё-ж хоць нейкае апраўданьне ра-цыі выданьня.

Калі глянуць на падбор ма-тар'ялу ў "Песеньніку" ужо з боку ягонага зьместу, што мо-жа далей пашырыць (ці зву-зіць) гэную ягоную рацыю бы-ту, дык найперш, за аўтара-вай "Перадмовай", трэба адз-начыць, як галоўны бадай плюс "Песеньніка" даволі вя-лікі падбор нацыянальна-пат-рыятычных песьняў у ім. Ужо гэта адно магло-б забясьпе-чыць кніжцы тую ейную ра-цыю быту. Аднак нельга не зацеміць, што ў гэтым дачы-неньні можна дый трэба бы-ло-б аўтару пайсьці і яшчэ крыху далей дый ўлучыць у "Песеньнік" яшчэ некаторыя нашыя нацыянальна-патрыя-тычныя песьні, тым больш, што мелёдыі да шмат якіх зь іх якраз вельмі папулярныя й можа навет найбольш пашыра-ныя, так што й з нотамі спра-ва стаяла-б ня гэтак крыты-чна. Мы маем наўвеце такія песьні, як тыя, што ў роз-ных абставінах выконвалі ролю нашых нацыянальных гімнаў - іх, нажаль, чамусьці абмінуў аўтар ("Мы выйдзем шчыльнымі радамі", "А хто там ідзе", "Марсэльеза" -сло-вы ~~А. Сяргеевіча~~, а ~~можа й~~ "~~Мы~~ бойкая моладзь"), а так-сама й некаторыя іншыя ("Пад гоман вясёлы", "Гімн выгна-нцаў", "Гэй сябры удалыя", "У гушчарах, затканых імглою" й пад.)

Аўтар уважае, што "некато-рай навінаю ў песеньніку ёсьць асобны аддзел песьняў гіста-рычных". Аднак, пры бліжэ-йшым разглядзе "некаторай навіною" выходзіць хіба такое расьцягненае разуменьне тэр-міну "гістарычная песьня", якое падводзіць пад гэтую ру-брыку ўсякія вершы, абы то-лькі ў іх так ці іначай зача-плялася мінуўшчына, тымчасам як у навуцы фальклёрыстыі-цы прынята пад гэтым тэр-мінам разумець толькі народ-ныя песьні, эпічныя ці пры-намся ліраэпічныя сваім ха-рактарам і больш-менш сынхро-нныя, сучасныя ў сваіх паў-станьні з тымі гістарычны-мі фактамі, якія ў іх апявя-даюцца. Такіх запраўдных гі-старычных песьняў (якіх наагул, дзеля пэўных пры-чынаў, вельмі мала ў нашым фальклёры, проста адзінкі, як "Абарона Крычава", "Бітва пад Воршай") у "Песеньніку" зусім няма, ягоныя "гіста-рычныя песьні" або проста нацыянальна-патрыятычныя творы сучасных паэтаў на гістарычныя тэмы (як "Пе-сьня каліноўцаў" Н. Арсеньне-вай), або народныя ваяцкія й проста навет лірычныя песь-ні зь некаторымі гістарыч-нымі рэмінісцэнцыямі (як усе іншыя песьні гэтага аддзелу)

Дарэчы, і ўвесь гэты „асо-бны аддзел песьняў гістары-чных" можна знайсьці асобна толькі ў выдрукаваным на канцы "Песеньніка" сьпісе "Зьместу", самыя-ж песьні гэтага й далейшых аддзелаў ("Любоўныя", "Жартлівыя", "Ро-зныя") без усякага разьмежа-ваньня перамяшаныя ў тэксьце кніжкі, парадак разьмяшчэньня

матэр'ялу, у якой нейкім арыгінальным і дзіўным чынам разыходзіцца з парадкам, паказаным у гэтым "Зьмесьце", ня зважаючы пры гэтым ні якага відавочнага прынцыпу ці сыстэмы. Гэта – адна зь нязграбнасьцяў праз нядадуманьне, недагляд ці пасьпех, якая, побач зь іншымі некаторымі (як залічэньне да народных песьняў Купалавага "Ой вяду бяду", паколькі пад ім няма подпісу пры запемцы ў "Перадмове", што "песьні, для каторых не пададзены аўтары – народныя", таямнічае зашыфраваньне ініцыяламі аўтара верша "Крывічы" – " сакрэт Палішынэля" пры неаднаразовым друкаваньні й перадрукоўваньні гэтага тэксту раней пад поўным подпісам, а найбольш – немалы лік друкарскіх памылак, толькі невялічкая жменька зь якіх заўважаная й папраўленая на ўкладцы) – крыху абніжае вартасьць вонкавага боку кніжкі.

Што да падбору чыста народных песьняў у "Песеньніку", дык праўда, можна згадзіцца, што з увагі на загаловак – "песеньнік для школаў", зьмяшчэньне некаторых "опусаў" у ім (хоць-бы й таго злашчаснага пра цападзьдзю) – вельмі праблематычнае з узгадавальнага гледзішча (як у вагульна-пэдагагічным, так і ў звычайным мастацка-эстэтычным сэньсе), хай сабе і з боку таксама некаторым "крымінелу" ці "крамолы", або й навет проста маралі – ніякіх паважных закідаў супраць іх запраўды паставіць нельга. Затое, зноў-жа, няма ў "Песеньніку" некаторых народных песьняў, якія можна ўважаць проста за клясычныя як у паэтычным, так і ў музычным дачыненьні і бальшыня мэлёдыяў якіх таксама стала ўжо вельмі папулярнай у грамадзтве (як, прыкладам, "Ой, у полі вярба", "Зялёны дубочак, шырокі лісточак", " Ой, рана на Івана", "Ты, каліна, чырвоная", "Каліна-маліна, над яром стаяла", " Ігруша", "Хмель лугамі", "Салавейка лугавы", "Я табун сьцерагу", "Ох-ці мне ох", "Баба Еўка, дзед Тамаш", "Дзе радзілася – ня была" і пад.)

Аднак, ніводнае з закранутых вышэй пытаньняў не зьвярнула на сябе такое (а то й зусім ня выклікала ніякае) увагі ў дасюлешняй крытыцы "Песеньніка", як справа аўтарскае рэдакцыі, якой паддадзеныя тэксты некаторых песьняў у ім. Дзеля таго, што тут запраўды "зашумела хвоя баравая" і зусім ясная кожнаму, больш-менш абазнанаму зь літаратурна-выдавецкімі й гістарычна-літаратурнымі традыцыямі справа ўканец заблыталася – трэба на яе спыніцца падрабязьней.

Дагэтуль права на рэдакцыю (г.зн. скарачэньні, зьмены, папраўкі) чужых мастацкіх твораў пры іхным перадруку (калі толькі на іх наагул не засьцярожанае само гэтае права перадруку) і ў тэорыі і ў практыцы выдавецтва было ўсюды зусім бесьспрэчным. Праўда, калі аўтары твору (ці іхныя агульнапрызнаныя й аўтарытэтныя спадкаемцы) пры жыцьці й ёсьць на гэта магчымасьць, дык звычайна ў грамадзтве нормы ветласьці змушаюць рэдактара ў тэй ці іншай форме згадзіць зь імі маманты як рэдакцыі тэксту, так і навет самога выкарыстаньня твору (із "крыміналістычнага" гледзішча некаторых рэцэнзэнтаў і тут справа выглядае наадварот: рэдагаваць творы жывых аўтараў, аказваецца, можна, бо гэтыя аўтары ў стане асабіста рэагаваць у выпадку свайго нездавальненьня ці абурэньня ў сэньсе, як ка-

жуць, рэдактаравае "моды", тымчасам як нябожчыкі пазбаўленыя гэтай панаднай магчымасьці...)

І запраўды, у некаторых выпадках бяз пэўнага рэдакцыйнага апрацаваньня твораў проста нельга абыйсьціся, як асабліва ў літаратуры школьнай, масава-папулярнай, а таксама і ў слоўных тэкстах да музычных твораў (г.зн. якраз у тых галінах, што й перасякаюцца міжсобку ў разгляданым намі "Песеньніку" для школаў"). Аўтары школьных падручнікаў, чытанак і падобнага заўсёды рэдагавалі й рэдагуюць зьмяшчаныя імі творы, скарачаючы й навет зьмяняючы ў гэтых творах мамэнты, неадпаведныя з пэдагагічнага гледзішча ці з гледзішча спэцыфікі дадзенага заданьня. Тое самае робяць і рэдактары — выдаўцы масавае літаратуры "для народу". Кампазытары й іхныя лібрэтыстыя таксама — і часам вельмі далёкасяжна — зьмяняюць слоўныя тэксты паэтычных твораў адпаведна з вымогамі свайго музычнага тэксту.

Але навет і там, дзе рэдакцыя не вымагаецца беспасярэдня гэтымі практычнымі, пэдагагічнымі ці музычнымі мамэнтамі, яна становіць сабою зусім ня рэдкую й ані не забароненую зьяву, шырака ведамаю зь гісторыі літаратуры ўсіх народаў, прычым рэдагуюцца навет акадэмічныя выданьні. Каб не хадзіць далёка па суседзях (дзе, скажам, у расейцаў можна было-б паказаць на ведамыя факты Тургенеўскае рэдакцыі вершаў Тютчэва, або выданьне Валерам Брусавым "свайго" Пушкіна), даволі будзе ўспомніць адно з найлепшых пад усімі поглядамі (навет адзінае ў сваім родзе) а к а д э м і ч н а е выданьне твораў Максіма Багдановіча, зробленае Беларускай Акадэміяй Навукаў, дзе рэдакцыйная камісія ўнесла шмат паправак на аснове ня толькі пісьменьнікавых варыянтаў, але й сваіх собскіх меркаваньняў (усе гэтыя папраўкі зафіксаваныя й вытлумачаныя ў падрабязных увагах да тэксту, дадзеных у канцы кажнага тому). Дык узьдымаць тут лямант натэму"хто даў права" запраўды можа толькі чалавек, або зусім цёмны ў дадзенай галіне, або сьведамы фальсыфікатар у разьліку на нясьведамасьць масаў (цікавая рэч із гэтым "правам" наагул — гармідар аб ім заўсёды ўздымаецца там, дзе нехта нешта робіць, а некаму іншаму карціць запыніць, "тащить и не пущать"). І агульнае становішча, занятае аўтарам "Песеньнік" у ягоным "Вытлумачэньні", і ягоныя аргумэнты ў падмацаваньне гэтага становішча (канечнасьць рэдакцыі палітычнае, як у гімнах і лёзунгавых творах, і рэдакцыі чыста моўнае ў вабставінах станаўленьня й канчальнае неафармаванасьці літаратурнае мовы) могуць быць толькі цалком прынятыя й падзеленыя (мімабегам толькі можна выправіць адну драбнейшую фактычную памылку, за якую, аднак, могуць хапіцца й разьдзьмухаць: "славянамі" на "народамі" ў Купалавым вершы "Маладая Беларусь" зьмянілі не "Беларускія Навіны", а сам паэта пры другім выданьні "Шляхам жыцьця").

Дык, выходзячы з усяго гэтага, крытыка ў падобных да нашага выпадках можа ставіць пытаньне не аб тым, ці магчымая наагул рэдакцыя таго ці іншага чужога твору, але толькі аб тым, як зробленая гэтая рэдакцыя — удалая ці няўдалая. Зразумела, што рэдакцыя мастацкага твору можа быць прызнаная за ўда-

лую адно тады, калі яна не паслабляе ягонай ідэйнай і мастацкай якасьці, не абніжае яе. І вось калі з гэтага боку ўжо падыйсьці да разгляда- н... намі "Песеньніка", дык запраўды ўдаласьць праведзенай у ім рэдакцыі тэкстаў некаторых твораў давядзецца прызнаць за даволі праблематычную... Аднак, падрабязна разгледзець канкрэтныя выпадкі гэтае рэдакцыі, якія даюць аснову для такога меркаваньня, няма магчымасьці ў межах і так разрослае рэцэнзіі, і гэткаму разгляду мы мянімося прысьвяціць адмысловы артыкул, тымбольш,што пры гэтым трэба будзе закрануць і некаторыя больш агульныя й прынцыповыя пытаньні, як пытаньне аб разуменьні ўсяе справы чысьціні мовы, аб агульных лініях рэдакцыі нашых нацыянальных гімнаў і некаторыя іншыя.

Які-ж агульны высноў можна зрабіць аб рэцэнзаваным намі"Песеньніку"? "Кажны будзе мець радасьць, яго пачытаўшы" - гавораць аб ім адна крышку ня зусім сьціплая анатацыя - рэкляма ў вядным із часопісаў... Зрэшты, можна было-б да яе далучыцца, каб толькі радасьць ад перажываньня запраўды мастацкіх твораў-песьняў нашых паэтаў і самога народу, якіх у "Песеньніку" даволі,не замарочвалася то там, то сям пачуцьцём часам прыкрае дакукі ад тых нязграбнасьцяў, якіх дапусьціўся аўтар і ў самым выданьні, і ў укладаньні, і можа найбольш - у рэдагаваньні, аб чым вышэй адзначана даволі. Кроплі гэтае дакукі тым прыказачным дзёгцем затручваюць напэру мёд тае радасьці, хоць можа на лыжку іх і не набярэцца... Але калі ўжо стаць на грунт прыказак, дык можна было-б успомніць(зусім у парялель да згаданай ужо напачатку "першай ластаўкі") і пра "першы блін", які часта бывае комам, дык і тут не без камяковатасьці выйшаў. А найлепш можа было-б спыніцца на супаставе нашага "Песень - ніка" за пэўным паўзучым і таксама нязграбным) рэчным стварэньнем, што, як ведама, на бязрыб'і паклікаецца да заступніцтва самой плывучай серабрыстай жыхаркі водаў...

Але-ж, на "бяскніжжы" - і "Песеньнік" - кніжка.

М. Грыбель.

АЛЕСЬ САЛАВЕЙ. ЗЬВІНЯЦЬ ЗВАНЫ СЬВЯТОЙ САФІІ. ЗАЛЬЦ - БУРГ. 1946. ВЫДАНЬНЕ АУТАРА. ТЫРАЖ.1000. БАЛ.7. З ДРУКАРНІ В-ВА "НОВІ ДНІ"-ЗАЛЬЦБУРГ.

І гэтая лістоўка, выйшаўшы з друкарні, на тым-жа "бяскніжжы" і рататашчыне прэтэндуе на тое, каб сыйсьці на запраўдную кніжку. Зьмяшчае яна невялічкую, на 11 актаваў (адна няпоўная, зь інтрыгуючымі шматкроп'ямі) паэмку ("паэміцу", як казалі калісь "маладняковскім жаргонам). Ізноў-жа, удзяліць ёй увагі ў васобнай рэцэнзіі даводзіцца ня так дзеля яе самое (з гэтага боку даволі было-б хіба невялікага ўспамінаньня й зацемкі ў нейкім агульным аглядзе аўтаравае творчасьці), як дзеля некаторае шумы, што ўжо пачынае набірацца каля яе ў вабставінах таго-ж неўнармаванага эміграцкага жыцьця зь ягоным гудам розных званоў з розных бакоў...

Паэмка Алеся Салаўя можа выдацца, як ужо адзначыў рэцэнзэнт ватэнштэцкага "Шляхам Жыцьця", "як-бы гістарыяграфічным водгаласам часапісу "Зьвіняць званы Сьвятой Сафіі". Аднак, рэцэнзэнт чамусьці не паважыўся раскрыць больш канкрэтна зьмест і характар гэта-

га "вонгадасу" ў [illegible]. Тым часам, навет абегл[illegible] [illegible] тавьня [illegible] волі, каб пераканацца, што й самы [illegible] назоў, і прысьвячэньне "[illegible]рку Віцьбічу" не ст[illegible] сабой нічога іншага, як выра[illegible]ную дэманстрацыю аўтара су[illegible]аць тае, з дазволу сказаць, гістарыязафічнае канцэпцыі славутага часапісу "Зьвіняць Званы Сьвятой Сафіі" якая ў сваёй нэгатыўнай частцы зводзіцца да апаганьваньня ўсімі спосабамі, аплёўваньня й дыскрэдытацыі нашага найстарэйшага нацыянальнага назову, а ў частцы пазытыўнай — да "канцэпцыі"... "Русской Зарубежной Церкви" (што, між іншага, зусім правільна, хоць можа й задалікатненька, выкрывае рэцэнзія таго-ж нумару ватэнштэцкага "Шляхам Жыцьця" на [illegible] 6 і 7 часапісу "Зьвіняць Званы..."). Аб гэтым сьветчыць дэманстрацыйнае ўжываньне А. Салеўём і ў гэтай паэмцы толькі ўспомненага назову, насупераж таму "табу", якое пнецца накласьці на гэты назоў часапіс "Зьвіняць Званы"...

Сваё паўторнае сьвітаньне
Спаткаць выходзьце, крывічане!

і далей:

Званы зьвіняць, шумяць ва ўтор
Лясы Крывіччаны блакітнай...

Гэтымі радкамі А. Салавей яшчэ лішні раз падчырквае, што як і ўва ўсёй сваёй ранейшай творчасьці, ён цьвёрда застаецца на пазыцыях гістарычнае канцэпцыі В. Ластоўскага, на пазыцыях тае самае, найперш і найбольш распрацоўванае гэтым векапомным сьвятаром нашага адраджэньня і ўзвышэньня, так званае "Крывіцкае тэорыі", ад якое гэтак лезуць на сьцяну розныя "зарубежные" званы й падзвонь...

І ў чыста паэтычнай роўніцы А Салавей паранейшаму [illegible] пасьлядоў — [illegible] нікам таго-ж В. Ластоўс[illegible] як паэты, зь ягонай на[illegible] насьцяй думкі, завойстранасьцяй пачуцьця трагічнага суцеражываньня, ваяўнічасьцяй [illegible] паставы "званара" (што, між іншага, першы адзначыў у В. Ластоўскага Я. Купала, прысьвяціўшы яму ў "Шляхам Жыцьця" верш "Званар") і, нарэшце, сьведамай і актыўнай творчасьцяй наватарскага характару ў кірунку вэрсыфікацыі й асабліва лексыкі. У працы над апошняю, між іншага, Салавей пераймае ад такога пасьлядоўніка В. Ластоўскага ў гэтым дачыненьні, як У. Дубоўка, традыцыю далучэньня да твору невялічкага слоўніка новатвораў і, галоўна, новаўжытых словаў. Праўда, у такім сваім слоўнічку, далучным упяршыню да разгляданае паэмкі, паэта ня ўсюды вычарпальны й слушны (горад стольны — сталіца наагул, а ня толькі Полацак; капец — шырэй за курган, курган — адна з адменаў капцоў й навет капцы для перахоўваньня бульбы, зрэшты, капец у сэньсе курган наагул не патрабуе тлумачэньня, ужыванае часта ў ранейшых паэтаў — і ў Купалы, і ў Жылкі ды іншых; праўдны — ня толькі праведны але й правільны паводля самога В. Ластоўскага; наш баян" нічога ня мае зь легендарным песьняром Баянам, успамінаным у "Слове аб палку Ігоравым"; гэта проста музычная істота, якая сяньня перайшла ў дзіцячы фальклёр — ведамае "Ішоў бай па сьцяне"). [illegible] чамусьці ў ягоным слоўнічку й ягоных апошніх новатвораў ужытых у паэмцы (як "сьвятляр", "буд-гутор"). Дарэчы, ува ўсёй багай бездакорнай у сваёй чысьціні лексыцы паэмкі прыкра ўражае адзіны

"савецка-беларускі", змалпаваны з расейскага барбарызм у словаўжываньні – "астатния " (у сэньсе іншыя, рэшта – рас. "остальные").

Апрача ўспомненых, не паэмцы вычуваецца й вялікі ўплыў паэзіі У. Жылкі, асабліва ягонага "Тэстамэнту", які ўжо належыў свой адбітак на некаторыя ранейшыя паэтавы творы (асабліва – на паэму "На крыльлях вольнага Пэгаса" у зборніку "Мае песьні").

За адмоўны бок Салаўёвае паэмкі пры ўсім гэтым трэба прызнаць тое, што у ёй паэта часам, як гэта казаў калісь Максім Багдановіч пра Я. Купалу й таго-ж В. Ластоўскага – Власта, "пробуе туману свайй думкі прыдаць від асаблівай глыбіні". Але найгорш можа, што гэтыя паэтавы "спробы туману", відаць, так натхнілі так ягонага рэцэнзэнта з"Шляхам жыцьця", што той ужо зусім паплыў у хмарах, плаўна вяслуючы ад "экспрэсіянізму" да "клясычных формаў вершу" і нарэшце распружваючыся такой слоўнай абракадабрай: "Паэмка зьяўляецца арыгінальным прыкладам выяўленьня духа, мэсіянізму беларускага выгнанца, хоць наагул ягоная роля затушоўваецца у нейкім агульным катаклізьме". Мы былі-б вельмі ўдзячнымі гэтаму рэцэнзэнту, каб ён тольні быў ласкаў паспрабаваць як-небудзь разгарнуць гэты свой камяк, зьлеплены зь "ізмаў", у нешта зьвязанае з канкрэтнымі мясьцінамі рэцэнзаванае ім паэмкі й, наагул, у штось людзкога цяму годнае. Думаем, што быў-бы ўдзячны яму за гэта й сам паэта, якога дасюль наагул крытыка ня вельмі што песьціць сваёй увагай. А ўжо-ж хіба было-б час і пара, і патрэба ўзяцца ёй і паказаць Салаўю яго самога, а пры гэтым можа й нахіваць ці хоць паківаць пальцам крыху...

Можа нехта й здабудзецца на у гэта бліжэйшым часам.

М. Г.

АНТОН БЯЛЕВІЧ. НА БАЦЬКОЎСКІХ СЬЦЕЖКАХ. (ПАЭМЫ Й ВЕРШЫ). ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА Б С С Р. МЕНСК, 1946. БАЛ. 111. ЦАНА 7РУБ.

Вершы Антона Бялевіча ад часу да часу зьяўляліся на балонах выданьняў Савецкае Беларусі перадваеннага часу. Цяпер перад намі ўжо цэлая нелапая кніжка вершаў і паэмаў гэтага аўтара, якая трапіла нам у рукі сярод закіданае часам у некаторыя лягеры высяленцаў "рэпатрыяцыйнае " літаратуры. Зьмешчаныя тут творы маюць за свой галоўны стрыжань партызаншчыну часоў нямецкае акупацыі Беларусі у 1941-43 гг. прасякну - тыя наскрозь патрыятычным настроем. Аднак, у выяўленьні гэтага настрою Бялевіч выгодна вырозьніяецца на фоне звычайнае казённае савецкае паэзіі. Бо хоць можа за адыходны пункт для яго ( Прынямся вонкава) тут і мог быць афіцыйны савецкі (дакладней – савецка-беларускі, "бэсэсэраўскі") патрыятызм, дык усё-ж ткі паэту ўдалося, шчасьліва абмінаючы зусім пракудны штамп партыйна-сталінаўскага культавага алялюйніцтва (як наўзьдзіў, у цэлым зборніку аніразу – ні проста, ні як-небудзь ускосна – ня ўспомненыя ані навет сам "вялікі Сталін", ані ягоная "мудрая партыя бальшавікоў"!), так высака ўзьняцца, што ён у некаторых сваіх рэчах дасягае чыста-нацыянальстычнага вызваленскага тону, выступаючы супраць усіх і ўсякіх чужынцаў-паняволнікаў наагул. У гэтым для нас галоўная вартасьць рэцэнзаваных твораў, якая робіць некаторыя зь іх зусім

блізкімі нам, так што настроі іхныя могуць быць цалком падзяляныя і ўсімі сяньняшнімі выгнанцамі на эміграцыіі. За найлепшыя вершы зборніка ў гэтым дачыненьні трэба ўважаць такія, як "Чалавек з дубровы" (на ім ёсьць некаторы налёт уплываў паэзіі М. Танка), "Ля кузьнечнага горна", "Азёрны сум", "Ня сумуй, сустрэнемся, сялібa!", "У думах ты і ў сьне", "На бацькоўскіх сьцежках", "Я веру", "Як толькі вясеньнія гусі", "Упэўненасьць", "На суд", "Расказ паляўнічага" (невялічкая паэмка), "Ідзе вясна", "Пад Новы год"+)

Ёсьць у Бялевіча й колькі неблагіх прыродаапісальных ды агульна-лірычных вершаў ("Баб'е лета", "Матылі", "Лугамі – пералескамі", "Дума").

У сэньсе мастацкае культуры А. Бялевіч становіць сабою тыповага серадняка – мастака савецкае беларускае паэзіі. Усе ягоныя вершы цалком пісьменныя з гледзішча паэтыкі, няма ў іх зусім тых няўдольнасьцяў, што так характэрныя для твораў нашаніўскага (а часткава й пазьнейшага заходня-беларускага) паэтычнага серадняцтва, дый ці толькі серадняцтва... Крышку горш удаліся аўтару большыя паэмкі (гл. "Мой майстра", "Аксаньня") поуе іх часам някаторая штучнаватасьць, надуманасьць, што й бьытанасьць пaэсобных сытуацыяў і сюжэтных ходаў, а часам неашчадная размазанасьць.

І з боку мовы вершы Бялевічавы выглядаюць таксама даволі выгодна. Жарганізаваныя маскалізмы савецка-беларускае газэтнае тарабарштчыны (як "направіў крокі", "атрад", "прахлада", "расьцьвіўшыя") трапляюцца ўсё-ж ня так часта. Затое жывуць у Бялевічавай лексыцы даўно выгнаныя з афіцыйнага ўжытку ў БССР арыгінальныя й карэнныя нашыя словы ("наўсьцяж", "дужы", "стрываю", "зарослы", "суцішша", "маленства", "паратрушчым", "стрываю", "прыпадаць"). Жывуць таксама ўнесеныя ў скарбніцу паэтычнае й літаратурнае мовы У. Дубоўкам "прасьцягі", "водар", "далягляд", "знoўку". Прыжываюцца й лексычныя здабыткі літаратурнае мовы апошніх якраз тых 1941 – 1943 гг., як "наўвеце", "ягоны", "ветла", "зьічыць". Поўнымі жменямі чэрпае паэта й зь несьсякальных скарбаў народнае мовы ("нелюдзі", "абрахманіўся", "хіне", "прыштыру", "надысь", "адужым", "мрaіцца", "спакінуў", "лявo", "загнетак" і інш.). Наагул, відаць, у паэтычнай мове ў БССР яшчэ (часова?) дазваляецца ўжываць беларускія словы...

Абумоўленае ўсім гэтым агульнае ўражаньне ад кніжкі Бялевіча, такім парадкам, даволі адхланнае. Ня дзіва, што як відаць з апошніх савецкіх газэтаў, якія кагадзе трапілі нам у рукі, пачынаюць ужо там "прапрацоўваць" рэцэнзаванага намі аўтара за ягоную "несавецкасьць" (аб гэтым падрабязьней пададзём у наступным нумары нашага часапісу).

Што-ж, як заўсёды бывае, што аднаму на здароўе, тое другому – у горле косьць...

Я. В.

+) Гледзі перадрук некаторых із гэтых вершаў у нашым часапісе, бал. 47.

Рэд.

А д р э д а к ц ы і. Наступным разам у аддзеле "Кнігапіс" пастараемся даць у аннатацыях і рэцэнзіях агляд важнейшых нашых эміграцкіх выдавецтваў.

З Ь М Е С Т